ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ



# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

3 - 9 ЛІПЕНЯ 1993г. № 27 (3697)

## СПАТКАННЕ З РАДЗІМАЙ




**Учора ў сталічным оперным тэатры пад мелодыю Багдановічавай «Пагоні» пачаў работу першы з'езд беларусаў свету. Уступным словам адкрыў яго Васіль Быкаў. З'езд віталі Станіслаў Шушкевіч і Ніл Гілевіч. З дакладамі «Беларуская ідэя і адбудова беларускай дзяржаўнасці» і «Эканамічная сітуацыя і магчымасці выхаду з крызісу» выступілі Радзім Гарэцкі і Міхась Дзямчук.**

**Сёння і заўтра з'езд працягне сваю работу.**

*Лімаўцы сардэчна вітаюць дэлегатаў і гасцей Вялікага Сходу беларусаў, зычаць ім плёну ў справе Адраджэння Бацькаўшчыны і прысвячаюць з'езду гэты нумар тыднёвіка.*



*Сустрэчы перад з'ездам. На адкрыцці выставы «Жыве Беларусь!» Вольга ІПАТАВА, Масей СЯДНЁЎ, Раіса БАРАВІКОВА.*

*Фота У. Панады*

## НА ВЯЛІКІ СХОД! ПА БАЦЬКАЎШЧЫНУ!

У каторы раз, сцвярджаючы сваю памяркоўнасць /чытай «няспешнасць»/, беларусы склікалі свой сусветны з'езд пасля таго, як нашы суседзі па былым «Саюзе непарушным» правялі па дзве-тры сустрэчы такога маштабу. Не ўсё было гладка з падрыхтоўкай з'езда: у наскрозь спалітызаваным грамадстве інакш быць не магло. Як помніцца, масавыя мерапрыемствы — любімае дзіця таталітарных рэжымаў, ці не таму ідэя з'езда насцярожыла БНФ і беларускую дэмакратыю ўзору пачатку 90-х гадоў. Зразумець гэтую насцярожанасць можна, ды цяжка было б зразумець беларусаў, калі б яны адклалі свой форум, ігнаруючы свае жаданні і замоцна зважаючы на характар сучаснай улады...

На традыцыйна-застойнае пытанне — з чым ідзём насустрач з'езду? — вышэйшыя эшалоны ўлады адказалі па-свойму. Становішча там напярэдадні з'езда можна было ахарактарызаваць адным словам: скандал. Вярхоўны Савет падрыхтаваў свой «падарунак» з'езду — месца старшыні беларускага парламента ў прэзідыуме з'езда магло аказацца вакантным. Саўмін завіс паміж «зайцам» і рублём, і размову на роўных з рэспублікай вядуць цяпер не прэзідэнты і прэм'еры, а банкаўскія чыноўнікі сумежнай дзяржавы...

Сучаснай Беларусі востра не стае нацыянальнай еднасці. Вакол Вярхоўнага Савета ці Савета Міністраў з'яднацца нельга; нацыянальнага лідэра — няма. «Бацькі» нацыі больш затурбочаны настальгіяй па мінулым або звядзеннем рахункаў з ім, і пры такім настроі пытаць пра будучыню не выпадае. Уся рэспубліка апынулася заложніцай мінулага. Яно цісне і не дае развінуцца нацыянальнай палітыцы, эканоміцы, адукацыі, культуры і г. д.

Палітычных маніпуляцый і да з'езда, і на з'ездзе, і пасля яго хопіць, каб з'езд запомніўся надоўга. Пэўна, размова адбудзецца сур'ёзная, і рашэнні будуць прыняты дзяржаўнага маштабу. Ды ўсё ж з цікаўнасцю і надзеяй буду чакаць іншага — таго, што выйдзе за рамкі палітычнай кан'юнктуры.

Ці пакіне з'езд адбітак у беларускай нацыянальнай псіхалогіі?

Як паказала практыка, большасць камуністаў у свой час адчувалі сябе такімі толькі падчас партсходаў. Ці будуць беларусы памятаць, што яны беларусы, калі адшумяць з'ездаўскія дні?

Для многіх з'езд — гэта доўгачаканая сустрэча з Беларуссю. Той Беларуссю, чый ідэал яны захавалі і выпеставалі ў сабе. Ці вытрымае гэты ідэал праверку рэчаіснасцю? Радзіма — маці ці Радзіма — мачаха?.. Любіць Беларусь у сабе для многіх аказваецца прасцей, чым любіць Беларусь вакол сябе. Ці не гэта прычына трагедыйных нот, што праслухоўваюцца ў беларускім Адраджэнні?

З'ездаўскі цягнік хутка набярэ імклівасць, пройдзе ад фэста да фэста. За вакенцам прамільгне сапраўдная Беларусь, з яе трывогамі і надзеямі, — прамільгне і застанецца... Можа, сапраўды, маюць рацыю тыя, хто прапаноўвае ў якасці беларускага гімна паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай»? Нацыянальны сімвал: нарадзіцца — з'ехаць — вярнуцца — і зноў з'ехаць... І бачыць сны аб Беларусі...

Ды ўсё гэта будзе пасля з'ездаўскіх урачыстасцяў. А пакуль беларуская зямля сустракае сваіх дачок і сыноў, не гасцей...

**Андрэй КІШТЫМАЎ**

Парламент

# АКРЫЯЛІ!

## НА XII СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Недзе напрыканцы 80-х гадоў кабінеты абодвух прарэктараў Белдзяржуніверсітэта Станіслава Станіслававіча Шушкевіча і Валерыя Гур'евіча Ціхіні знаходзіліся амаль побач. Але неўзабаве час развёў іх па іншых калідорах — кар'ера В. Ціхіні крута пайшла ўгару, ён быў прызначаны міністрам юстыцыі рэспублікі, а, потым, не паспеўшы як след нагрэць міністэрскае крэсла, перасеў у кабінет сакратара ЦК Кампартыі Беларусі. С. Шушкевіч, як вядома, быў спачатку абраны народным дэпутатам СССР, а пасля і народным дэпутатам Беларусі, стаў першым намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета, а пасля адстаўкі з гэтай пасады М. Дземянцея ўзначаліў вышэйшы заканадаўчы орган улады рэспублікі. Ён быў адным з трох кіраўнікоў былых саюзных рэспублік, якія ў канцы 1991 года ў Віскулях падвялі рысу пад існаваннем савецкай імперыі, апошняй імперыі ў свеце.

Міжволі ўсё гэта прыгадалася мне ў аўторак 6 ліпеня на ранішнім пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета, калі В. Ціхіня выступаў у «Розным». Не ведаю, ці быў ён на пасяджэннях сесіі ў канцы мінулага тыдня, калі пракамуністычная большасць парламента разыграла шабаш з вынясеннем вотуму недаверу Старшыні Вярхоўнага Савета. Ва ўсякім разе голасу яго тады не было чутно. Затое ў дзень, пра які я распавядаю, Валеры Гур'евіч вырашыў, як кажуць, навярстаць упушчанае. Выступіўшы першым, ён з месца ў кар'ер катэгарычна патрабаваў адстаўкі С. Шушкевіча, які, бачыце, робіць выгляд, што нічога не здарылася, у той час, як ён, Шушкевіч, «вывалился из колесницы истории» і цяпер разам са сваімі сябрамі з БНФ «пожинает плоды своей деятельности по развалу СССР, этим самым ввергнув Белоруссию и всю страну в пучину политического и экономического кризиса».

Я ўслухоўваўся ў самаўпэўнены голас Валерыя Гур'евіча і перад маімі вачыма паўставаў здымак, які ў канцы жніўня 1991 года абышоў многія газеты рэспублікі. На ім былы сакратар ЦК КПБ В. Ціхіня: палахліва ўцягнуўшы галаву ў плечы, ішоў сярод разгневанага натоўпу. Было гэта акурат у дні, калі Вярхоўны Савет пасля разгрому ГКЧП прыняў пастанову аб прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС. Тады В. Ціхіня і яго паплечнікі па кіраўніцтве кампартыі стараліся не прыцягваць да сябе ўвагу грамадскасці, гаворачы сучасным сленгам — імкнуліся «не возникать». Сёння, пасля адмены Вярхоўным Саветам сваёй пастановы аб прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС, яны акрыялі і прагнуць рэваншу. І нідзе, бадай, так яскрава гэта не праяўляецца, як у нашым парламенце, дзе праводзіцца мэтанакіраваная работа па тармажэнні дэмакратычных пераўтварэнняў у рэспубліцы.

Яшчэ на адным выступленні ў «Розным» хацелася б спыніцца. З дэпутатам ад камуністычнай фракцыі, сакратаром ЦК ПКБ М. Качаном я не знаёмы, ніколі з ім не сустракаўся, але, дальбог, паміж намі існуе нейкая падсвядомая сувязь. Кожны раз са стопрацэнтнай упэўненасцю магу спрагназаваць, пра што будзе гаварыць гэты адзін са старэйшых па ўзросце парламентарыяў — па-першае, што апазіцыя БНФ — агент міжнароднага капіталу і вораг беларускага народа, па-другое, што трэба аднаўляць Савецкі Саюз, вяртацца да камуністычных парадкаў, якія гарантавалі народу шчаслівае жыццё. Усё гэта ён паўтарае, як вернік — «Ойча наш».

На гэты раз М. Качан вырашыў крыху разнастаіць «меню» свайго выступлення, зрабіць яго больш прадметным. Ён папярэдзіў працоўны люд Беларусі аб небяспецы маючага адбыцца ў Вярхоўным Савеце прыняцця Закона аб імянных прыватызацыйных чэках. Закон гэты, на думку прамоўцы, ператворыць працоўных у рабоў. «Это уже было в нашей истории, — сказаў ён, — я имею в виду крепостное право. Но тогда трудящиеся были рабами у своих, а теперь это будут иностранные капиталисты».

Можна, вядома, пасмяяцца з гэтага афронту не вельмі пісьменнага чалавека /у рэшце рэшт, таварыш Качан у ЦК ПКБ не лічыцца тэарэтыкам, тэарэтык там таварыш Чыкін/, калі б не адна акалічнасць — вельмі ж яго думка, як бы яна ні была выкладзена, пераклікаецца з урадавай пазіцыяй адносна ўвядзення імянных прыватызацыйных чэкаў, ды яшчэ, як прапануе закон, бязвыплатных. Помню выступленне ў парламенце старшыні камітэта па кіраванні дзяржмаёмасцю рэспублікі пры Саўміне Мацюшэўскага, які, адстойваючы пазіцыю ўрада, прасіў пачакаць з прыняццем гэтага закона, палохаючы заканадаўцаў тым, што сам механізм «ваўчарызацыі» патрабуе шматмільярдных дзяржаўных выдаткаў.

Не хачу сурочыць, але, улічваючы, што М. Качан прадстаўляе парламенцкую большасць, «прахаджэнне» нагаданага закона ў Вярхоўным Савеце будзе, відаць, цяжкім. Ды і наогул вельмі праблематычна, што ён будзе прыняты гэтым складам парламента. Дай божа, каб я памыліўся.

З таго, што яшчэ адбылося тым днём на сесіі, варта адзначыць прыняцце Закона аб унясенні змяненняў у крымінальны і крымінальна-працэсуальны Кодэксы Рэспублікі Беларусь. Па прадстаўленні старшыні Вярхоўнага Суда рэспублікі У. Каравая з гэтых кодэксаў былі выключаны артыкулы, якія прадугледжвалі пакаранне смерцю за эканамічныя злачынствы. Цяпер максімальнай мерай пакарання за падобныя злачынствы будзе пазбаўленне волі на 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права асуджанага на амністыю, ці ўмоўна-датэрміновае вызваленне.

**Міхась ЗАМСКІ**

**P.S.** 7 ліпеня, так і не знайшоўшы выйсця з тупіка, XII сесія закончыла работу. Неразгледжаныя пытанні парадку дня перанесены на восень...

# «НАША ТРАГІЧНАЯ ЗДОЛЬНАСЦЬ...»

## ВЫСТУПЛЕННЕ НА XII СЕСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДЭПУТАТА ПАРЛАМЕНТА, НАРОДНАГА ПАЭТА БЕЛАРУСІ НІЛА ГІЛЕВІЧА 6 ЛІПЕНЯ 1993 Г.

Шаноўныя калегі дэпутаты!

Наш парламент называецца Вярхоўнай Радай, па-руску — Вярхоўным Саветам. Рада — каб радзіцца, разам думаць, абмяркоўваць і прымаць рашэнне, а не весці баталіі, не ператвараць парламент у пасмешышча. Выбачайце, але дзяржаўныя мужы не маюць права на такія паводзіны. Асабліва — у цяжкіх сітуацыях. Гэта — недазволеная роскаш — тры дні патраціць на пустую перапалку, замест таго, каб спакойна, удумна рашаць наспелыя і пераспелыя эканамічныя, сацыяльныя, экалагічныя і іншыя праблемы. Дарэчы, пра гэта з болем у сэрцы гаварылі тут і маладая па ўзросце В. Галубовіч і далёка немалады А. Дубоўскі, і іншыя дэпутаты. На вялікі жаль, асабістыя амбіцыі і палітычныя страсці ўзялі перавагу над розумам, над мудрасцю, над разважнасцю. Але зразумеем і запомнім: пераможцаў у гэтай унутрыпарламенцкай барацьбе не будзе. І невінаватых, як многія думаюць, у гэтай зале няма. Хто больш, хто менш — але вінаваты мы ўсе. Ніхто з нас не мае манапольнага права на ісціну, на патрыятызм, на асобую адказнасць перад народам, перад дзяржавай.

Яшчэ і яшчэ раз прыходзіцца думаць аб тым, як нам шкодзіць наша трагічная здольнасць — шукаць вінаватага, шукаць «казла адпушчэння». Не прычыны ўскрываць, не аналізаваць сітуацыю і прыходзіць да аптымальнага варыянту высноў, — а шукаць вінаватых. Гэта — самае горкае і сумнае. Што ў нас у зале найчасцей гучыць? Узаемныя папрокі: вы, вы, вы! І з аднаго, і з другога боку толькі і чуем: гэта вы, гэта вы, гэта вы!.. Дык вось — не вы, а мы! Мы — усе разам, шаноўныя таварышы, спадары, панове! Калі ж мы не здольныя на такое — каб разам шукаць выйсце, — тады застаецца адно: самароспуск. І трэба набрацца мужнасці на гэта — на самароспуск. На тое, каб распісацца ў сваёй бездапаможнасці, у сваёй няздольнасці вырашаць дзяржаўныя справы. А хіба гэта непазбежны фінал? У нашым парламенце дастаткова людзей высокай кваліфікацыі — і гаспадарнікі, і адміністратары, і тэарэтыкі, і вайскоўцы, і палітыкі... Тое ж самае і ва ўрадзе — і там ёсць разумныя дзелавыя людзі. Што ж ад нас усіх чакаюць грамадзяне дзяржавы, нашы выбаршчыкі? Згоды, а не міжусобіцы. Згоднай супольнай дзейнасці. Мы ўтварылі сваю суверэнную дзяржаву. Яе прызнаў і прывітаў свет. І свет хоча бачыць у Рэспубліцы Беларусь дастойнага, вартага павагі і даверу партнёра. Дык, можа, будзем думаць і клапаціцца перш за ўсё пра гэта — пра дабрабыт народа і аўтарытэт дзяржавы? Я заклікаю вас усіх іменна да гэтага.

# ПАСЛУЖЫЦЬ СПРАВЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ЯДНАННЯ

## ПАСЛАННЕ МІТРАПАЛІТА МІНСКАГА І СЛУЦКАГА ФІЛАРЭТА, ПАТРЫЯРШАГА ЭКЗАРХА ЎСЯЕ БЕЛАРУСІ, ЧЛЕНА СВЯШЧЭННАГА СІНОДА ЎДЗЕЛЬНІКАМ З'ЕЗДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Шаноўныя спадары, браты і сёстры!

Праваслаўная Царква Беларусі вітае вас на роднай зямлі і жадае плённай працы на карысць духоўнага і культурнага адраджэння беларускага народа, на карысць міру і згоды паміж людзьмі.

Гісторыя раскідала беларусаў па свеце, падзяліла дзяржаўнымі і канфесійнымі межамі, але жыве асноўнае, што яднае ўсіх, — беларушчына, родная зямля, народ, мова, культура, агульныя хрысціянскія прынцыпы маралі, узгадаваны Царквою беларускі менталітэт, дарагія ўсім народныя традыцыі — усё тое, што мы завем душой народа.

Працэс нацыянальнага яднання павольна, але ідзе. Так, на вялікіх урачыстасцях 1992 года з нагоды 1000-годдзя Праваслаўнай Царквы на Беларусі і зусім нядаўна падчас свята Ўсіх беларускіх святых, калі адзначалася 200-годдзе Мінскай епархіі, да нас прыязджалі госці з розных кантынентаў і краін, і сярод іх шмат беларусаў. У апошнія гады, калі ўзнавіліся ўсе 10 старажытных беларускіх праваслаўных епархій, на епіскапскія кафедры і на прыходы, выкладчыкамі аднаўленай Мінскай Духоўнай Семінарыі вярнуліся на радзіму многія беларусы з былога Саюза. Зрабіць гэта было не лёгка, бо з благаславення Царквы і Патрыярха яны служылі ў іншых месцах, але з дапамогай Яго Свяцейшаства Патрыярха Аляксія ўсё ўладкавалася. Зараз намеснікам Жыровіцкага манастыра з'яўляецца выхаванец Маскоўскай Духоўнай Акадэміі архімандрыт Гурый са Свята-Троіцкай Сергіевай Лаўры, з Акадэміі вярнуўся на радзіму протаіерэй Сергій Гардун, які выкладае ў Семінарыі Біблейскую гісторыю на цудоўнай беларускай мове.

З дзесяці нашых епіскапаў восем — беларусы, большасць якіх вярнуліся з Расіі. У навукова-багаслоўскіх справах Беларуская Царква заўсёды мае падтрымку і дапамогу вядомага сучаснага багаслова беларуса протапрэсвітэра Віталія Баравога, прафесара Маскоўскай Духоўнай Акадэміі. У гэтым імкненні беларусаў працаваць на радзіме бачыцца мне добры плён суверэннасці Беларусі, утварэння самастойнага Беларускага Экзархата.

Мы з радасцю сведчым, што паспяхова адраджаюцца беларускія манастыры — у Полацку, Гародні, Магілёве, Оршы. У аднаўленай Тураўскай епархіі XI стагоддзя сёлета быў урачыста адкрыты і асвечаны помнік свяціцелю Кірылу, епіскапу Тураўскаму.

Беларуская Біблейская Камісія ажыццявіла пераклад Святога Евангелля паводле Матфея, які быў выдадзены ў 1991 годзе. Праца над беларускім перакладам Новага Запавету працягваецца, і хацелася б ведаць адносіны беларускай дыяспары да якасці гэтага перакладу. Думаецца, што прыбыўшым з-за мяжы будзе цікава пазнаёміцца з нядаўна выдадзенымі па благаславенні Царквы кнігамі «Шлях немаркотны. Нарысы гісторыі святасці Белай Русі» Аляксея Мельнікава і «Жывапіс Полацкай зямлі XI-XII стагоддзяў» Адольфа Сяліцкага.

Мы атрымліваем замежныя рэлігійна-грамадскія часопісы з дыяспары, але хацелася б, каб Мінская Духоўная Семінарыя больш мела замежных беларускіх выданняў, незалежна ад іх канфесійнай прыналежнасці. Калі мы будзем лепш ведаць адзін аднаго, ведаць жыццё нашых Цэркваў, — будзе ўсталёўвацца мір і згода, будзе будавацца наш агульны дом — Беларусь. Пошук ворагаў, гістарычных правінаў — не хрысціянскі, заганны шлях. Зараз, у цяжкія для Беларусі чарнобыльскія часы больш за ўсё патрэбна адзінства народа, усіх беларусаў — на радзіме і ў дыяспары. І ўсе мы павінны не забывацца аб хрысціянскім аптымізме, аб словах, што сказаў пасля Уваскрасення Гасподзь наш Ісус Хрыстос: «Радуйцеся!», — бо перамог смерць, уладу граху і дыявала.

Беларусь атрымала зямную свабоду веравызнання, царкоўнага жыцця, хрысціянскага выхавання дзяцей і моладзі, свабоду аднаўляць і будаваць храмы і манастыры. Дык будзем жа ўдзячныя Богу і будзем памятаць словы Збавіцеля: «Няхай будуць усе адно: як Ты, Айцец, ува Мне, і Я ў Табе, так і яны няхай будуць адно» /Ін. 17, 21/.

У адзінстве і любові Хрыстовай нашае выратаванне. Жадаю З'езду беларусаў свету паслужыць справе нацыянальнага яднання і духоўнага адраджэння Беларусі!

Божае благаславенне вам! Няхай покрыў Найсвяцейшай Багародзіцы Жыровіцкай і Мінскай і малітва Беларускіх святых заўсёды будуць з вамі.

*Мінск, чэрвень 1993 г.*

Яўген ХВАЛЕЙ

# БЕЛАРУСЫ СВЕТУ

**Параскідваў лёс**
**Нас па ўсёй планеце.**
**Сніцца ў белым свеце,**
**Беларусь, твой плёс.**

**Беларусы свету,**
**Шляхам жураўліным**
**Паляцім дасвецщем**
**Да сваёй Айчыны.**

**Рэчак і азёр**
**Паясы, вяночкі —**
**Кліча, кліча з прочак**
**Беларускі ўзор.**

**Бацькаўшчыны сцяг,**
**Зорная Пагоня**
**Вернуць нас сягоння**
**На забыты шлях.**

**Сыдуцца сыны**
**Ля агню Купалля,**
**Дзе душу апаліць**
**Песня з даўніны.**

**Беларусы свету,**
**Клінам жураўліным**
**Паляцім дасвецщем**
**Да сваёй Айчыны...**

Канферэнцыі

# МІНУЛАЕ, СУЧАСНАСЦЬ, БУДУЧЫНЯ

6 ліпеня ў Купалаўскім тэатры кіраўнікі палітычных партый дэмакратычнага напрамку разам з паўнамоцнымі прадстаўнікамі беларускай дыяспары правялі III Усебеларускую палітычную канферэнцыю.

Метраполію прадстаўлялі Аб'яднаная дэмакратычная партыя, Беларускі народны фронт «Адраджэнне», Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада, Беларуская сялянская партыя, Партыя народнай згоды, Жаночы хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі. Дыяспару — беларускія арганізацыі Амерыкі, Еўропы і Аўстраліі.

Канферэнцыя дала палітычную ацэнку II Усебеларускай палітычнай канферэнцыі 1925 года, разгледзела сучаснае палітычнае становішча Беларусі, выказалася аб будучым дзяржаўным і палітычным ладзе Рэспублікі Беларусь. Прыняты адпаведныя рэзалюцыі.

Удзельнікі канферэнцыі выказаліся за адмену незаконнага рашэння Вярхоўнага Савета РБ ад 29 кастрычніка 1992 года і правядзенне рэферэндуму аб датэрміновых выбарах новага парламента Беларусі на падставе дэмакратычнага закона.

Галоўнай прычынай сучаснага крызісу ў Рэспубліцы Беларусь названа панаванне старой палітычнай сістэмы, заснаванай на манаполіі дзяржаўнай уласнасці і ўладзе камуністаў. Прапанаваны канкрэтныя захады па выхадзе з крызісу.

IV Усебеларуская палітычная канферэнцыя мае адбыцца ў наступным годзе. Яна будзе прысвечана становішчу беларусаў на этнічных беларускіх землях у складзе сумежных з РБ дзяржаў.



# Спатканьне з Радзімаю

Беларусы... Колькі іх, раскіданых лёсам па сьвеце. Колькі дарог...
Але сёньня дарога дамоў.

Дзень добры, беларусе!
Ну, вось ты й на Радзіме. Яна цябе чакала. Чакала ўсімі кветкамі,
што маюць расьцьвісьці на Яна, на Купальле.
Цябе сягоньня можна зразумець... У тваім сэрцы – цэлы сьвет,
дзе йшчэ жывуць надзеі ды ўспамін маленства.
Праз смугу гадоў цябе вабіць красой Беларусь, нібы чар.
У якіх бы краёх ты ня быў – уваччу далягляд, гэты лес і рамонкавы луг.
Па дарогах жыцьця, у вандраваньнях па сьвеце ты ня страціў,
зьбярог найдарожшы свой скарб – самабытную матчыну мову.
Безь яе як зьяднаць свае сэрцы братам - беларусам?!

...Цягнік жыцьця імчыць далей, а зь ім і дум нашых імкненьні.
Пошукаў плён, працы здабытак, багацьце душы – на Беларусь!



# КАБ НЕ БЫЦЬ НЯМЫМІ...

## СВЯТА ПАЭЗІІ І ПЕСНІ Ў ВЯЗЫНЦЫ

Ля імправізаванай сцэны сабраліся сотні людзей. Сабраліся на свята песні, музыкі, паэзіі... На Купалава свята. Прыехалі яны не толькі з Мінска, Радашкавіч, Маладзечна, адкуль лёгка дабрацца электрычкай, а і з Валожына, Вілейкі, Смаргоні, Слуцка... Па добрай традыцыі, што не забываецца і ў наш час, наведаліся ў Вязынку і госці з братніх Украіны і Літвы.

Усхвалявана, эмацыянальна чытае свой верш «Ля карціны П. Сергіевіча «Званар» Алесь Пісьмянкоў. Радкі яго як ніколі актуальныя. Народ наш ачуньвае ад нацыянальнага бяспамяцтва. І твор А. Пісьмянкова не толькі пра П. Сергіевіча, але і пра Купалу таксама, пра ўсіх нашых адраджэнцаў, чый грамадзянскі подзвіг стаў ужо гісторыяй.



Свята адкрываецца...



Аўтограф дае Уладзімір Паўлаў.



Выступае Алесь Пісьмянкоў.

Свята і пачалося менавіта з адраджэнскіх матываў. Тон гаворцы ў многім задаў старшыня Маладзечанскага райвыканкама А. Луновіч. Адзначыўшы, што Купалавы традыцыі жывуць і прадаўжаюцца на спеўнай і прыгожай маладзечанскай зямлі, ён гаварыў аб неабходнасці жыць і працаваць так, як завяшчаў пясняр. Сёлетняе свята ў Вязынцы — гэта не толькі свята паэзіі і працы, а і памяці, бо правядзенне яго супала з днём вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Але яно — і свята Адраджэння. На гэтым моманце засяродзіў увагу намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Паўлаў: «Ворагі беларушчыны робяць усё, каб кволыя парасткі Адраджэння, вяртання да нацыянальнай памяці растаптаць, законы, прынятыя Вярхоўным Саветам год-два-тры назад, зганьбіць, адмяніць... Яны хочуць, каб на Беларусі было дзве дзяржаўныя мовы. Дык жа не трэба забываць, што чалавек мае адну маці. Ёсць мова — ёсць народ, ёсць нацыя, ёсць дзяржава! Няма мовы — мы ніхто, мы зноў нечыя прыслужкі, безадмоўныя пастаўшчыкі рабсілы на лесапавалы ў Карэліі, цаліну Казахстана, мерзлату БАМа, пастаўшчыкі гарматнага мяса ў войнах за нечыя амбіцыі, чужыя інтарэсы». У. Паўлаў гаварыў пра Я. Купалу як пра духоўнага бацьку новай Беларусі, як пра таго, хто заклікаў беларусаў «людзьмі звацца»...

Яшчэ да рэвалюцыі, зазначыў А. Вярцінскі, Я. Купала ўзняў голас у абарону беларускасці, стаяў на пазіцыях нацыянальнага Адраджэння. Яго паэзія з'явілася выказніцай народных дум, выяўленнем народнага духу. А. Вярцінскі прачытаў некалькі сваіх вершаў. Сярод іх «На паклон да Кабзара», што напісаны быў у час традыцыйнага шаўчэнкаўскага свята ў Каневе, і «Перад святам паэзіі».

Вершы чыталі В. Аколава, украінскі паэт П. Гарэцкі, М. Скобла, члены слуцкага і маладзечанскага літаратурных аб'яднанняў — вершы пра Маці-Беларусь, родную мову, пра тое, як цяпер неабходна быць нам разам, ладзячы ва ўласным доме парадак і дабрабыт.

Нізку Купалавых вершаў прачытаў артыст Беларускай дзяржаўнай філармоніі М. Казінін, а самадзейныя артысты Маладзечаншчыны наладзілі вялікі святочны канцэрт. І, вядома ж, шмат было жадаючых пазнаёміцца з экспазіцыяй філіяла музея — колішняй хаты Дамініка Луцэвіча, у якой 111 гадоў назад нарадзіўся Яська, якому талентам і лёсам было наканавана стаць сусветна вядомым паэтам Янкам Купалам.

Ды і будынак колішняга свірна Луцэвічаў не пуставаў. У ім вялікую цікавасць выклікала экспазіцыя «Купалле». Старадаўнія рэчы, прадметы хатняга побыту, вырабы з саломкі, габелены, унікальныя ручнікі — усё гэта вяртала ў беларускую даўніну. Хаця, чаму толькі вяртала? У пэўнай ступені давала і магчымасць зазірнуць у нашу будучыню. Адраджаючыся ж, мы ўсё часцей азіраемся назад, каб узяць усё лепшае, на што здатны быў народ. Таму і не забываем на традыцыі. Таму і памятаем пра даўнія промыслы.

Свята адбылося, прынесла нямала радасных, незабыўных хвілін кожнаму, хто прыехаў сюды. У гэтым, безумоўна, заслуга маладзечанскіх уладаў, Міністэрства культуры Беларусі і, вядома ж, дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы Ж. Дапкюнас.

**Уладзімір КРУК /фота/,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

●

А пад вечар, 7 ліпеня, у дзень нараджэння паэта, а 19-ай гадзіне сабраліся прыхільнікі яго таленту ля помніка песняру ў Купалавым скверы. Урачыстасці адкрыла дырэктар Літаратурнага музея Я. Купалы Ж. Дапкюнас. Перад прысутнымі выступілі намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі У. Паўлаў, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А. Вярцінскі, Р. Баравікова, К. Цвірка, С. Законнікаў, перакладчыца з Англіі В. Рыч.

У канцэрце прынялі ўдзел самадзейныя артысты, славутыя «Песняры».

Папярэднікі

# ВЕДАЦЬ КАРАНІ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

***Не на пустым месцы паўстала цяперашняе Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Згуртаванне, што сваёй мэтаю бачыць кансалідацыю беларусаў дзеля адраджэння нацыі і дзяржавы.***

***І далейшая мая гаворка — пра арганізацыю, дзедзічам якой, можна сказаць, і з'яўляецца ЗБС.***

17 жніўня 1918 года Менскі акруговы суд зацвердзіў статут Беларускага культурна-прасветнага таварыства «Бацькаўшчына». Арганізатарам і старшынёй Цэнтральнага праўлення Таварыства стаў Кастусь Барысавіч Езавітаў, высілкамі якога і трымалася ўся далейшая праца «Бацькаўшчыны». Таварыства мелася «праводзіць ідэю беларускага нацыянальнага адраджэння ў масы беларускага народа і яго суседзяў», «дапамагаць прасвеце беларускага народа» і да т.п. У статуце было запісана, што Таварыства «распрастраняе сваю працу не толькі на беларускую тэрыторыю /губ.: Віцебская, Магілёўская, Смаленская, Мінская, Віленская, часць Чарнігаўскай/, але і на ўсе тыя мясцовасці, дзе заўжды ці часова існуюць беларускія калоніі». Для тых, хто не дасягнуў 18 гадоў, стварал́іся асобыя «Гурткі моладзі пры Таварыстве «Бацькаўшчына». На выданнях статута была змешчана эмблема «Бацькаўшчыны» — выява беларускі ў нацыянальным строі з бел-чырвона-белым сцягам у руках.

Пазней К.Езавітаў арганізоўваў аддзелы Таварыства ў Беластоку, Горадні, Коўне — ва ўсіх тых гарадах, куды закідваў яго бурлівы лёс. Таварыства выдавала беларускую літаратуру, паштоўкі з выявамі этнаграфічных межаў Беларусі; у Горадні выходзіла нават спецыяльная газета з аднайменнай назвай «Бацькаўшчына». Праца аддзелаў рэгулявалася паводле «Устава Аддзела Беларускага культурна-прасветнага таварыства «Бацькаўшчына», што быў аддрукаваны ў Коўне ў 1919 годзе. Аддзел Таварыства складаўся з сяброў — «пачотных, дзействіцельных і сарэўнавацелеў». «Сарэўнавацелямі» маглі быць прыхільныя да беларускага руху асобы іншых нацыянальнасцей. Сродкі аддзела складаліся з членскіх складак, ахвяраванняў, «збораў, палучаемых ад устройства сямейных літаратурных і музыкальна-драматычных вечароў, спектакляў, балоў, маскарадаў, маёвак, лекцый, латарэй і базараў». У тых жа мэтах аддзелам рэкамендавалася таксама «арганізоўваць каапературывы, кніжныя крамы, сталовыя і клубы, з устройствам у апошніх гульняў у даміно, шашкі, лато, шахматы, більярд і карты».

У 1919 годзе палкоўнік К.Езавітаў, тады шэф вайскова-дыпламатычнай місіі БНР у Латвіі і Эсціі, стварае Рыжскі аддзел «Бацькаўшчыны». Пры ім адчыняецца клуб, пачаў выдавацца ілюстраваны часопіс «На Чужыне». На жаль, выйшаў толькі першы нумар, у якім змешчаны матэрыялы пра беларусаў у Латвіі, Эсціі, Літве, Фінляндыі. У рэдакцыйным артыкуле паведамлялася, што часопіс выпускаецца дзеля таго, каб «выявіць усе беларускія сілы, працуючыя на чужыне, каб злучыць іх у моцны звязак і працягнуць руку помачы нашым змучаным братам на Бацькаўшчыне». Рыжскі аддзел меў цесную сувязь з амерыканскімі беларусамі, забяспечваў іх беларускай літаратурай, дапамагаў арганізоўваць нацыянальную працу.

18 сакавіка 1921 года ў Рызе Расія і Польшча, падзяліўшы між сабою Беларусь, заключаюць мірную дамову. І, як своеасаблівы адказ на драпежніцкі акт — Беларусь не скарылася, жыве беларускі рух! — літаральна праз некалькі дзён, 25 сакавіка, у латвійскім Дзвінску закладваецца Беларускае культурна-прасветнае таварыства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі /старшыня — Ян Харлап, заступнік — Кастусь Езавітаў/. Яно прадоўжыла традыцыі сваіх папярэдніц, але ва ўмовах незалежнай Латвіі павінна было насіць зусім іншы, абмежаваны рамкамі адной краіны, характар. Аддзелы Таварыства дзейнічалі ў Люцыне, Краслаўцы, Прыдруйску, шэрагу іншых мястэчак і вёсак Латгаліі /на спаконвечных этнічных беларускіх тэрыторыях/. Стараннямі «Бацькаўшчыны» былі створаны Беларускі аддзел пры Міністэрстве асветы Латвіі і Беларускае выдавецтва, адчынены дзесяткі беларускіх школ, дзве гімназіі, настаўніцкія курсы.

Але ўзрастанне нацыянальнай самасвядомасці мясцовых беларусаў непазбежна павінна было прывесці /і прывяло ўрэшце/ да іх палітычнай актывізацыі. У гэтых умовах і адбыўся вядомы судовы «Беларускі працэс» 1924-25 гадоў. Чаму ён стаўся магчымым? Адказ адзін: палітыка. Маю на ўвазе не проста амбіцыйныя і да т.п. гульні, а менавіта вялікую палітыку, якая складае асновы сацыяльнага інстытута ўлады і кіравання, якая ўшчыльную закранала дзяржаўныя інтарэсы Латвіі і яе памежнікаў — СССР і Польшчы. Падчас «Беларускага працэсу» на лаве падсудных апынуліся К.Езавітаў, У.Корці, У.Пігулеўскі, І.Краскоўскі, А.Якубецкі, П.Мядзёлка-Грыб, П.Жэрдзі, М.Іваноў. Ім інкрымінаваўся ўдзел у «злачынным таварыстве ў Латгаліі», якое быццам бы ставіла сваёй мэтай далучыць да беларускай дзяржавы некаторыя паветы Латвіі.

Аднымі з галоўных былі і абвінавачванні ў спробах заснаваць аб'яднаны беларускі фронт дзеля беларускага адраджэнскага руху, у кантактах з беларускімі арганізацыямі за мяжой. У ходзе судовага разбору сведкі абвінавачання спрабавалі давесці, што цэнтр «Бацькаўшчыны» знаходзіцца ў Менску: што Таварыства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі, «нягледзячы на афіцыйны статут, пачало працаваць таксама і паводле ўстава менскае «Бацькаўшчыны».

Беларускі працэс скончыўся поўным апраўданнем падсудных. Але падзеі гэтыя, тым не менш, прывялі да заняпаду і спынення працы Таварыства «Бацькаўшчына» ў Латгаліі.

Шмат тут павучальнага для нашай сённяшняй рэчаіснасці. Відавочна, існуюць аб'ектыўныя заканамернасці, згодна з якімі адбываюцца ўзлёты і падзенні ў культурным ды палітычным развіцці нацыянальных меншасцяў розных дзяржаў. Барахтаецеся вы, беларусы, недзе там на культурніцка-этнаграфічным узроўні — ну і барахтайцеся, а распачынаеце палітычныя заляцанні на грунце нацыянальнай кансалідацыі — то мы вас адразу да пазногця... Ці магчымае ў такой сітуацыі нейкае іншае рашэнне? Здаецца, магчымае, калі звярнуцца да вопыту сучасных ЗША і Канады. Ніхто там беларускія зямляцтвы не чапае, а ў Канадзе ўрад нават фінансавую дапамогу аказвае. Але беларусаў там, па-першае, мала, па-другое, тэрытарыяльна яны далёка ад сваёй прарадзімы. А тут — падзелены межамі, абяскроўлены, ды не зломлены духам адзіны беларускі народ, што верыць у сваю будучыню. Тут жа — на чале нацыі цэлая плеяда выбітных нацыянальных дзеячаў, якія прайшлі агонь і ваду, адраджаючы беларускую дзяржаўнасць. Вось і збаяліся Рыга з Варшавай — так і не сталі сапраўднымі мацяркамі для беларусаў, а засталіся мачыхамі; нацыянал-камуністычны бацька — савецкі Менск у хуткім часе таксама здрадзіў сваім беларускім сынам і дочкам...

Чаму ж вучыць нас гісторыя? Сённяшняя «Бацькаўшчына» мае міжнародны статус. Суполкі ЗБС створаны ў шмат якіх краінах блізкага замежжа. Дзейнічаюць яны на правах супольных сяброў або рэгіянальных арганізацый. Дык вось і існуе небяспека, што ўзмацнелыя маладыя краіны-суседзі, узнікшыя на руінах савецкай імперыі, раней ці пазней, з тых або іншых прычын распачнуць чарговы паход супраць беларускіх меншасцевых арганізацый. У такім разе ім зноў могуць быць інспіраваны «сувязі», «інструкцыі» і да т.п. з Мінска. Каб усё гэта не застала нас знянацку, нам і патрэбна ведаць свае карані.

**Валеры ГЕРАСІМАЎ,**
**намеснік старшыні Рады ЗБС.**

**P.S. 17 лістапада 1993 года спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння Кастуся Езавітава, беларускага генерала, паэта і настаўніка, удзельніка 1-га і 2-га ўсебеларускіх кангрэсаў, вайсковага міністра ва ўрадах БНР і БЦР, старшыні Беларускага культурна-прасветнага таварыства «Бацькаўшчына», «Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі», «Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў у Латвіі», рэдактара газеты «Голас беларуса» і часопіса «Беларуская школа ў Латвіі», аўтара шэрагу кніг і артыкулаў па беларусазнаўстве. Чалавека, які стаяў ля вытокаў арганізацыі беларускага эміграцкага руху. Запрашаю ўсіх зацікаўленых асоб прыняць удзел у стварэнні Ініцыятыўнага камітэта па святкаванні юбілею Кастуся Езавітава.**

**В.Г.**

В.ГАЛУБОВІЧ,
кандыдат гістарычных навук

# СЯЛІБА НА СКРЫЖАВАННІ

## БЕЛАРУСКАЯ ЭМІГРАЦЫЯ Ў 1917 — ПАЧАТКУ 1941 г.

У выніку першай сусветнай вайны, расійскай камуністычнай рэвалюцыі 1917 г. і ўпадку Беларускай Народнай Рэспублікі /пракламаванай Першым Усебеларускім Кангрэсам у Менску 30 снежня 1917 г., незалежнасць якой Рада БНР абвясціла 25 сакавіка 1918 г./ — Беларусь пакінула 122 000[1] яе жыхароў з агульнага ліку 2 000 000[2] непрымірэнцаў да савецкай улады, пайшоўшых на эміграцыю з усяе прасторы былой расійскай імперыі. Гэта была шостая хваля масавай беларускай эміграцыі. Часткова яна ішла, разам з іншымі народамі расійскай імперыі, на ўсход — у Маньчжурыю /Харбін, Хайлар, Мулін/ і Кітай /Шанхай, Цянь-цзін, Пекін/, але асноўная маса кіравалася на захад — у Фінляндыю, Прыбалтыку, Нямеччыну, Чэха-Славаччыну, Францыю, ЗША[3].

К таму часу ў заходніх краях Еўропы дзейнічалі прызнаныя дэ-юрэ ці дэ-факта дыпламатычныя прадстаўніцтвы, місіі ці консулаты БНР: прадстаўніцтва БНР пры ўрадах балтыйскіх дзяржаў у Рэвелі на чале з інжынерам Душэўскім; Вайскова-дыпламатычная місія БНР у Латвіі і Эстоніі /шэф місіі — палкоўнік К. Езавітаў, райцы — генерал П. Вэнт і палкоўнік Шаўкоў/; прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Летувы /прадстаўнік А. Аўсянік/; консулат БНР у Рызе на чале з У. Пігулеўскім; вайскова-дыпламатычнае прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Фінляндыі ў Хельсінках /прадстаўнік — генерал А. Корчак-Крыніца-Васількоўскі, райца — палкоўнік Ю. Эльвенір/, пазней — прадстаўніцтва БНР з прадстаўніком К. Цярэшчанкам; генеральны консулат БНР пры ўрадзе Турэччыны ў Канстанцінопалі на чале з палкоўнікам І. Ермачэнкам; прадстаўніцтва БНР у Балгарыі і на Балканах /прадстаўнік генерал Галубінцаў/; прадстаўніцтва БНР пры ўрадзе Чэха-Славаччыны /прадстаўнік М. Вяршынін/; дыпламатычная місія БНР у Нямеччыне /адвакат Л. Заяц, пазней — А. Бароўскі/ і іншыя. У Берліне дыпламатычная місія БНР выдавала ў нямецкай мове тыднёвы бюлетэнь «Весткі Беларускага Прэсбюро», а ў беларускай мове — газету для ваеннапалонных «З Роднага Краю».

У Прыбалтыцы часова знаходзіліся таксама некаторыя фармацыі БНР: у паўночнай Латвіі і паўднёвай Эстоніі — Асобны атрад /каля дзесяці тысяч жаўнераў/ пад камандаю генерала С. Булак-Балаховіча. Атрад гэты, на аснове ўмовы паміж урадамі БНР і Эстоніі, да часу выхаду на сваю тэрыторыю, застаючыся асобнай вайсковай адзінкай БНР, падлягаў эстонскаму галоўнакамандаванню. У Летуве, згодна з умовою паміж урадамі БНР і Летувы ад 11 лістапада 1920 г., перабывалі адступіўшыя з Беларусі пад ціскам бальшавікоў і палякаў /ці новасфармаваныя тут/ Беларускі полк пяхоты, Беларускі швадрон, Гарадзенскі батальён былога Гарадзенскага палка, 1-ая і 2-ая асобныя беларускія роты, асобны беларускі батальён і іншыя. На чале іх стаяў генерал Кандратовіч, а па ягонай дэмісіі — беларускія афіцэры Лаўрышаў, Глінскі, Ружанцоў і іншыя. Для жаўнераў выдаваўся часопіс «Вайсковы»[4].

На эміграцыю змушаныя былі ісці і найвышэйшыя дзяржаўныя органы БНР — Прэзідыум Рады на чале з П. Крэчаўскім, Урад БНР /кабінет В. Ластоўскага/, а таксама шэраг радных і некаторыя партыйныя цэнтры. Найбольшую актыўнасць у сваёй дзейнасці яны выявілі да 1923 г.

Напачатку Урад БНР выехаў у Латвію і распачаў тут акцыю кансалідацыі нацыянальных беларускіх сіл за межамі для працягу змагання за незалежнасць БНР. 20 кастрычніка 1920 г. на палітычнай канферэнцыі ў Рызе, у якой бралі ўдзел прадстаўнікі беларускіх эсэраў /В. Ластоўскі, Я. Мамонька, інжынер К. Душэўскі, інжынер А. Галавінскі, А. Вальковіч/, сацыялістаў-федэралістаў /П. Крэчаўскі, В. Захарка, Я. Варонка, К. Езавітаў, Ю. Гадыцкі-Цвірка/ і сацыял-дэмакратаў /А. Аўсянік/, было пастаноўлена стварыць вакол урада В. Ластоўскага адзіны нацыянальны блок. Адначасова ўрад павёў акцыю, скіраваную на сарванне рыжскіх перагавораў паміж Савецкай Расіяй і Польшчай аб падзеле тэрыторыі Беларусі. Аднак на падставе мірнага пагаднення, падпісанага 11 жніўня 1920 г. паміж урадамі Латвіі і РСФСР, з асобным параграфам, паводле якога Латвія абавязвалася спыніць на сваёй тэрыторыі дзейнасць Урада БНР, ягоных дыпламатычных інстытуцыяў і ўсіх іншых беларускіх эміграцыйных арганізацый, — дыпламатычныя місіі БНР у Латвіі спынілі сваё існаванне, а Урад БНР пераехаў у Летуву, куды ў лютым 1921 г. пераехала і замежнае Бюро ЦК партыі беларускіх эсэраў — Т. Грыб, П. Бадунова і Я. Мамонька[5].

З Летувы Урад БНР звярнуўся да ўрадаў Антанты, Прыбалтыкі, Скандынавіі і Нямеччыны з просьбаю не дапусціць падзелу Беларусі ў Рызе. Да сярэдзіны лютага 1921 г. у гэтай справе было пададзена 26 мемарыялаў і дэкларацый. Праз сваю дыпламатычную дэлегацыю на чале з міністрам замежных спраў БНР палкоўнікам А. Ладновым у Парыжы Урад БНР прасіў урады Антанты паставіць на парадак дня Версальскай канферэнцыі «беларускае пытанне», дапамагчы БНР утрымаць сваю дзяржаўную незалежнасць.

Заходні свет да ўсяе гэтае акцыі Урада БНР быў глухі. 18 сакавіка 1921 г. торг паміж РСФСР і Польшчай быў закончаны і Беларусь была падзелена. РСФСР дастала сабе большы кавалак Беларусі, з якога частку далучыла да Расіі, а з рэшты выкраіла БССР. Польшча атрымала каля 100 000 кв. км з насельніцтвам амаль чатыры мільёны чалавек. Невялікія часткі Беларусі былі далучаны да Латвіі і Летувы. Не дапамагло і Слуцкае паўстанне 27.XI—28.XII 1920 г. — адно з найбольшых антысавецкіх паўстанняў у Беларусі, калі па падпісанні 12 кастрычніка 1920 г. прэлімінарнай умовы аб падзеле Чырвоная Армія пачала займаць Случчыну[6].

З Летувы Урадам БНР рыхтавалася спроба падняць паўстанне ў Заходняй Беларусі і БССР. Улетку 1921 г. для гэтай мэты былі створаны Цэнтральны Беларускі Паўстанчы Камітэт /ЦБПК/ на чале з сябрам ЦК партыі беларускіх эсэраў /былым кіраўніком Слуцкага паўстання/ адвакатам У. Пракулевічам, высланым нелегальна ў БССР. І хоць да паўстання не дайшло, арганізаваны ЦБПК партызанскі рух на землях БССР — тварэнне гэтак званай «зялёнай арміі» — занепакоіў органы савецкай ўлады. Паводле яе афіцыйных дадзеных[7], толькі ў шасці паветах тагачаснай БССР у траўні 1921 г. ужо было колькі дзесяткаў аддзелаў «зялёнай арміі» з дзвюма тысячамі партызанаў, у чэрвені колькасць партызанаў дайшла да 3500. Змаганне супраць іх вялі спецыяльна створаныя вайсковыя фармацыі ЧОНу /части особого назначения/.

Для большае кансалідацыі беларускіх нацыянальных сіл у эміграцыі Урад БНР склікаў на 25—28 верасня 1921 г. у Празе чарговую, больш шырокую, Беларускую нацыянальна-палітычную канферэнцыю, на каторую з'ехалася 37 прадстаўнікоў беларускіх нацыянальных і палітычных партый і арганізацый з Летувы, Заходняй Беларусі, Нямеччыны і Чэха-Славаччыны. Канферэнцыя выказала сваю салідарнасць з Слуцкім паўстаннем, прыняла рэзалюцыю супраць рыжскага падзелу Беларусі, пацвердзіла АКТ 25 сакавіка 1918 г., прызнала за адзіны заканадаўчы орган Беларусі Раду БНР, а за адзіны законны выканаўчы орган — Урад БНР /кабінет В. Ластоўскага/, заклікаўшы аб'яднацца вакол іх усе цэнтры беларускай эміграцыі.

На 10 красавіка 1922 г. з ініцыятывы англійскага прэм'ер-міністра Д. Лойд Джорджа ў Генуі была склікана міжнародная канферэнцыя па эканамічных і фінансавых пытаннях. У ёй брала ўдзел 29 краёў. На абмеркаванне канферэнцыі ставілася таксама пытанне аб палітычным упарадкаванні ўсходняй Еўропы. Дзеля гэтага Урад БНР вырашыў паслаць на канферэнцыю і сваю дэлегацыю. 27 красавіка туды прыбылі прэм'ер-міністр В. Ластоўскі і міністр замежных спраў А. Цвікевіч. Яны пачалі старацца паставіць на парадак дня канферэнцыі «беларускае пытанне». 2 траўня дэлегацыя БНР мела нарады з падобнымі дэлегацыямі Украіны, Грузіі, Азербайджана, Кубані і Усходняй Галіцыі. Таго ж дня яна мела гутарку і з англійскай дэлегацыяй. На наступны дзень была прынятая старшынёю Генуэзскай канферэнцыі, прэм'ер-міністрам Італіі Л. Фактам, і ўручыла яму мемарыял Урада БНР з просьбаю паставіць на абмеркаванне канферэнцыі пытанне аб скасаванні Рыжскае ўмовы і аб прызнанні БНР незалежнай дзяржавай. Тэкст гэтага мемарыяла быў уручаны затым усім дэлегацыям канферэнцыі[8].

Мемарыял Урада БНР быў разгледжаны на пасяджэнні палітычнай камісіі канферэнцыі, дзе былі заслуханы таксама і аргументы дэлегацыі БНР. Але ў выніку рашучага супраціву савецкай дэлегацыі /міністра замежных спраў Г. Чычэрына/ пытанне пра лёс БНР не было пастаўлена на парадак дня канферэнцыі, якая хутка па віне савецкай дэлегацыі наогул развалілася.

2 лістапада 1923 г., пасля зняцця прэм'ера В. Ластоўскага і рэарганізацыі /23 жніўня/ Урада БНР, Прэзідыум Рады і Урад БНР пераехалі з Коўні ў Прагу. У Коўні застаўся толькі новы прэм'ер урада А. Цвікевіч.

Беларуская эміграцыя 6-ай хвалі /часта з ініцыятывы і з дапамогаю прадстаўніцтваў БНР/ адразу пачала тварыць свае эміграцыйныя асяродкі і арганізацыі ў вольным свеце. Лепей ёй гэта ўдалося ў Латвіі, Летуве, Чэха-Славаччыне, ЗША і Францыі. У Латвіі ад 1919 г. яна гуртавалася вакол Рады Беларускай калоніі ў Рызе, дзе былі зарганізаваны Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына», Беларускі клуб, Курсы беларусаведы і пачаў выдавацца часопіс «На чужыне». Аднак па згаданай умове паміж урадамі Латвіі і РСФСР усе арганізацыі беларускіх эмігрантаў у Латвіі былі ў канцы 1920 г. забаронены, аж пакуль у 1924 г. яны не пачалі аднаўляцца. У Рызе тады зноў паўсталі беларускія асветныя таварыствы «Рунь» /старшыня — А. Шчорс/ і «Беларуская хата» /старшыня — М. Дзямідаў/. Таварыства беларускіх настаўнікаў адчыніла і ўтрымлівала 4 беларускія прыватныя школы і беларускую гімназію, выдавала часопіс «Школа і жыццё». «Беларускае выдавецкае таварыства ў Латвіі» выдавала беларускія кніжкі, брашуры і месячны часопіс «Беларуская школа ў Латвіі». Было заснавана таксама «Беларускае навукова-краязнаўчае таварыства». Пад рэдакцыяй К. Езавітава ў 1925—30 гг. выходзіла газета «Голас беларуса». У 1934 г., калі да ўлады ў Латвіі прыйшоў дыктатар К. Ульманіс, амаль усе арганізацыі беларускіх эмігрантаў ізноў былі забароненыя.

У Летуве да 1927 г. галоўным асяродкам беларускіх эмігрантаў была Коўна. Беларускія эмігранты ядналіся вакол Беларускага нацыянальнага камітэта /старшыня — інжынер А. Галавінскі/, Беларускага культурна-асветнага таварыства і Беларускага выдавецкага цэнтра /кіраўнік — В. Ластоўскі/. Тут выдаваліся беларускія кніжкі, часопісы «Беларускі Сьцяг» і «Крывіч»[9].

У Чэха-Славаччыне эміграцыйны рух канцэнтраваўся спярша каля прадстаўніцтва БНР, пазней — каля Беларускай Рады ў Празе і іншых эміграцыйных арганізацыяў — Беларускага культурнага таварыства імя Францішка Скарыны, Беларускага таварыства «Сокал», Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый, каторае было сябрам Міжнароднай студэнцкай канфедэрацыі /CIE/ і цэнтрам усіх беларускіх студэнцкіх арганізацый у Празе /тут было болей за 100 беларускіх студэнтаў/, Берліне, Рыме, Мюнхене, Брусэлі, Лілі, Варшаве, Вільні, Рызе і г. д. Аб'яднанне выдавала свой «Бюлетэнь», а Таварыства імя Францішка Скарыны — часопіс «Іскры Скарыны». Тут жылі і тварылі свае гістарычныя працы паэты У. Жылка /1923—26 гг./ і Л. Геніюш /ад 1938 г./[10].

У 1921 г. быў заснаваны Беларускі камітэт у Канстанцінопалі. Ад 1920 г. там сярод эвакуіраваных, галоўным чынам з Крыма, афіцэраў і жаўнераў расійскай арміі было шмат беларусаў, якія пазней выязджалі з Турэччыны ў ЗША і іншыя краі вольнага свету. Камітэт даручыў палкоўніку Я. Ермачэнку навязаць лучнасць з Урадам БНР у Летуве, куды ён і выехаў. Ад прэм'ера В. Ластоўскага Ермачэнка атрымаў намінацыю на дыпламатычнага прадстаўніка БНР пры Турэцкім урадзе і на генеральнага консула БНР на Балканах, куды таксама эмігравалі беларусы пасля расійскай бальшавіцкай Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. Па звароце ў Канстанцінопаль ён зложыў свае акрэдытуючыя паперы старшыні турэцкага ўрада Тэфік Пашы, а, па ягонай парадзе, і камісарам акупацыйных уладаў у Турэччыне — амерыканскаму, ангельскаму, французскаму, італьянскаму і грэчаскаму. Ад трох апошніх урадаў /французскага, італьянскага і грэчаскага/ хутка былі атрыманы прызнанні БНР дэ-факта. Амерыканскі і англійскі камісары заявілі, што не будуць прадстаўніцтву БНР перашкаджаць у ягонай дыпламатычнай дзейнасці. Дыпламатычнае прадстаўніцтва БНР у Канстанцінопалі ў тым жа, 1921 г., заснавала консулаты БНР у Балгарыі і Югаславіі.

У ЗША паўсталі два цэнтры беларускай эміграцыі — у Нью-Йорку і Чыкага. У Нью-Йорку ў 1921 г. быў створаны Беларускі нацыянальны камітэт і Камітэт помачы работнікам і сялянам Заходняй Беларусі. У Чыкага — Беларуска-амерыканскі нацыянальны саюз /з бібліятэкай, асветнай камісіяй і прэсавым бюро/ і Беларуска-амерыканскі клуб. Дзейнасць гэтых арганізацый асабліва ажывілася, калі ў ЗША прыехаў былы прэм'ер Урада БНР Я. Варонка. Ён ад кастрычніка 1926 г. пачаў выдаваць у Чыкага газету «Беларуская Трыбуна».

Што датычыцца беларускай эміграцыі ў Францыі, тут трэба адзначыць, што яе арганізацыйнае жыццё пачалося ад 1926 г. Найбольш зактывізавалася яно ў 1930 г., калі з Прагі сюды пераехалі інжынер М. Абрамчык і інжынер Л. Рыдлеўскі, чыім стараннем тут быў заснаваны «Хаўрус беларускай працоўнай эміграцыі» з цэнтрам у Парыжы і пяццю філіямі на правінцыі. «Хаўрус» выдаваў свой часопіс «Рэха».

Некаторыя эмігранты ў Празе і Парыжы падпалі пад камуністычныя ўплывы. Адзін з іх, М. Падгаецкі з-пад Менска — афіцэр расійскага экспедыцыйнага корпуса ў Францыі, здэмабілізаваны ў 1919 г. у Парыжы, у 1927 г. вярнуўся ў Беларусь і колькі гадоў працаваў карэспандэнтам менскай расійскай газеты «Рабочий». Расчараваўшыся ў камунізме, ён уцёк назад у Францыю і выдаў там па-французску кніжку сваіх успамінаў «Чырвоная навальніца»[11], паказаўшы ў ёй на канкрэтных выпадках з жыцця сапраўды таталітарна-дэспатычны твар камунізму ў БССР.

У пошуках працы і лепшых умоў жыцця ў 1924—1939 гг. з Заходняй Беларусі рушыла 7-ая хваля масавай беларускай эміграцыі. Меней — у Францыю /дзе, разам з эміграцыяй 6-ай хвалі, колькасць беларусаў дайшла да 20 тысяч/, Бельгію, Канаду. Болей — у краі Паўднёвай Амерыкі, дзе, паводле прыблізных падлікаў Згуртавання беларусаў у Аргенціне, разам з эміграцыяй 4-ай хвалі, іх было каля 350 тысяч. 120 тысяч — у Бразіліі, 100 тысяч — у Аргенціне[12] /з іх каля 60 тысяч у Буэнас-Айрэсе і ягоных ваколіцах/, 60 тысяч — ва Уругваі, 60 тысяч — у Парагваі і 10 тысяч — у Чылі[13].

З гэтай хвалі эканамічнай эміграцыі нам вядомы /апрача згаданага «Хаўрусу» ў Францыі/ колькі беларускіх грамадска-культурных арганізацый у Аргенціне /у Буэнас-Айрэсе і на правінцыі/: Беларускае культурна-асветнае таварыства, паўсталае ў снежні 1934 г., Беларускае таварыства «Культура» з бібліятэкай імя І. Луцкевіча і Беларускае таварыства «Белавежа», паўсталыя ў кастрычніку 1938 г.

З Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі /у межах да 1939 г./ эмігравала 4587 чалавек. З гэтага ліку да Англіі выехала 24, да Аўстраліі — 718, Бельгіі — 30, Бразіліі — 343, Венесуэлы — 47,

*(Працяг на стар. 12)*

# ЖЫЦЬ ТРЭБА ТУТ

## ДЫЯЛОГ ІРЫНЫ ЖАРНАСЕК З СЕРЖУКОМ СОКАЛАВЫМ-ВОЮШАМ

**— Сяржук, апошняя наша з табой гутарка ў наваполацкай газеце два з лішнім гады таму называлася «Жыць трэба тут». Гэта былі твае словы, і я з лёгкім сэрцам вынесла іх у загаловак. Час ідзе, ты жывеш там, за акіянам... Як мы назавем нашу сённяшнюю гутарку для «ЛіМа»?**

— Гэтаксама: «Жыць трэба тут».

**— Даволі арыгінальна. Але, прабач, ты жывеш усё ж там, а да нас прыехаў у госці.**

— Няпраўда, я прыехаў дадому. Так, амаль тры гады я пражыў у ЗША, але ж да гэтага былі мае 33 гады на Беларусі. Ну, калі чалавек пайшоў у войска, то хіба гэтае азначае, што ён не жыве дома?

**— «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба у розных краях пабываць...»**

— На гэта Уладзімір Арлоў дадае звычайна: «Хто любіў, той пабываў».

**— Ну, ты ўсё ж жывеш, прабач, знаходзішся за мяжой па сваёй ахвоце. Розніца даволі істотная. Але ў тваёй любові да Беларусі я і раней не сумнявалася. Ці змянілася штосьці ў тваім ўспрыманні радзімы цяпер?**

— Змянілася. Яна стала яшчэ лепшай і прыгажэйшай.

**— А калі яе параўнаць з Амерыкай?**

— Выйграе. Па-першае, людзі ў нас лепшыя, па-другое, свае, па-трэцяе, вырастаюць раней, не застаюцца наіўнымі да 30-40 гадоў, умеюць думаць, кніжкі чыталі і чытаюць, а не толькі коміксы.

**— Ну, тады нам застаецца адно паспачуваць табе, бо ты цяпер сярод тых, хто чытае коміксы. А што чытаеш ты?**

— Я? — Ну-у што... Коміксы! А калі сур'ёзна, дык я вельмі мала цяпер чытаю — не хапае часу.

**— На што, калі не сакрэт, траціцца твой час?**

— Не сакрэт. Больш за ўсё — на дэпрэсію.

**— Акрамя дэпрэсіі, я ведаю, што ты яшчэ і працуеш. Як табе, дарэчы, працуецца на радыё «Свабода»? Ты сам лічыш, што карысныя яшчэ для нас гэтыя перадачы нават і пасля ўсіх змен, што адбыліся на Беларусі?**

— Думаю, патрэбныя. У іх — погляд збоку, а ён ніколі не зашкодзіць. Толькі, як на маю думку, варта было б тое-сёе памяняць. «Свабода» мае свае правілы, традыцыі. Я не заўсёды ў іх упісваюся. Мне здаецца, радыё павінна быць больш вольным, і тады яно стане больш цікавым.

**— Ты маеш на ўвазе цэнзуру? «Свабодзе» не хапае свабоды?**

— Менавіта. Напрыклад, не прайшла ў свой час мая перадача пра антысавецкі партызанскі рух на Беларусі пасля вайны.

**— Цікава. Здаецца, твае цяперашнія супрацоўнікі павінны быць зацікаўлены ў падобнай тэматыцы.**

— Яны палічылі, што інфармацыя састарэла, трэба яе спраўдзіць у савецкіх архівах, пашукаць там новыя звесткі.

**— А сам ты не сумняваўся ў дакладнасці сваёй інфармацыі?**

— Я карыстаўся амерыканскімі выданнямі, у тым ліку і колішнімі паведамленнямі самой радыёстанцыі «Свабода». У мяне па гэтай тэме сабрана матэрыялу на перадач дзесяць.

**— Прызнаюся, я не заўсёды слухаю, як ты вяшчаеш да нас з-за мяжы. Не чула я і той перадачы, з-за якой усчалася твая палеміка з пісьменнікам Генрыхам Далідовічам. Як ты, дарэчы, успрыняў ягоны адказ табе ў «ЛіМе»?**

— Я думаю, што не толькі ты не чула той перадачы, але яе не чуў і Генрых Далідовіч. Відаць, на радасць публіцы, ахвочай да плётак, спрацаваў сапсуты тэлефон. Інакш ён не быў бы настолькі катэгарычны. І потым. Чаму я не магу сказаць праўду аб тым, як я калісьці з кімсьці сустракаўся?

Ці мы зноў будзем нешта ўтойваць, лакіраваць? Праўда — ёсць праўда. Яе нельга хаваць.

**— А табе не здаецца, што мы часам тую праўду падмяняем звычайным самаедствам?. Мы капаемся ў сабе, вышукваем нейкія грахі, і гэта нам папросту перашкаджае глядзець у будучае, шукаць выйсця з сучаснага безладу.**

— Што ты прапануеш: як і раней утойваць праўду аб вайне, аб ахвярах сталіншчыны, аб тых прычынах, якія прывялі да ўсяго гэтага? Праўду трэба гаварыць у любых умовах.

**— Сяржук, толькі не пераконвай мяне, калі ласка, у тым, у чым я сама даўно пераканана. Я цяпер кажу аб шкодзе звычайнага самаедства. Ну, да прыкладу, маладыя пісьменнікі абвінавачваюць старэйшых у тым, што яны пісалі не так, як трэба было, жылі не так, як трэба было. Ну, хтосьці калісьці схібіў, аступіўся, прамаўчаў. Усе мы — людзі, і часта бываем слабымі людзьмі. Але часам нейкія дробныя хібы ўзносяцца на вышыню, і ўжо той-сёй з маладых лічыць, што мае права рабіць вырак старэйшаму, які жыў у зусім іншых умовах.**

— Але права пісаць «у стол» у яго было? Было. Чаму тады той старэйшы яго не выкарыстаў?

**— Так, наша літаратура не змагла ў апошнія гады пахваліцца стосам таленавітых твораў, напісаных «у стол». Але давай мы з табой паспрабуем паставіць сябе на месца пісьменнікаў 40-х альбо 50-х гадоў, якім пашчасціла перажыць сталіншчыну, і яны чапляліся за жыццё, як, дарэчы, і ўсе, каму гэтаксама пашчасціла. Як ты думаеш, мы з табой шмат напісалі б «у стол»?**

— Хіба ў той час не было Салжаніцына, Бродскага?

**— Я пытаюся ў цябе, а не ў Салжаніцына.**

— Цяжка, вядома, адказаць, але пісаць трэба было. Гэта ніякае не абвінавачванне, бо тыя, хто мог бы пісаць «у стол», загінулі раней. Вось і ўсё.

**— А табе не здаецца, што гэта проста наша нацыянальная рыса: надзея як-небудзь пражыць ціха, незаўважна, перачакаць?**

— Не, ну не ўсе ж спадзяваліся перачакаць, былі ж і ў нас рухі, якія пярэчылі агульнапрынятай палітыцы. Беларусы — нармальная, здаровая нацыя, якая сама вінавата ў сваіх бедах.

**— Нязвыкла неяк чуць аб здароўі нацыі. Цяпер усё больш пачуеш аб яе хваробе.**

— Ну-ну, і яшчэ аб тым, што знішчана эліта нацыі. А тыя самыя Быкаў, Пазняк — яны хто? І хто калі вызначыў, колькі народ павінен мець эліты?

**— Хіба здароўе нацыі вызначаецца толькі элітай? Скажам, літоўскі народ ведаў, на што ён ідзе ад самага пачатку так званай перабудовы, і ён гатовы быў падтрымаць сваю эліту, гатовы быў зразумець яе. Памятаеш маўклівых літоўцаў са свечкамі ў руках пасля таго, як у студзені пабілі іх сыноў і дачок? Ты можаш уявіць маўклівых беларусаў на вуліцах нашай сталіцы, калі б, не дай Божа, здарылася штосьці падобнае тады ў нас?**

— Не, не магу. Але гэта зноў жа яшчэ не гаворыць аб нашай хваробе. Беларусы яшчэ і не выбралі свайго Бразаўскаса. Вось калі яны зробяць свой выбар... Мы ж яшчэ ні разу самі, па сваёй волі, не выбіралі.

**— Прыйдзе час — выберам. У нас вунь ужо нават свой граф знайшоўся, які нібыта не супраць стаць беларускім прэзідэнтам. Скажы, як ты ўвогуле ставішся да таго, калі нашы суайчыннікі з-за мяжы пачынаюць вучыць, як нам трэба жыць?**

—Думаю, што карысней было б ім прыехаць і паказаць гэта на практыцы. Многія з эмігрантаў крычалі: «Там, на Беларусі — камунізм! Там няма свабоды! Там усё знішчаецца камуністычнымі сіламі!» Ну, цяпер няма камунізму, затое ёсць магчымасць вярнуцца на радзіму. Нешта ж не спяшаюцца.

**— Ведаеш, апроч сям'і Латышонкаў з Беластока, у якой вельмі добра захаваўся беларускі дух, мне не давялося сустракацца з нашымі суайчыннікамі за мяжой. Але я ведаю даволі шмат эмігрантаў, якія жывуць у Польшчы, Канадзе, Амерыцы. І ведаеш, у мяне ёсць падазрэнне, што працэнт свядомых беларусаў у адносінах да агульнай колькасці нашых суайчыннікаў за мяжой, і працэнт свядомых беларусаў у адносінах да агульнай колькасці насельніцтва Беларусі — прыкладна аднолькавыя. Не? Апошнім часам ледзьве не заклікаюць маліцца на тых, за мяжой...**

— Гледзячы што ўкладваць у паняцце слоў «свядомы беларус».

**— А я думала, што ў нас з табой гэты сэнс не выкліча дыскусіі. Памятаеш, твае радкі з песні: «Адзнака ў пашпарце — яшчэ не права звацца беларусам»... Хіба твае**

---

Сярод кніг

# АГЛЕДЗІНЫ БЫЛОГА

***У канцы 1992 года ў Нью-Йорку выйшла кніга «Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі». Аўтар яе — Канстанцін Мерляк, той самы, афіцыйная прэса якога ў былой БССР называла адшчапенцам, здраднікам радзімы, буржуазным нацыяналістам. Гэта той самы Мерляк, які, на думку некаторых эмігрантаў, сваёй шкоднай дзейнасцю беларускай справе «перасцігнуў самаго Астроўскага». Уладыка Васіль адлучыў яго ад царквы, забараніў уваход у храм, г.з. наклаў анафему.***

Праз 47 гадоў пасля вайны пытанне ў кнізе пастаўлена востра. Хто каго мае судзіць? Мерляка ці Мерляк? Але перш чым весці гаворку па ўзнятай тэматыцы, асэнсуем праблему беларускай эміграцыі на больш шырокім фоне — гістарычным. Чаму адносна невялікая Беларусь мае такую вялікую эміграцыю? Бо, страціўшы сваю раннюю незалежнасць яшчэ пры феадалізме, краіна ператварылася ў зону «павышанай зацікаўленасці» з боку мацнейшых суседзяў, заходніх і ўсходніх. Каля 4-х стагоддзяў беларускі народ цягнуў ланцуг няволі размаітых акупацыйных рэжымаў: польскага, расійскага, нямецкага, французскага, шведскага, нарэшце, гітлераўскага і сталінскага. У выніку — хто не паддаваўся асіміляцыі, не станавіўся на калені, меў «шчасце» слыць эмігрантам унутраным або вонкавым. Спрадвеку ўнутраныя незадаволенцы хаваліся ў беларускіх вольніцах, што ўзнікалі ў непраходных пушчах з назовамі Воля, Вялікая Воля, Добрая Воля, Ціхая Воля, Воля-Крупіцы, а знешнія эмігранты пакідалі край і ўцякалі ў Новы свет.

Якім быў, напрыклад, эміграцкі хлеб першадрукара Ф.Скарыны, сёння ведае кожны свядомы чытач. А калі прачытаў пра нашчадка, таксама доктара медыцыны і кампазітара Стэнлі Скарыну, які сёння працуе ў Канадзе, на душы стала млосна: як у горкім сне, ажыла дзейнасць інжынера І.Дамейкі ў Аргенціне, сябра А.Міцкевіча, егера і палітыка В.Урублеўскага, спевака М.Забэйды, паэткі Л.Геніюш, матэматычныя разлікі адкрывальніка паліва для касмічных ракет Б.Кіта і шмат іншых. Якой слыннай была б беларуская нацыя, калі б яна здолела даць такім інтэлектуальным сілам прыстанішча на сваёй зямлі!

Ва ўмовах ідэалагічнага ўціску аб'ектыўных звестак пра эміграцыю не магло быць. Што датычыць эміграцыі з Беларусі пасля 1917 года, то асаблівых прыкмет яна не пакінула. А вось пасляваенная хваля беларусаў-эмігрантаў была нешматлікай, але нацыянальна найбольш свядомай. Канчаткова сфарміравалася яна на чужыне як адметная палітычная плынь. Пра яе і кніга «Дзейнасць Кастуся Мерляка на эміграцыі».

Кніга К.Мерляка складаецца з 4-х раздзелаў і дадаткаў, імянных паказальнікаў на беларускай і англійскай мовах, шырока ілюстравана і анатавана, аб'ёмам у 476 старонак. Яе асноўны накірунак, піша ў прадмове В.Шчэцька, успаміны аўтара пра гісторыю беларускай эміграцыі, што пачалася пасля другой сусветнай вайны, той эміграцыі, якую «афіцыйна кліка ў былой БССР» старалася замоўчваць і нават узняць паклёп, як на «здраднікаў радзімы» ды «злачынцаў». Заўважым, аўтар не абмежаваўся мемуарным стылем пісьма. Актуальнасць сюжэтнай тканіне надаюць публіцыстычная накіраванасць і палемічная завостранасць. Кожная падзея, факт, асабістая рэфлексія падмацавана дакументамі, па якіх можна прасачыць дзейнасць эміграцкіх з'ездаў, групаванняў, клубаў, спатканняў, урачыстых святкаванняў. Даты, дні, гадзіны, прозвішчы кіраўнікоў, назвы структурных адзінак у Радзе БНР — усё пададзена з хранікальнай дакладнасцю. Кніга-даведнік. Гэта, лічыць В.Шчэцька, ёсць «перамога аднаго чалавека над малой свядомасцю беларускай эміграцыі і моцнай савецкай агентурай».

У кнізе дакладна фармулюецца складанейшая праблема, кім ёсць беларускі эмігрант на чужыне. Збярог ён сваю нацыянальную годнасць ці «растварыўся» ў асяроддзі іншых культур і народаў? Прасочваецца жыццё, бадай, самай найбольшай калоніі беларусаў — у Буэнас-Айрэсе і яго правінцыі. Каля ста тысяч выхадцаў з заходніх раёнаў Беларусі трапілі туды ў розныя перыяды і па розных матывах: і вольныя найміты, і грамадаўцы, і камуністы. На глебе дробных культурных, спартыўных, грамадскіх групаванняў узнікла аж цэлая Федэрацыя Беларускіх арганізацый у Аргенціне. Не маючы падтрымкі з боку гістарычнай Бацькаўшчыны, 16 беларускіх суполак /«Якуб Колас», «Мінск», «Янка Купала», «Іван Франко», «Георгій Скарына» і інш./ уліліся ў Славянскі Саюз. Пачалася нацыянальная калатнеча. Сябры Славянскага Саюза, у тым ліку беларусы, паставілі заслон прыезду беларускіх эмігрантаў з Англіі, Нямеччыны, Італіі ў Аргенціну. Новапрыбыўшых абвінавачвалі ў здрадзе радзіме і калабаранцтве з немцамі. Старая эміграцыя «крывічоў» прыдумала для новай плыні адпаведныя мянушкі: «зарубежнікі» або «нацыяналісты». Не абыходзілася і без фізічных патасовак. Аргенцінскі крызіс меў свой фінал — пракамуністычныя арганізацыі, аб'яднаныя ў Славянскі Саюз, дэкрэтам прэзідэнта былі распушчаны, маёмасць канфіскавана. Новае Згуртаванне беларусаў у Аргенціне старшынёю Управы абрала Канстанціна Мерляка, усклаўшы надзею, што такі выбар уратуе беларусаў ад чужых уплываў і перасцеражэ іх няўстойлівую нацыянальную свядомасць ад упадку.

У другім раздзеле аналізуецца жыццё эмігрантаў-беларусаў у Нямеччыне. Па сацыяльным складзе гэта былі перш за ўсё ваеннапалонныя нямецка-польскай і нямецка-савецкай войнаў /1939, 1941—1945/, людзі, прымусова вывезеныя на працу ў Германію, жаўнеры батальёнаў Беларускай Краёвай Абароны /БКА/, парадкавая паліцыя, мясцовая адміністрацыя на чале з апаратам Беларускай Народнай Самапомачы і БЦР. Такім чынам, уцекачы з Беларусі хутка трапілі пад крыптанім Д.П. і ў поле зроку КДБ. Справа ўскладнялася найбольш тым, што амерыканцы чамусьці не прызнавалі беларусаў за нацыю. Назву Беларусь яны асацыіравалі з расейскімі белымі эмігрантамі. Да таго ж чыноўнікі па справах рэпатрыянтаў як правіла былі расейскага або польскага паходжання і не надта прыхільна, а то і варожа ставіліся да Д.П. беларусаў. Каб пазбегнуць прымусовага звароту, некаторыя беларусы запісваліся палякамі.

У шырокім плане нашы суайчыннікі прыйшлі да высновы, што патрэбна замяніць назву Беларусь на Крывію. Так узніклі два лагеры ў палітычным падзеле беларусаў на эміграцыі. А калі епіскапат Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы здрадзіў незалежніцкай місіі і далучыўся да царквы расійскай за рубяжом, свядомая частка беларусаў убачыла ў гэтым акце «здраду беларускаму народу».

З гэтага часу ў Канадзе, Аўстраліі, ЗША і Еўропе, дзе пасяліліся беларусы, грамадска-палітычнае жыццё ў арганізацыях і прыходах таксама падзялілася паводле прыналежнасці да Рады БНР /крывічоў/ або да БЦР /зарубежнікаў/. На вяршыні нацыянальнай справы піраміду аздаблялі два прэзідэнты — М.Аўрамчык і Р.Астроўскі, якімі спрытна маніпулявалі адпаведныя сакрэтныя службы /англійская, савецкая/, ведаючы, што «падзеленыя беларусы не дасягнуць свае мэты на чужыне».

Нягледзячы на раскол, беларусы апамяталіся і пачалі выходзіць на незалежніцкі шлях. Купалаўская ідэя «людзьмі звацца» адрадзіла на палітычнай карце Еўропы Беларусь як суверэнную дзяржаву, а 25 сакавіка стала найвялікшым нацыянальным святам. Гэта азначала, піша др.Кіпель, што «імкненне беларусаў да незалежнасці не было ніякай «інтрыгай», як гэта цвердзілі з аднаго боку расейцы, а з другога — палякі, а было спантанічным рухам нашага народа да свае нацыянальнае дэмакратычнае дзяржаўнасці».

Найважнейшая задача эміграцыі — аб'яднанне сіл, стварэнне адзінага фронту суайчыннікаў. З гэтай мэтай дзейнічае парламент /Рада БНР/, які рэпрэзентуе і абараняе інтарэсы беларусаў перад афіцыйнымі чыннікамі /урадамі/. Напрыклад, у Амерыцы плённа дзейнічаюць такія згуртаванні, як БАЗА, Навуковае таварыства імя Ф.Скарыны, Беларускі інстытут навукі і мастацтва, Згуртаванне беларускай моладзі, прыход св.Кірылы Тураўскага БАПЦ і інш. Функцыянуюць газеты «Беларус», «Бацькаўшчына», часопіс «Полацак». Для адпачынку куплены рэсорт «Мінск» з будынкамі, басейнам, з возерам і лесам для палявання і рыбацтва. На жаль, заклікі да аб'яднання і патрыятычнай вернасці Беларусі — гэта пераважна размовы. Апазіцыйная барацьба за лідэрства прывяла да глыбокага ўнутранага крызісу. Непаразуменні і канфлікты ў епіскапаце выйшлі за межы царкоўнай кампетэнцыі ў сферу свецкіх судоў, на якія затрачана безліч сіл і неймаверныя сумы долараў.

Раскол, лічыць К.Мерляк, — гэта вынік акупацыйных уплываў на беларусаў яшчэ з ганебнага мінулага — культурнага, рэлігійнага, сацыяльнага, палітычнага. «Паўнатворную беларускую працу могуць праводзіць толькі самі беларусы». Такім чынам, палітычная карта Беларусі няспынна тасавалася пачаргова як у самой Беларусі, так і на чужыне. Тым не менш, у экстрэмальных умовах на акрываўленай ваеннаю зямлі, стаўшай прахадным дваром, фарміраваўся антыгітлераўскі, антысталінскі беларускі нацыянальны ідэал як паказчык вышэйшага ўзроўню народнага духу. Не здолеўшы прарасці на гістарычнай глебе, нацыянальная ідэя перамясцілася на чужыну. Як ні парадаксальна, але ў эміграцыі ідэя незалежнасці і дзяржаўнай сімволікі набыла больш жыццястойкія абрысы, чым на этнічнай радзіме.

Думка пра вяртанне на радзіму ніколі не пакідала нашых суайчыннікаў. Але вырашалася ў залежнасці ад кан'юнктурнай палітыкі супердзяржаў — былі яны заангажаваны ў «халоднай вайне» ці дбалі пра суіснаванне. Тактычны заклік «не распакоўвацца», бо хутка дадому,

**погляды за гэты час змяніліся?**

— Не. Але, калі, напрыклад, чалавек не гаворыць па-беларуску, мала цікавіцца гісторыяй, культурай, а ўсё ж дае свае ўласныя грошы на адраджэнне Беларусі? Тады як?

**— Ну-у, калі грошай хапае... Можа, не надта ўжо і складана адкупіцца імі... І самому прыемна, і ў людскіх вачах адразу вырастаеш.**

— Адкупіцца. Добрае слова. Здаюся.

**— А як наконт вершаў? Пішуцца?**

— Не.

**— А чаму маніш? Мне год таму перадалі тваю гумарыстычную паэму, праўда, пад псеўданімам, але ж мы ведаем, што гэта ты напісаў. Наваполацкія літаратары адразу распазналі, і кожны пазнаў сябе ў ёй. Захацелася пахуліганіць? Не спадзяваўся, нябось, што мы надрукуем?**

— Не спадзяваўся. А вы ўзялі і надрукавалі. Ці ж не разгул дэмакратыі і свабоды? Вось як ты лічыш, ёсць яшчэ на Беларусі цэнзура альбо яна бясследна знікла?

**— Відаць, ты там у сваёй Амерыцы не толькі коміксы чытаеш, але і фантастыку.**

— Дык а што ж ты хочаш ад бедных і няшчасных амерыканцаў?

**— Сяржук, а ты ... ты таксама «бедны і няшчасны амерыканец»?**

— Я бедны і няшчасны беларус у Амерыцы, бо я пастаянна хачу дадому, бо мне там не пішуцца вершы, не чытаюцца кнігі. Але гэта ўжо мае праблемы.

**— А ці пішаш ты цяпер песні?**

— Не.

**— Не хочаш альбо не можаш іх больш пісаць? Я, даруй, пра тое, што, можа, твае песні ўжо выканалі сваю функцыю і таму цяпер заціхлі?**

— Ты ўсё правільна сказала. Гэта была рэвалюцыйная рамантыка. Цяпер жа надышоў час сур'ёзнай палітыкі.

**— Цябе больш не цікавіць палітыка?**

— Цікавіць. Я гатовы браць у ёй удзел, але толькі там, дзе магу быць карысным. Ну, якая ад мяне карысць у эканамічнай палітыцы?

**— А я буду чакаць тваіх новых твораў. Спадзяюся, што яны будуць з'яўляцца з-пад пяра «беднага, няшчаснага беларуса ў Амерыцы». А калі прыціснуць абставіны, дык жа ёсць выйсце: пісаць «у стол». Няхай ён не пустуе, твой пісьмовы стол.**

— Гэтага ж я жадаю і табе, як і ўсім нашым паэтам і пісьменнікам.

---

быў заменены на «распакоўвацца» — звароту няма. Даводзілася думка, што сапраўдны патрыёт-беларус на чужыне будзе мець магчымасць зрабіць у дзесяць разоў больш для вызвалення Бацькаўшчыны, чым той «нераспакаваны» эмігрант, які стаўся ахвярай і просіць спагады. На нейкі момант здавалася, што ажыла ідэя міцкевічаўскіх пілігрымаў, і хто жадае дабра Айчыне, павінен яе пакінуць. Палякаў яднала «Малітва пілігрымаў», беларусаў — гімн «Магутны Божа».

Чацвёртая частка кнігі адкрываецца падзагалоўкам — «Хто каго мае судзіць?» Палемізуючы з некаторымі прафесійнымі «гісторыкамі», К.Мерляк катэгарычна заяўляе: «Тое, што Кастрычніцкая рэвалюцыя й бескарысная дапамога вялікага расейскага народа далі беларускаму народу свабоду і незалежнасць, абсалютна не адпавядае праўдзе». Бо з 1940 г. з Беларусі ў сібірскія лагеры смерці бесперапынна ішлі цягнікі, бітком набітыя «шпіёнамі», «контррэвалюцыянерамі», кулакамі ды членамі КПЗБ, якіх агулам судзілі як «ворагаў народа». Любімы «бацька Сталін», родная партыя пакінулі «ашчасліўлены» беларускі народ на ласку фашысцкаму акупанту. К.Мерляк лічыць, што акупацыйныя сілы чорнага і чырвонага колераў на Беларусі перамяшаліся так, што людзі не чакалі абароны ні ад нямецкіх уладаў, ні ад партызанаў /чырвоных і белых/. Патрыятычна настроеныя беларусы на акупаванай тэрыторыі пачалі абараняцца самі. 2 сакавіка 1944 г. БЦР аб'явіла агульную мабілізацыю ў Беларускую Краёвую Абарону, каб збройна абараніць цывільнае насельніцтва ад акупантаў. Настаў час, на думку аўтара, паправіць сфальшыфаваныя лічбы і паказаць, хто ёсць большы злачынца: чырвоны камунізм ці чорны фашызм. Пачынаць трэба з Курапатаў...

Эмігрант К.Мерляк моцна дакарае беларускую інтэлігенцыю, якая, на яго думку, мала дбала пра свой народ, каб пазбегчы генацыду, знішчэння культуры, гістарычнай спадчыны. «У бальшыні» сваёй яна дапамагала чужым сілам давесці беларускую нацыю ледзь не да згубы.

У канцы сваёй працы К.Мерляк неяк, скажам так, па-біблейску фарміруе канцэпцыю грамадзянскай споведзі перад алтаром Бацькаўшчыны. Зведзена яна да трох канкрэтных пытанняў: «Хто быў саўдзельнікам у злачынствах?» «Хто ёсць сапраўдны вораг беларускаму народу?» «Інтэлігенцыя на Бацькаўшчыне ці беларуская эміграцыя на чужыне?»

Безумоўна, пытанні не простыя. Імі зацікавіцца шырокае кола чытачоў, у першую чаргу гісторыкаў, даследчыкаў, навукоўцаў.

**Сяргей ДРОЗД**

*г.Слонім*

---

# «НАШЧАДКАМ, ЯК ДОБРЫ ГАСЦІНЕЦ»

*І тое, што ў друк — не загіне:*
*Нашчадкам, як добры гасцінец.*
*Рыгор КРУШЫНА. З формай.*

Упершыню ў мяне адбылося чытацкае знаёмства з Рыгорам Крушынам, дакладней — з Рыгорам Казаком /сапраўднае прозвішча/ як з перакладчыкам. Пры праглядзе даваеннай перыёдыкі, у тым ліку «ЛіМа», кінуліся ў вочы зграбна зробленыя ім пераклады паэтаў рускіх У. Маякоўскага, С. Міхалкова, М. Асеева, украінскіх — Ю. Фядзьковіча, Л. Украінкі, М. Рыльскага, польскіх — А. Міцкевіча, Г. Главацкага, літоўца Я. Гіры, казаха Джамбула і інш. /дарэчы, апошняя даваенная публікацыя Р. Казака ў савецкім друку, што ўбачыла свет за два месяцы да Вялікай Айчыннай вайны, — пераклад верша П. Тычыны «На майдане»/. Запомніліся і цікавыя крытычныя выступленні П. Казака 1935 г. у тым жа «ЛіМе», перш за ўсё пра паэтычную творчасць пачаткоўцаў, у тым ліку — і пра васемнаццацігадовага Пімена Панчанку. Што да вершаў і апавяданняў /трапляліся і яны/, то асаблівага ўражання яны не зрабілі. Гэта былі ў асноўным «ударныя» вершы ў духу тагачаснай агітацыйнай вершатворчасці /«Ударнікі», «Караць бязлітасна», «Чырвоныя кветкі», «Расцвітае ўсё навокал», «Усе на выбары» і г. д./. Пераважна з такіх твораў былі складзены і зборнікі паэта «Разгон» /Гомель, 1930; разам з С. Ракітам і В. Палескім/ і «Паэзія чырвонаармейца» /Мінск, 1931/. Цікава, што нават яны не зусім задаволілі тагачасную крытыку, заражаную вірусам сацыялагізму. Так, сімптаматычная ўжо сама назва рэцэнзіі В. Ажгірэя на другі зборнік паэта, надрукаваная ў свой час у «Савецкай Беларусі» — «Цёплы ўспамін на адлежаным фрэнчы, або «Паэзія чырвонаармейца...».

Паколькі легальны друк Беларусі перыяду фашысцкай акупацыі, а таксама пасляваенныя эмігранцкія выданні звычайным савецкім навукоўцам доўгі час былі недаступныя, то пра далейшы жыццёвы і творчы лёс Р. Казака даводзілася адно здагадвацца. Толькі ў канцы 80-х гг. я даведаўся, што былы Рыгор Казак, член «Маладняка», аўтар шматлікіх публікацый, які скончыў Мінскі белпедтэхнікум і Маскоўскі інстытут кінематаграфіі /1935/, а ў час вайны друкаваў лірычныя і медытатыўныя вершы ў акупацыйных выданнях, — той Казак стаў вядомым паэтам Рыгорам Крушынам, выдаў сем арыгінальных паэтычных зборнікаў /«Лебедзь чорная», «Выбраныя творы», «Вячорная лірыка», «Хвіліна роздуму», «Вясна ўвосень», «Дарогі», «Сны і мары»/, заняў віднае месца сярод лепшых беларускіх пісьменнікаў замежжа. А пасля і творы паэта ўдалося прачытаць. І стала зразумела, што ён, шчыры лірык ясенінскага тыпу, да вайны найчасцей гаварыў не сваім голасам, а так, як вымушала тагачасная крытыка — «пад Маякоўскага». Гэта ўсё роўна як тэнару спяваць басовую партыю ў оперы. У эміграцыі ж паэту спявалася так, як маглося, як найлепш выходзіла. І найлепшае, самае арганічнае ў таленце — тонкі лірызм, густая арыгінальная метафарычнасць, непасрэднасць пачуццяў, уменне адчуць і зразумець розныя праявы чалавечай псіхікі /тое, што выяўлялася і ў асобных даваенных творах/ — зарунелася густа і прынесла добры плён.

Глыбокае даследаванне і шырокая прапаганда ў Беларусі таленавітых патрыятычных твораў Крушыны — справа будучага /будзем спадзявацца — недалёкага/. Цяпер жа хацелася б пазнаёміць чытачоў штотыднёвіка толькі з адной гранню творчасці паэта, а менавіта з яго высілкамі ў павышэнні культуры беларускай творчасці. Як мы памятаем, «пашырэнню круга тэм і форм беларускай паэзіі» ў свой час нямала сіл і часу аддаў Максім Багдановіч. Аднак і пасля М. Багдановіча засталося шмат недаробленага ці зусім нязробленага. І Р. Крушына, як сапраўдны беларускі патрыёт, рабіў усё ад яго залежнае, каб і тут мы выглядалі не горш за людзей, за суседзяў бліжніх і дальніх.



*Ля магілы Р. Крушыны Лідзія Савік*

У нізцы вершаў /а яны ўзяты з кнігі «Сны і мары», Нью-Йорк; Мюнхен, 1975/ прадстаўлены ўзоры класічнай усходняй /«Газель»/ і еўрапейскай паэзіі /«Віланэла», «Рандо», «Тэрцыны», «Секстына»/, паліндром /радкі аднолькава чытаюцца як злева направа, так і справа налева/, туюгі /«На пракосах»; у ім зарыфмаваны тры амонімы/, верш з рознанацыскнымі рыфмамі /«Спеў»/, таўтаграма /«Спевы сняжынак»; усе словы пачынаюцца з адной і той жа літары/...

**Вячаслаў РАГОЙША.**

## СПЕЎ

**Квяцісты сад, мае браткі!**
**Цвітуць у садзе браткі.**
**Да іх іду я па радкі,**
**Па песні і парадкі.**

**Не на пісьмовыя сталы**
**Нясу парадак сталы.**
**Дзе зяляніны купалы,**
**Я чую спеў Купалы.**

**Аж сонцам песня наплыве!**
**У радасным наплыве**
**Яна малітваю жыве,**
**Яна ў людскай пажыве.**

## НА ПРАКОСАХ

**Ад зары прабег прамень шырокі, косы.**
**Ад мянташак зазвінелі дружна косы.**
**А на сэрцы аднаго з касцоў вяселле —**
**Расплятуцца перад ім тугія косы.**

**Лёгка рэжа коска. Добрая направа!**
**Жаўруковы спеў — налева і направа.**
**Гэта гукі радасці ўгары віселі:**
**Віза на любоў законную, на права.**

## ВІЛАНЭЛА

**Цёплы спеў віяланчэлі,**
**Струнаў ціхі перазвон...**
**Ласкі-пешчы загучэлі.**

**Вобраз твой — у акварэлі.**
**Перадаў мне патэфон**
**Цёплы спеў віяланчэлі.**

**Гукі ў стройнасці мякчэлі,**
**Віўся з альтам барытон —**
**Ласкі-пешчы загучэлі.**

**Мае вочы заблішчэлі,**
**Як пачуў я дзіўны звон,**
**Цёплы спеў віяланчэлі.**

**А ў душы маёй ярчэлі**
**І валошка, і рамон.**
**Ласкі-пешчы загучэлі.**

**Можа, ў гэтай віланэлі**
**Звяжа нас з табою кон —**
**Цёплы спеў віяланчэлі...**

**Ласкі-пешчы загучэлі.**

## РАНДО

**І сны, і мары — музы чары —**
**Ствараюць казку дзіўных дзён.**
**І думак цэлы легіён**
**Снуецца ў сонечным абшары;**
**Далёкі спеў ужо чуцён.**

**Празрысты свеціцца вялён**
**Праз цёплы подых лёгкай пары...**
**Прыемны мне прыносяць плён**
**І сны, і мары.**

**Мне сніцца дом і пышны клён,**
**І ўжо няма ніводнай хмары.**
**Адно цвітуць, цвітуць як лён**
**І сны, і мары.**

## ТЭРЦЫНЫ

**Я п'ю рамонкавы настой**
**З дамешкаю тваіх усмешак.**
**Хіба я ў марнасці пустой?**

**Сны — попел згаслых галавешак?**
**Няўжо, як той стары Тарас,**
**Пакінуў родны свой застрэшак**

**І ўзлез на сонечны Парнас?**
**Там добры лад, а ёсць заганы...**
**Цябе згадаю я ці раз.**

**Я прывітаю дзень чаканы,**
**Калі спаткаю позірк твой**
**З усмешкай цёплай, край каханы.**

**Я п'ю рамонкавы настой.**

## СЕКТЫНА

**Спяваюць думкі часта апаўночы,**
**Калі згадаю любую маю.**
**Я ў лірыцы малюю стан жаночы**
**І вобраз твой пяшчотна падаю:**
**Твой кужаль косаў, незабудкі-вочы**
**Мяне хвалююць. Я ізноў пяю.**

**Душою ўсхваляванаю пяю**
**Табе кантаты ўдзень і апаўночы.**
**Як толькі я заплюшчу ўмомант вочы —**
**Пачую ў спеве любую маю.**
**І я ўжо голас песні падаю**
**На заклік твой ласкавы і жаночы.**

**Я разумею: твой настрой жаночы**
**Пераплятаецца з маім і я пяю,**
**Не мёд густы на сподку падаю,**
**А слова, што ўскіпела апаўночы**
**Ды памяць ўстрывожыла маю**
**І рыфмаю мне кінулася ў вочы.**

**А каб жа бачыць мне на свае вочы**
**Мой светлы прывід, лёгкі стан жаночы!**
**Хай Бацькаўшчыну згадвае маю,**
**Якую гэтак горача пяю.**
**Як зырка свецяць зоркі апаўночы!**
**Я ім сваю заяву падаю.**

**Я думкамі заяву падаю:**
**З вышыняў, зоркі, мне зірніце ў вочы**
**І асвятліце радасць апаўночы.**
**Яе, сагрэтую цяплом жаночым,**
**Гарну я ў ціхім смутку і пяю.**
**Зірніце вы на мілую маю!**

**Ці зразумее хто тугу маю?**
**Я ўсё ж сабе надзею падаю:**
**А можа, не дарма любоў пяю.**
**З мальбою вусны і жывыя вочы...**
**І дзесьці твой далёкі стогн жаночы**
**Я чую ўранні, ўдзень і апаўночы.**

## ГАЗЕЛЬ

**Няўсцішна — горача люблю цябе, мой край.**
**Твой голас з далечы лаўлю ў журбе,**
**мой край.**

**Даўней не ведаў я, што хараством**
**Мяне пачнеш ты вабіць да сябе, мой край.**

**Заклятым злом завязаны залом...**
**І маё сэрца памятку скубе: мой край!**

**Згарэла маладосць, згарэў мой дом,**
**Але я захаваў жывым цябе, мой край.**

**Паміж чужых не буду чужаком.**
**Куды я ні зірну — крыніцай б'е мой край.**

**Хай адгукнецца роднае цішком:**
**На сціплых васільках і на вярбе — мой край.**

**І кожнай цвет-галінкай і лістком**
**Крушына мне прыгадвае ў жальбе мой край.**

**Яшчэ ў маленстве піў я з малаком**
**Тваёй пяшчоты мёд. Люблю цябе, мой край.**

## ПАЛІНДРОМ

**Я — сіла. Маліся!**
**Міла палім**
**Тонкі кнот...**
**Толам умалот.**

**Я — сіла. Маліся!**
**На гару — гураган.**
**Ура! Зару —**
**На барабан.**

## СПЕВЫ СНЯЖЫНАК

**Смутак спякотны.**
**Слухаю спевы сняжынак.**
**Стогне сухотны**
**Сіплы суглінак.**

**Сівер спакоем**
**Сцішаны, сушыць смужынкі.**
**Срэбным сувоем**
**Сцеле сняжынкі.**

**Спевы сняжынак.**
**Сонца сівое сумуе.**
**Сёння спачынак**
**Сад салютуе.**

**Сэрца спавіта**
**Спрутам сакрэтных спружынак:**
**Сны сэленіта,**
**Спевы сняжынак.**

Міра ЛУКША



●

у слотны вечар
сабраўся
на вуліцы
тлум:
чакае
твайго палёту

балюча рвуцца
ржавыя харугвы
вецер нізка нясе
папяровую мову
дарослых людзей

у слотны вечар
тлум гадуе чаканне

●

горкая травіца сонніца-быліца
да сцежкі нахіляецца
ў пояс пакланяецца
просіць прытуліцца
расы з лістка напіцца
а хто дакранецца
суму набярэцца
і захварэе
і занямее
і затравее
і скажа слова
зялёнай мовай

## МЯСТЭЧКА

Дзень белы у мястэчку шэрым.
Пусты аўтобус пыл глытае, —
Забраць нас хоча ў жвавы горад.
Пад грушай ссохлая валошка
У жыце чорным, пераспелым.
Камень у кветку прарастае
На градцы бурай, здзірванелай.
Герань вазон карэньчыкам кранае
На вокнах чыстых, у фіранках.
А дзе чарнее смерцю шыба,
Трупок раслінкі ў чыгуне.

## ПАЭТ

слова сказаў ты
мне
і нашу цяпер
на сэрцы
верш напісаны
адарваны
ад твайго сэрца:
праступіў ён
кропляй фарбы
на мёртвай паперы
радзімай-зярняткам

●

ідзе зіма — сказалі птушкі
і зноў вандруем у краіну Вырай
над лёскатам забытых церніц
над выгарэўшымі вачніцамі кастроў

## ЖАНЧЫНА

жанчына
з яе ран
нараджаюцца
ранак і дзень
і ноч раны гоіць
і раніць
жанчыну
нараджаюць ранак і дзень
і ў ноч адыходзяць
разам

*г.Беласток*

***Праца на пасадзе старшыні Рады «Бацькаўшчыны» — гэта не толькі чыста арганізацыйная дзейнасць, але і непасрэдныя, жывыя чалавечыя кантакты з суродзічамі. Пачалі яны ўсталёўвацца задоўга да стварэння Згуртавання беларусаў свету як грамадска-культурнай арганізацыі. Потым, зразумела, пашырaліся, разнастаіліся і набылі цяпер, не перабольшваючы, стан стабільнай братняй лучнасці з вялікім беларускім светам.***
***З часам, калі стане вальней, цешу сабе думкай сесці за стол і расказаць пра непаўторныя чалавечыя лёсы, пра тыя трагедыі, якія давялося перажыць беларусам, што найчасцей не па добрай ахвоце, а ў моц жорсткіх абставін змушаны былі пакідаць сваю дарагую Маці-Беларусь. Мяркую, цікавай будзе чытачам і перапіска з беларускім замежжам, якой — ад мяне туды і адтуль да мяне — набярэцца на ладны том. Сёе-тое з яе ўжо друкавалася. Цяпер, падчас Першага з'езда беларусаў свету, падаю «выбраныя месцы» з перапіскі, што датычыць пераважна нашага ўсебеларускага форуму. Ідэя яго правядзення, аднадушна ўхваленая Першым сходам беларусаў блізкага замежжа, была з радасцю ўспрынята і суродзічамі з далёкіх краін. Беларусы з'язджаюцца ўпершыню ў сваёй гісторыі, каб у братняй лучнасці не толькі пабыць усім разам, але і выказаць свае погляды на лёс Беларусі — сённяшні яе стан і будучыню, і прыняць на гэты конт адпаведныя рашэнні. Менавіта ў такім накірунку вялася падрыхтоўчая праца Радай і Управай ЗБС «Бацькаўшчына».***

# ГАЛАСЫ ДАЛЁКАГА ЗАМЕЖЖА

## «ВЫБРАНЫЯ МЕСЦЫ» З ПЕРАПІСКІ З ДЗЕЯЧАМІ БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

Як вядома, тут, у Беларусі, выказваўся погляд наконт таго, што правядзенне такога з'езда з палітычных меркаванняў з'яўляецца заўчасным. Такая пазіцыя знайшла падтрымку і ў асобных дзеячаў на эміграцыі. У гэтым, лічу, няма нічога дрэннага, гэта з'яўляецца праявай нязмушанага палітычнага жыцця, дзе кожны вольны мець і выказваць свой погляд. Такія думкі, хаця яны і нешматлікія, павінны быць улічаны на нашым з'ездзе, пацвярджэннем чаго няхай будзе ліст майго земляка, аднаго з самых уплывовых дзеячаў эміграцыі — Барыса Рагулі, чалавека надзвычай дзейснага праз увесь час свайго жыцця.

Наваградцы ўвогуле — ці не найбольш актыўная частка нашай эміграцыі. Дзіўнага ў гэтым няма: на Наваградчыне быў надзвычай актыўным нацыянальна-вызваленчы рух у заходнебеларускі перыяд, які не затухаў, набываючы іншыя формы, у вайну і ў першыя пасляваенныя гады. Але тое, што перажылі тут нашыя людзі, тыповае і для ўсёй Заходняй Беларусі, дый увогуле для Беларусі, кожны куток якой даваў сваіх патрыётаў, шчырых і адданых Бацькаўшчыне.

Лучнасць з Міхасём Раецкім, які ўзначальвае беларускую радыёстанцыю ў Пэрце — так-так, перадачы там вядуцца на беларускай мове!, — а таксама Аб'яднанне беларусаў Заходняй Аўстраліі, павязалася нядаўна.

Дарагі Аўгень!
4.05.93

Твой ліст і газеты атрымаў. Як найшчырэй дзякую табе за ўсё. Крану самае галоўнае. Родам я з Нягнявіч. Бацькі — расстраляныя. Я патомак Кастуся Раецкага, камандзіра 19-га палка уланаў у 1812 годзе.

Аб сітуацыі ў Беларусі сам ведаю дакладна. Заяву БНФ і я б іначай не трактаваў, як палітычны ход. І дзеля гэтага не заява перашкаджае прыезду на з'езд эмігрантаў, але заявы ворагаў Беларушчыны. Не буду пералічваць іх. Там Вам відаць лепш. А падпісанне ваеннага саюза з Расеяй поўнасцю адхіліць эмігрантаў ад усякага супрацоўніцтва. У Беларусь будуць ехаць тыя «суродзічы», якія супрацоўнічалі з «Голасам Радзімы», а іх асталіся адзінкі. Дый тыя на чарзе на вечны супачынак. Далей мяне вельмі цікавіць, з якое рацыі «ўрад» Беларусі дазволіў так званым «палякам» адраджацца і рабіць «крэсы». Хіба не ўдоваль яны наздзекаваліся над нашым народам, супрацуючы з фашыстамі? Ці сапраўды людзі забыліся, як палякі адукоўвалі нас? Як здзекаваліся над нашым народам, абзываючы «хамске рыло, комуніста пшэкленты!» Дык чаму «ўрад» дае волю ворагам Беларусі, якія апаганьваюць і плююць на яе? Дык за каго турбуецца гэтакі «ўрад»?

Вы перапрашаеце, што не аддрукоўваеце ліста, каб не разбудзіць сваіх, бо пішаце ноччу. Падзякуйце Богу, што рукі ў Вас упарадку. Мне ж напісаць вельмі цяжка, бо польскія даносчыкі выдалі мяне немцам і тыя паламалі пальцы на правай руцэ. Што да чытання, дык ахвотней чытаю на роднай мове. Расейскай я не апанаваў і мне вельмі цяжка разумець яе.

Яшчэ раз вельмі дзякую Вам за ўсё і асабліва за памяць. Вашае прывітанне беларусам Заходняй Аўстраліі перакажу на зборцы сяброў у Беларускім народным доме ў Байсвотэры, гэта кіламетраў шэсць ад Пэрты, сталіцы гэтага штата.

Вітаем Вас і Вашых супрацоўнікаў.

З прывітаннем і шчырымі пажаданнямі — Міхась Раецкі.

Са спадаром Язэпам Сажычам, старшынёй Рады БНР, у мяне даўняе знаёмства /таксама ж землякі/ і досыць абшырная перапіска. Чалавек шчыры, абсалютна не запалітызаваны, ён выказвае свае асабістыя погляды на розныя палітычныя падзеі, пра што можна было пераканацца падчас яго прыезду на Бацькаўшчыну на святкаванне ўгодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.

Шаноўны спадар Лецка!

Шчыра дзякую Вам за памяць і клопаты. З ліста Вашага прыемна было даведацца, што ў пору атрымалі маё сціплае прывітанне на святкаванне «Слуцкага збройнага чыну», якое, як пішаце, было прыхільна сустрэта людзьмі. Чуў праз радыё «Свабода», што й другое прывітанне на «З'езд беларусаў свету блізкага замежжа» дайшло да Вас і «З'езд» быў паспяховым і карысным для нашай справы. Вельмі ўдзячны Вам за шчыры абмен думак у справе «Форуму-93». Шмат з Вашымі поглядамі згаджаюся і калі Бог пашле здароўе, то за ўсякую цану буду старацца прыбыць на Бацькаўшчыну й пабачыць на свае вочы гэты «З'езд». Ёсць вялікія засцярогі з боку нашых «ультрапатрыётаў», што да мае паездкі на Бацькаўшчыну. Аднак я ім тлумачу, што не збіраюся ехаць з нейкімі «мандатамі», а проста прыняць удзел у Сусветнай Сустрэчы беларусаў у Менску і адведаць сваіх родных як прыватная асоба. Некаторыя панове ўжо пабывалі на родных землях і хваляцца гэтым, а чаму мне не дазваляецца? Мне абсалютна не залежыць «на славе», ці каб увайсці ў якуюсь гісторыю, а цешуся толькі, калі здабываецца якоесь асягненне для беларускасці ці тут на эміграцыі /не важна, пад якою маркаю/, а асабліва на Бацькаўшчыне, дзе, як пішаце: «Беларусь паступова становіцца незалежнай дзяржавай», і я гэта пільна абсарвую, прыпамінаючы польскую прымаўку: «Не адразу быў Кракаў збудаваны».

Вось нядаўна вечарам злавіў «Радыё Беларусь» з Менска і прыпадкова якраз перадавалі пра ўрачыстасць складання прысягі беларускім войскам на вернасць «Беларускаму Народу». Паверце, што са слязамі ў вачах пільна слухаў гэтую перадачу, бо як сказаў Высока Шаноўны Спадар Шушкевіч: Беларусы ў далёкай мінуўшчыне й у апошняй гісторыі складалі прысягі шмат якім уладам і нават сваім ворагам, за якіх мусілі ваяваць, а вось упершыню прысягаюць свайму Народу, за вольнасць і свабоду якога будуць змагацца.

Маім вялікім летуценнем ёсць пабачыць парад нашага войска.

Старайцеся, працуйце і арганізуйце, каб «З'езд» у Менску прайшоў арганізавана і ўдала.

12.01.93

Атрымаў запрашэнне ад сп-ні В.Трыгубовіч быць «госцем» на трэцім з'ездзе БНФ у травені, дык хацелася б усё гэта пабачыць уключна з «Форумам». Але як кажуць: «Хацела б душа ў рай, але грахі не пускаюць». У пэўнай меры расчараваны, чытаючы ўхвалу сойма БНФ «Адраджэнне» «Пра стаўленне да з'езду беларусаў свету». Мне здаецца, што такі з'езд не павінен быць «палітыканствам», а для паднящця духу й нацыянальнай свядомасці нашага народа, не гаворачы пра сам факт і прыемнасць спаткання з суродзічамі з усіх канцоў свету.

Усяго найлепшага.
Язэп САЖЫЧ.

Міхась Навумовіч узначальвае Згуртаванне беларусаў у Францыі, апрача гэтага, вядомы на эміграцыі і як беларускі мастак.

15.04.93

Вельмі паважаны спадар Аўгень Лецка!

Гэтым разам раценька адказваю, што я вельмі цешуся і ўжо памаленьку буду сабірацца, каб быць у Менску на такое вялікае спатканне, якое Вы арганізуеце...

Думаю прывезці некалькі дробных рэчаў — малюнкаў і фатаграфічных рэпрадукцыяў пару скульптураў, бо арыгіналы параскіданыя і ў Бельгіі і ў Францыі.

Як Вы, магчыма, ужо ведаеце, я ёсць на палавіну француз, але гэта трэба шчыра сказаць, больш эканамічны бок маёй асобы, а маё сэрца, мой духовы поцяг, як калісь у маёй маладосці, так і цяпер жывуць на Беларусі.

Дзякую за запросіны і жадаю шмат Вам поспехаў у Вашай падрыхтоўчай працы да вялікага Спаткання.

З працавітасцю і адданасцю ўсяго свядомага патрыятычнага свету —

Жыве Беларусь!

Міхась НАВУМОВІЧ.

Янка Міхалюк — старшыня Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі, чалавек вядомы і заслужаны, амаль усё сваё жыццё прысвяціў беларускім справам. Апрача перапіскі, некалькі разоў размаўлялі з ім па тэлефоне, ён вельмі цешыўся, што неўзабаве ў Менску спаткаецца са сваімі сябрамі, паплечнікамі. І раптам нечаканая вестка — спадар Міхалюк цяжка захварэў, перанёс складаную аперацыю, яму ампутавалі нагу...

Вельмі паважаны сп. Я.Лецка

Ваша пісьмо і заклік быў разгледжаны праз Галоўную Управу Згуртавання Беларусаў Вялікай Брытаніі 16-га студзеня 1993 года і пастаноўлена разаслаць усім сябрам З.Б.В.Б., а таксама іншым беларусам, да іхняй уласнай дыспазіцыі. З поваду таго, што З.Б.В.Б. не ў стане зарганізаваць групавую паездку, вырашылі, што калі хто хоча паехаць, то будзе старацца пра запрашэнне і візу сам для сябе асобна. Спадзяюся, што з Вялікай Брытаніі будуць прысутныя на так важным Сусветным З'ездзе ў сталіцы Беларусі, які парушыць усе справы, звязаныя з беларусамі па ўсім свеце.

Адначасова вельмі Вас просім паведаміць нам, як справа з атрыманнем візы на лецішчы ў Менску, і на граніцы ў Брэсце, таму што сябры З.Б.В.Б. звярнулі ўвагу, што нам не выпадае ісці ў чужую амбасаду па візы.

Чакаем ад Вас надалейшыя весткі.

З пашанай
Я.МІХАЛЮК,
старшыня З.Б.В.Б.

Янка Жучка — старшыня Згуртавання беларусаў у Бельгіі.

5.02.93

Высокапаважаны спадар Лецка!

Вельмі рад, што з'езд беларусаў блізкага замежжа памысна прайшоў. Сведчаць аб гэтым шматлікія артыкулы. Ад сэрца віншую вас за ўдачу.

Што тычыцца агульнага з'езда беларусаў свету ў ліпені, дык паведамляю, што, калі нічога дрэннага не станецца, абавязкова прыеду. Акрамя мяне, плануюць яшчэ наступныя асобы: Арэшка Алесь, Смаршчок Зоя і Занкоўскі Рышард. Адносна Клыбіка і Барысіка — не маю ніякіх вестак. Калі канчаткова здэцыдуемся, дак дакладна паведамлю.

З моладдзю справа больш скамплікаваная, бо або моцна занятыя, або не зацікаўленыя.

Я сам пакуль што працую і надта перагружаны. Але, усё ж, час ад часу знаходжу хвілінку часу, каб заняцца нашай нацыянальнай справай. Калі чытаеце «Беларуса» з Нью-Йорка і «Ніву» з Беластока, дык маглі, напэўна, спатыкаць мае рэпартажы ці артыкулы.

Ад І траўня буду на пенсіі, дык пастараюся пасвяціць больш часу на нацыянальна-грамадскую дзейнасць.

Магчыма, гэтую дзейнасць пастараюся таксама весці на Бацькаўшчыне, бо за ейнымі межамі яе ніколі не спыняў.

Калі Бог дасць прыбыць у Менск і спаткацца з Вамі пры гэтай нагодзе, дык пагутарым больш канкрэтна і дакладна.

Статут і хроніку станаўлення Згуртавання «Бацькаўшчына» прачытаў за адзін замах. Усё вельмі добра. Актыўнасць Вашая надзвычай багатая. Спадзяюся і жадаю, што Вашыя планаванні будуць поўнасцю дасягнутыя. Нашая дарагая Бацькаўшчына-Беларусь патрабуе ад усіх свядомых беларусаў вялікіх усілкаў, каб канчаткова паставіць яе на ногі пасля стагоддзя прыгнёту і паняволення. Асаблівыя цяжкасці, якія стаяць перад намі, — гэта аднаўленне амаль страчанае роднае мовы.

Дык вось, пасля амаль пяцідзесяцігадовай адсутнасці, магчыма, удасца мне нанова ўбачыць родную і так каханую старонку.

А пакуль што жадаю Вам усяго найлепшага і вялікіх поспехаў у Вашай запачатай акцыі на карысць Беларусі.

Жыве Беларусь!

Шчыра Ваш Я.ЖУЧКА

Юры Весялоўскі — рэдактар беларускага часопіса «Голас часу», які выдаецца ў Англіі.

18.02.93

Шаноўны спадар Лецка!

Сёння атрымаў пачку з беларускімі газетамі, кніжачку вершаў Н.Арсенневай і Ваш ліст. За ўсё гэта прыміце маё шчырае беларускае дзякуй. Не маючы беларускай прэсы, чуюся спаралізованым, адарваным ад падзей, якія адбываюцца на Беларусі, а іх маецца даволі многа.

Апошнім часам я быў здзіўлены, што нехта памятае пра «Голас часу» і дасылае прэсу. Часопіс выдаю сам, за выняткам тэхнічнага работніка, які адбівае копіі, складае і рассылае.

Прысланыя Вамі рэзалюцыі з блізкага замежжа я змясціў поўнасцю. Таксама змяшчу «Зварот да беларускай моладзі».

Мне патрэбны матэрыял аб савецкіх і польскіх партызанах на Беларусі ў часе апошняй вайны. Крытычны матэрыял у 1992 годзе замяшчаў «ЛіМ», я гэта маю, але, магчыма, пісала і другая прэса. Добра было б гэты матэрыял атрымаць.

З пашанай

Юры ВЕСЯЛОЎСКІ

Алесь Алехнік — адзін з самых грамадска актыўных беларусаў Аўстраліі. На працягу доўгага часу — Генеральны сакратар Аб'яднання беларусаў у Аўстраліі.

21.02.93

Вельмі шаноўны сп. Яўген Лецка!

Надоечы мы афіцыйна абыходзілі 75-я Угодкі Акту Незалежнасці Беларусі 25-га Сакавіка і, як і папярэднія разы, наша невялікая зала была перапоўненая прысутнымі і ўсё прайшло вельмі добра... Я ўжо зрабіў апіс святкавання і выслаў у розныя газеты ў Рэспубліцы Беларусь, уключаючы «Свабода», «Навіны», «Літаратура і мастацтва» і другія... Надалей атрымоўваю вялікую колькасць лістоў з Беларусі ад людзей, каторыя бачылі мой адрас у адной ці другой дэмакратычнай газеце, і пераважная бальшыня пішучых просіць дапамогі: ці то прыехаць у Аўстралію на пастаяннае жыццё, ці толькі прыехаць на заробак, або просяць лякарскай дапамогі тым, каторыя хварэюць ад чарнобыльскай катастрофы... Сумна, але вялікай дапамогі — фінансава-матэрыяльнай — я не ў стане перасылаць, аднак кожнаму, хто піша да мяне на беларускай мове, я стараюся адпісаць ды, прынамсі, дапамагчы парадай і просьбай не траціць надзеі... Некаторым вышлю пільна-патрэбных вітамінаў, каб дапамагчы ў захаванні здароўя...

... Я надалей лічу, і ўсе сябры, з каторымі я аб гэтым гутарыў, трымаюцца погляду, что БНФ робіць вялікую памылку, пастанавіўшы не браць удзелу ў Першым З'ездзе беларусаў свету... На маю думку, нам усім трэба мабілізавацца і выкарыстоўваць кожную нагоду, асабліва такое важнае і вялікае зборышча людзей, як З'езд, каб выказаць свае погляды і вынесці адпаведныя ПАСТАНОВЫ па шматлікіх, пільных і балючых справах, звязаных з нацыянальна-дзяржаўным адраджэннем Рэспублікі Беларусь! Магчыма, урад нясхоча слухаць і выконваць пастановы З'езда беларусаў свету — аднак на яго будзе ляжаць вялікі *маральны націск*. Я атрымоўваю вельмі шмат лістоў з розных куточкаў Беларусі па шматлікіх справах, пераважна з просьбай дапамагчы ім прыехаць у Аўстралію, і я кожнаму задаю пытанне «Ці Вы належыце да беларускіх патрыятычных арганізацый? А як не — дык чаму?» І я кожнага заклікаю, каб далучаўся да БНФ і браў актыўны ўдзел у працы за замацаванне незалежнасці Беларусі, і водгукі ёсць прыхільныя — хаця наракаюць на тое, што «камунякі» надалей садзяцца і кіруюць і ўсе праблемы і віну за ўсё ўскладаюць на Беларускі Народны Фронт... Учора атрымаў падобны ліст ад сп.Цыбульскага з г.Гомеля, «што людзі трацяць надзею і што некаторыя ўжо пачынаюць думаць, што, магчыма, «саюз» будзе лепшы выхад з сучаснай сітуацыі...»

Паўла Урбан жыве ў Нямеччыне. Доўгі час працаваў у беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода».

4.06.93

Паважанае спадарства.

Выказваючы шчырую падзяку за запросіны ўзяць удзел у працы Першага З'езда беларусаў свету, які мае адбыцца 8—10 ліпеня, змушаны паведаміць, што скарыстаць з гэтай нагоды ніяк не магу. Прычына ў здароўі.

Вось жа, загадзя хацелася б пажадаць поспеху ў працы гэтага нашага беларускага прадстаўнічага форуму. Можна спадзявацца, што дзеля карысці і дабра нашай агульнай справы і нашага народа ён засяродзіцца і пройдзе ў межах цвярозага абмеркавання праблем. Хоць, праўда, ёсць яшчэ сілы, якім жадалася б выкарыстаць гэты форум дзеля чыста прапагандовых мэт або каб атрымаць «пацвярджэнне» свайго дасюлешняга палітычнага курсу. Сілы гэтыя гуртуюцца і ў парламенце, яны падтрымліваюцца нават урадавымі коламі. Якраз яны, гэтыя сілы, яшчэ ахопленыя сумам і скіроўваюць бадай настальгічныя позіркі ў бок былога «Саюза», мараць пра такую Беларусь, якая заставалася б нейкай складовай часткай Расеі /мабыць, накшталт колішняй «Западной России»!/. Гэтым тлумачыцца адмоўнае стаўленне да беларускага нацыянальнага адраджэння, асабліва моўнага і дзяржаўнага. Тлумачацца зласлівыя напады і шальмаванне лідэраў самога беларускага адраджэнскага руху. Для прыкладу, сп. Зянона Пазняка называюць «нацыяналістам» з ухілам нават да «нацыянал-фашызму»!

Паведамляю яшчэ, што і сп-ня Ларыса Урбан таксама не зможа скарыстаць з Вашых запросінаў. У тым часе яна будзе заступаць шэфа беларускай рэдакцыі радыё «Свабода»: а ў Менск завітае сп.Вячка Станкевіч, які там будзе нашым прадстаўніком з Мюнхена.

Дык для Першага З'езда Беларусаў свету яшчэ раз жадаю плённай працы, каб жыла Беларусь!

Паўла УРБАН

Апошнім часам усе беларускія арганізацыі Аўстраліі аб'ядналіся ў Федэральную Раду, на чале якой знаходзіцца Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі. Узначальвае яго старшыня Павел Гуз.

17.05.93

Высокапаважаны спадар Я.Лецка!

Ад імя беларусаў Мельбурна і Беларускага Цэнтральнага Камітэта ў штаце Вікторыя ў Аўстраліі шчыра Вас вітаю і Вашых паважаных сяброў у так вялікай Вашай працы, якую Вы хочаце правесці ў жыццё.

Хай блаславіць Вас Бог.

Мы, беларусы вышэйпамянёнай арганізацыі, якой я ёсць старшыня, жадаем Вам найлепшых поспехаў у правядзенні з'езда і з жалем хачу падзякаваць Вам за прысланае запрашэнне мне асабіста ўзяць удзел у з'ездзе.

На сваё слабое здароўе я б не паглядзеў, але жонка мая пасля пяці цяжкіх аперацыяў не можа паехаць са мной, то прашу Вас і Вашых паважаных сяброў прабачыць, што я, на жаль, не змагу скарыстаць з Вашае ласкі.

Але застаюся верным да Вас усіх і хачу надалей трымаць сувязь з Вамі і Вашымі сябрамі.

Дык хай жа жыве наша вольная і ні ад кога незалежная Бацькаўшчына!

Жыве Беларусь!!!

Старшыня Б.Ц.К-та ў Вікторыі

ПАЎЛА ГУЗ

Кастусь Акула — вядомы эміграцыйны пісьменнік і грамадскі дзеяч, які ў жыцці і творчасці актыўна выступае супраць камуністычнай ідэалогіі і практыкі. Падчас вайны ваяваў супраць немцаў на баку войск саюзнікаў.

14.1.93

Шаноўны спадар Лецка!

Мяркую, што Вы заняты цяпер падрыхтоўкай сустрэчы «Бацькаўшчыны» ў ліпені. Жадаю Вам поспехаў.

З прэсавых рэпартажаў у «ЛіМе» пра тое, што робіць ці чаго не робіць ВС Рэспублікі Беларусь, выглядае, што было — а можа, я памыляюся? — і пытанне пра «рэабілітацыю беларускай эміграцыі».

У маёй англамоўнай аповесці «Тумороў іс естэрдэй» ёсць адзін гадзюка-паліцай, які мардаваў людзей у Беларусі падчас гітлераўскай акупацыі, а пасля уцёк у Канаду. Як правіла, тыя людцы, — ці як іх назваць? — каторыя здзекаваліся дома і забівалі нашых суродзічаў, на эміграцыі былі пазалазілі ў свае норы і ўдзелу ў нацыянальным грамадскім жыцці не бралі.

Мяркую, што ўсе сілы нашай дыяспары і народа, каторы цяпер церпіць эканамічныя «перабудовы» дома, на сустрэчы ў ліпені трэба скіраваць на аб'яднанне. Тыя ж, каторым сверб спанукне, каб некага за нешта рэабілітаваць, зробяць добрую прыслугу яшчэ пануючай у рэспубліцы наменклатуры...

Жадаю Вам і Вашым калегам добрага здароўя і поспехаў у бягучым, толькі што распачатым годзе.

Жыве Беларусь!

К.АКУЛА.

Барыс Рагуля з'яўляецца намеснікам Старшыні Рады БНР. У вайну ўзначальваў беларускае вайсковае фармаванне, вядомае пад назвай «Рагулеўскі батальён», стараўся займаць у дачыненні да немцаў і партызанаў нейтральную пазіцыю, абараняць беларускае насельніцтва ад рабаўніцтва. На Захадзе набыў медычную адукацыю, дасягнуў вялікіх поспехаў, мае ў Канадзе сваю бальніцу.

12.06.93

*Дарагі Яўгень.*

Ліст Ваш атрымаў. Шчыра дзякую і за ліст, і за запросіны на з'езд беларускага замежжа. Вы пішаце, што ёсць пэўныя гарантыі. Я так доўга не паеду на Беларусь, як доўга там будзе незаконны савецкі ўрад і як доўга будуць у сіле савецкія законы. Зашмат я перажыў, каб нараджаць сябе на непрыемнасці. У часе святкавання 25 сакавіка ў Нью-Йорку я выступаў з дамаганнем паклікання камісіі ў АН да разгляду праступкаў, папоўненых Кам.Партыяй Беларусі. Гэтая партыя слепа калабаравала з акупацыйнымі ўладамі СССР, імпэтна выконваючы іх загады з мэтай знішчэння ўсяго нацыянальнага элемента. Жыды ніколі не дазволяць свету забыцца Аўшвіцу. Наш Аўшвіц — гэта Курапаты, ды хто ведае, колькі іншых месцаў масавага вынішчэння беларускай нацыі. Сённяшні ўрад — гэта прадаўжэнне БССР. Яго палітыка тыповая для камуністаў: крок назад, два наперад, і напамінае мне 1925-ты год. Заклікі, што там будуецца Беларускі дом, пацягнулі многіх. Прызнацца, там у той час было шмат больш беларускага, чымся цяпер. Тыя, што паверылі, загінулі без следу. Наша эміграцыя глядзела на падзеі на Беларусі цераз каляровыя акуляры — яны бачылі, што ім хацелася бачыць, Беларусь, якую яны вынасілі ў сваіх сэрцах ды ўяўленнях. Цяперашні ўрад хоча нам усім паказаць, маўляў, чаго хочаце: маеце Вашу Пагоню і сцяг. Памагайце будаваць дзяржаву і адначасова легалізаваць злачынную партыю. Не зразумейце мяне дрэнна, мы вельмі цэнім Вашыя змаганні за сапраўдную Беларускую Дзяржаву, ды гатовы дапамагчы, як толькі можам, але мусім цвяроза глядзець на факты.

Я чытаў выступленне сп.Пазняка ў Івацэвічах. Ён там даў даволі правільную ацэнку палітычнай сітуацыі на Беларусі.

Я Вам жадаю поспехаў з планаваным з'ездам. Хацелася б, каб я памыляўся ў маёй ацэнцы інтэнцыяў урада Рэспублікі Беларусь. Я вельмі сумняваюся, што ім баліць сэрца ці то за Беларусь, ці то за тых, хто ўжо раз накінуў здзек ды тэрор. Прызнацца, я ніколі не спадзяваўся, што там можна цяпер сказаць усю праўду аб беларускім руху ў часе нямецкай акупацыі. Вы маеце мой матэрыял. Там яшчэ шмат жывых сведкаў гэтых падзей. Я атрымаў шмат лістоў ад тых, хто перажыў Гулагі. Ім вельмі хацелася пабачыць у друку беларускую ацэнку падзей, але, як відаць, на гэта яшчэ не час.

Мне вельмі прыемна было атрымаць ліст ад Вас ды ўспомніць хоць кароткае, але вельмі прыемнае спатканне ў Лондане. Спадзяюся, што яшчэ спаткаемся ў родным Менску.

Ваш БАРЫС.

Барыс Кіт — навагрудчанін, які вышэй усіх узнёсся, аж да зор, бо менавіта за дасягненні ў асваенні космасу атрымаў ён званне акадэміка сусветнай акадэміі астранаўтыкі. Дасюль выкладаў матэматыку ў званні прафесара ў амерыканскім універсітэце ў Франкфурце-на-Майне, а цяпер — на пенсіі. Хацеў бы свой вопыт і розум цалкам прысвяціць роднай Беларусі, меў сустрэчы з афіцыйнымі асобамі, але пакуль што без рэальных вынікаў. Запаветная мара — адкрыць у Навагрудку невялікі па штатах, але ўзорны па ўзроўні адукацыі універсітэт.

12.01.93

Даражэнькі

Яўген Рыгоравіч!

Вельмі дзякую за Ваш апошні ліст. А яшчэ раз хачу падзякаваць за Вашае такое цудоўнае спатканне мяне ў Менску і за ўсё, што Вы мне зрабілі там...

У мяне тутака змены, я ўжо мушу выйсці ў «адстаўку» з майго універсітэта. Гэта значыць, я буду зусім вольны тутака ад працы. Гэта значыць, я мог бы яшчэ больш Вам дапамагчы на Бацькаўшчыне. Найбольш мог бы выкарыстаць мяне сп.Краўчанка, але пакуль што нічога ад яго не чуваць. Можа, Вы маглі б спаткаць сп.Садоўскага, калі ён яшчэ ёсць у Менску, і сказаць яму, што я таксама хацеў бы яго бачыць, каб памагчы яму тутака ў Боне. Калі б ён сур'ёзна думаў пра гэта, то хай скантактуецца са мной тутака ў Нямеччыне, або я мог бы прыехаць зноў у Менск.

*Мне хочацца рабіць нешта канкрэтнае для Беларусі і на вышэйшым узроўні.*

Што тычыцца майго выбару ў Акадэмію, дык вельмі дзякуй за Вашы старанні. Як яны хочуць сабе — мне ўсё роўна, ім павінна *хапіць* тое, што *я ўжо акадэмік сусветнай акадэміі астранаўтыкі.* Калі я годны гэтай акадэміі, то павінны быць годны і беларускай акадэміі. Сусветная акадэмія стаіць вышэй ад усіх нацыянальных. Калі не хочуць мяне, дык няхай і надалей варацца ў сваім саку...

Я згаджаюся з Вамі, што з маёй ведай чужаземных моваў /6/, усёй прошлай сусветнай астранаўтычнай дзейнасцю, маімі знаёмствамі, любоўю да гісторыі, палітычных навук я быў бы цяпер найбольш карысны ў галіне дзейнасці Міністэрства замежных спраў у якасці нейкага дарадчыка. У Маскве і іншых сталіцах ёсць цяпер шмат амерыканскіх і іншых заходніх дарадчыкаў...

Вельмі дзякую за Вашую хуткую рэакцыю і прадстаўленне маёй справы вышэйшым /сп.Краўчанка/ уладам. Вы сапраўды выконваеце энергічна і паспяхова ўзложаную на Вас *гістарычную місію* — аб'ядноўваеце беларусаў усяго свету...

Ваш Барыс КІТ

Вось яны — некалькі галасоў беларусаў далёкага замежжа. Кожны са сваім поглядам, сваім падыходам да жыцця, сваім разуменнем сённяшняй сітуацыі ў Беларусі, разуменнем сваёй ролі ў нашым нацыянальным Адраджэнні. Але ўсіх нашых суродзічаў яднае шчырая і бескарыслівая любоў да Бацькаўшчыны, жаданне бачыць яе незалежнай шчаслівай краінай. Менавіта пра гэта яны марылі ўвесь час, калі ім была наглуха зачынена сюды дарога. Яны ў той безнадзейнай сітуацыі не адракліся ад роднай мовы, культуры, звычаяў і традыцый, ад святых для іх ідэалаў Беларускай Народнай рэспублікі. І будуць верыць у іх да скону свайго жыцця.

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня Рады ЗБС**
**«Бацькаўшчына»**

# МЫ СЯБЕ ЯШЧЭ НЕ СПАЗНАЛІ...

## ДВА ТЫДНІ ДЫРЭКТАР ТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «БЕЛАРУСКАЯ КАПЭЛА» КАМПАЗІТАР ЯЎГЕН ПАПЛАЎСКІ ПРАЦАВАЎ У ЛОНДАНСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ

**— Пэўна, многія даследчыкі хацелі б папрацаваць у знанай лонданскай бібліятэцы. Вы, Яўген, аказаліся першым і пакуль адзіным беларускім музыкантам, якому пашчасціла пераступіць яе парог...**

— Яшчэ ўвосень, калі на фестываль «Адраджэнне беларускай капэлы» ў Мінск прыязджалі айцец Надсан ды Гай Пікарда, мы размаўлялі наконт такой магчымасці — прыехаць у Лондан, вывучыць фонды Скарынаўскай бібліятэкі, пеpазняць, што ўдасца, і копіі музычных матэрыялаў вярнуць на Беларусь. Аляксандр Надсан — а ён там бос — даў згоду... Сродкі на паездку прадаставіла Міністэрства культуры Беларусі, а лонданскія гаспадары прынялі мяне ў якасці госця бібліятэкі, з прадастаўленнем усіх матэрыялаў і ксеракса для працы.

**— Крышку, калі ласка, пра саму бібліятэку: што яна сабою ўяўляе, ці падобная да нашых кнігасховішчаў?**

— Бібліятэка унікальная. Збірацца яна пачала пасля вайны дзякуючы духоўным асобам. Скажам, па ініцыятыве айца Надсана ды арцыбіскупа Сіповіча, які быў вельмі паважаны ў Ангельшчыне і ва ўсім каталіцкім свеце. Напрыклад, я чуў такую гісторыю. Некалі была выстаўка Савецкага Саюза ў Англіі, і айцец Сіповіч наведаўся туды і кагось чакаў. Ішла Маргарэт Тэтчар з савецкім паслом — дык яна пакінула госця на некалькі хвілін, каб павітацца з Чэславам Сіповічам, абмяняцца парай слоў. Ён быў надзвычай адукаваны і камунікабельны чалавек... Пры ім быў пабудаваны Дом мар'янаў — фактычна, беларуская уніяцкая місія ў Лондане.

У Дом мар'янаў прыязджалі і кардыналы, і арцыбіскупы, і манахі, і Папа Рымскі. Выдаваўся тут уніяцкі часопіс «Божым шляхам», поўны камплект якога, дарэчы, мне падараваў айцец Надсан. Так утварыўся ў Лондане духоўны цэнтр, дзе намаганнямі айца Сіповіча, гэтаксама і Аляксандра Надсана, пачала збірацца бібліятэка. У свой час яны паездзілі вельмі многа па беларускіх цэнтрах. Такія цэнтры існавалі ў Лювене /Бельгія/, дзе скончыў свой жыццёвы шлях кампазітар Равенскі; у Кліўлендзе, у Таронта, у Мюнхене. У Аргенціне, Швецыі, Аўстраліі таксама была /і ёсць/ беларуская дыяспара. Многа цікавага знайшлося і ў Ватыкане.

Цяпер у Лонданскай бібліятэцы ёсць нават арыгіналы дзвюх кніг Францішка Скарыны. І шмат часопісаў сабрана: «Хрысціянская думка» — з першых нумароў да 39-га года захавалася большасць, тыя нават, што лічыліся канфіскаванымі; «Крыніца», «Божым шляхам» /якія пасля вайны пачалі выдаваць/, «Зьніч», заснаваны ў 50-я гады па ініцыятыве ксяндза доктара Татарыновіча. Удава кампазітара Міколы Шчаглова-Куліковіча перадала ягоны архіў цалкам — агромністая спадчына, якую трэба вывучаць, змешчаная ў 28 вялізных папках...

**— І на ўсё гэта вы мелі толькі два тыдні! Лёгка было разгубіцца...**

— А я, убачыўшы такое багацце матэрыялаў і зразумеўшы, што ўсё гэта за раз проста не адужаць — многа дакументаў проста не разгледжана, не апрацавана, бо сталых служачых там няма, музыкай жа займаецца фактычна толькі Гай дэ Пікарда, няма каталога, ёсць неапісаныя фонды, — вырашыў працаваць па некалькіх паралельных напрамках.

Першы — чыста музычны напрамак, нотны матэрыял, тое, што патрэбна для выканання. Затым — эпісталярная спадчына: ліставанне Алеся Карповіча, лісты Наталлі Арсенневай, лісты жонкі Куліковіча да Чэслава Сіповіча і інш. Трэці напрамак — гэта артыкулы, звязаныя з музыкай, крытычныя даследаванні, газетныя публікацыі. Тут шмат разнастайнага. Напрыклад — часопіс «Хрысціянская думка», дзе вельмі грунтоўнае месца адводзілася матэрыялам пра мастацтва.

Можна заўважыць, што «Хрысціянская думка» ўяўляла сабою цудоўны сінтэз духоўнасці, дзе аб'ядналіся рэлігійнасць са свецкасцю і рознымі пластамі мастацтва. Жывапіс быў прадстаўлены на старонках часопіса гаворкаю пра Драздовіча, Сергіевіча, напрыклад; музыка — пра хор Шырмы, увогуле пра дзейнасць Шырмы, пра Забэйду-Суміцкага і г. д. Гэткі сінтэз вельмі характэрны, і ён фактычна захаваўся да апошніх нумароў 39-га года, калі і ў час вялікай палітызацыі духоўна-мастацкі напрамак часопіса быў відавочны. Ды і ў часопісе «Зьніч» працягвалася гэтая традыцыя: артыкулы пра Забэйду-Суміцкага, пра Куліковіча, музыказнаўчыя артыкулы Карповіча. У бібліятэцы ёсць і камплекты газет, якія выдаваліся на Беларусі падчас вайны, дык у іх таксама адлюстраваны праявы мастацкага жыцця. У 42-м у Мінску, напрыклад, была пастаўлена опера Куліковіча «Лясное возера»...

Нарэшце, яшчэ адзін напрамак маёй працы ў Лондане — літаратура, выяўленне рэдкіх кніг, звязаных з музыкай, грунтоўных артыкулаў. Напрыклад, нарыс Міколы Куліковіча «Гісторыя беларускай музыкі» /пачынаючы ад старадаўніх пластоў IX стагоддзя, фальклору, і аж да 50-х гадоў нашага стагоддзя/. Зрабіў я таксама копію кнігі Адама Станкевіча пра Забэйду-Суміцкага. Пераняў і кнігу пра Адама Станкевіча, асобныя артыкулы Куліковіча, у тым ліку й тыя, што друкаваліся да вайны ў часопісе «Советская музыка»...

**— Што вас найбольш уразіла сярод музычных матэрыялаў?**

— Велізарны архіў Куліковіча. Вельмі многа вакальнай музыкі — і на вершы беларускіх паэтаў, і на англійскія тэксты, ёсць творы на ўласныя вершы. Дарэчы, я і вершы Куліковіча пераняў.

**— Памятаеце, у нас, у «ЛіМе», была падборка Куліковічавых вершаў, падрыхтаваная Мальдзісам?**

— Так, вось яшчэ і я прывёз... Уражвае колькасць напісанага Куліковічам! Харавыя творы, гарманізацыя ім жа сабранага песеннага фальклору, духоўная музыка, літургічная. Пераняў цалкам клавір оперы «Усяслаў Чарадзей».



*Так выглядае будынак бібліятэкі...*




*А гэта — шыльда ля яе дзвярэй.*

*Адно з выданняў.*

**— І ваша ўражанне?**

— Гэта паўнакроўная опера, 4 дзеі, многа разнастайных персанажаў, опера-дзеянне, а не опера-статыка. Як можна асацыіраваць з нейкім напрамкам у творчасці іншых кампазітараў, то гэта бліжэй да творчасці Барадзіна. Дзеянне адбываецца ў XI ст., сярод персанажаў баяны, хан ... Ужо была папярэдняя размова з дырэктарам тэатра оперы і балета Сяргеем Картэсам, каб можна было паказаць клавір «Усяслава Чарадзея», скажам, на мастацкім савеце ды і даводзіць да сцэны, бо ёсць у гэтым сэнс. Пакуль у нашай размове мільганула лічба «1996», бо цяпер ідзе праца па ўвасабленні нейкіх ранейшых планаў. Але трэба будзе ў бліжэйшы час аркестраваць і падрыхтаваць проста невялікія ўрыўкі ды зрабіць канцэрт з твораў Куліковіча. Можна ж і харавую творчасць ягоную паказаць. Дарэчы, і ў оперы хор багаты.

Айцец Надсан паабяцаў зрабіць таксама мікрафільм оперы «Лясное возера», бо гэтыя ноты захоўваюцца ў добрым пераплёце, так што ксеракапіраваць іх немагчыма. А пераняць удалося аперэту Куліковіча «У вырай», але там няма уверцюры і яшчэ нейкага нумара — у папках, пэўна, і ёсць, але ж з 28-мі пераглядзеў толькі 8 папак. Аперэту можна было б таксама паказаць ва ўрыўках — ёсць хоры, разнастайныя танцавальныя нумары.

Дэталёва разабрацца ў нотах, вядома, не было часу, бо давялося самому асвоіць ксеракс — а тады ўжо бяры паперу і працуй, колькі напрацуеш, бо колькі напрацуеш, столькі й з сабою павязеш.

**— І колькі гадзін у дзень выпадала вам працаваць?**

— Дакладнага падліку не рабіў... Першыя дні ўставаў а шостай гадзіне, ішоў на уніяцкую службу к сямі — праз дарогу ў Дом мар'янаў. Пасля — сняданак, і за працу: студэнты-беларусы, якія навучаюцца ў Лондане ў інстытуце місіянераў і кватаравалі па суседстве са мною, ішлі працаваць над сваімі эсэ па філасофіі, тэалогіі, а я — у бібліятэку... Удзень абед, зноў праца, вечарам а шостай — служба, потым праходка, размовы з Пікардам за пінтай піва...

**— Місія месціцца ў звычайным жылым квартале ці гэта нейкі замкнёны асяродак?**

— Гэта і не прыгарад, і не цэнтр — перадапошні прыпынак лонданскага метро. У гэтым агромністым раёне жывуць індусы, кітайцы, яўрэі, беларусы, англічан многа /яны, дарэчы, не жадаюць жыць у самым цэнтры/. Двухпавярховыя домікі, цішэйшы зялёны раён, птушкі спяваюць — як у парку, вавёркі бегаюць па дварах. Невялікі садзік кожны мае за домам. Даглядаюць самі. Яшчэ ёсць свецкі Беларускі дом нашай дыяспары, дзе, дарэчы, адпачывала група дзяцей з чарнобыльскай зоны, — але ў тым доме я не быў. Хацелася як мага больш працаваць — два тыдні для вывучэння гэткага аб'ёму матэрыялаў, зразумела, сціплы тэрмін.

**— Дык ці ўдалося вам, Яўген, пазнаёміцца са старым Лонданам?**

— Аднойчы спадар Пікарда проста выцягнуў мяне туды. Слухалі званы англіканскай царквы, хадзілі па музеях, наведванне якіх там, дарэчы, бясплатнае. Затое дорага каштуюць білеты ў тэатры, а самае дарагое — літаратура, якой я пабачыў на паліцах і многа, і разнастайнай, і надзвычай цікавай. Наведаў Брытанскі музей і Нацыянальную галерэю. У Нацыянальнай галерэі самае светлае ўражанне — ад мастацтва Сярэднявечча. Я знаёмы з гэтым жывапісам у рэпрадукцыях, але не чакаў, што ў арыгінале ён нясе такое святло! Фарбы гэтых карцін спалучаюцца з небам, з чысцінёю. І ніякая тут не выпусташанасць, не статыка — гэта спалучэнне чысціні, высокай духоўнасці, гэтыя палотны літаральна звязаны з космасам. Ужо з XVI ст. творы больш рамантызаваныя — італьянскія, французскія, ангельскія... Вялікі збор твораў Пікаса, некалькі залаў з работамі імпрэсіяністаў.

Разам з тым, я не магу забыцца на выказанае Пікардам: «Вы, беларусы, яшчэ не спазналі, не асэнсавалі да канца сваёй культуры ў тым, наколькі яна займае моцнае месца ў сусветнай культуры».

**— Але вернемся да вашых пошукаў.**

— Калі я ад'язджаў з Мінска, дачка Равенскага Вольга Аляксеенка дала мне адрасы двух сыноў сваёй сваячкі — Таццяны Рудкоўскай. Яны жывуць пад Лонданам, адзін гаворыць трохі па-руску, другі па-польску. Генрых, у якога захоўваецца архіў Равенскага, на той час з'ехаў, дык мы дамовіліся з Валяр'янам, што гэты архіў будзе перададзены ў Мінск. Бо самім Равенскім завешчана, каб архіў ягоны быў перададзены не, дапусцім, эміграцкай арганізацыі, а толькі на Беларусь і незалежнай арганізацыі, якая будзе займацца прапагандай гэтай творчасці.

**— Запавет — акурат для вас, для «Беларускай Капэлы»...**

— Ну, так... І цяпер ёсць дамоўленасць наконт перадачы архіва Міколы Равенскага менавіта нам. А ў Скарынаўскай бібліятэцы ёсць частка архіва Равенскага, перасланая з Лювена — вакальная, харавая музыка, апрацоўкі і гарманізацыі фальклору, даволі цікава зробленыя. Ёсць творы на вершы Гаруна, Цёткі, Арсенневай... Ягоны сябра Алесь Карповіч прадстаўлены больш як музыказнаўца. Дарэчы, у газеце «Новы шлях» прачытаў, напрыклад, ягоны артыкул пра кампазітара Алеся Спаскага — новае для нас імя. Ён скончыў Ленінградскую кансерваторыю, прыехаў на Беларусь, працаваў у Баранавічах, пісаў творы, блізкія напрамку Стравінскага: сімфанічны дыптых, вакальныя, харавыя, гарманізацыі фальклору... І творы Самохіна, пра якога не так даўно пісалася ў «ЛіМе», бібліятэка мае.

**— Ці ёсць, на ваш погляд, музыка, здатная па-сапраўднаму захапіць сучасных выканаўцаў і слухачоў?**

— Я думаю, што так. Дэталёва разбіраць скапіраваныя ноты не было пакуль часу, але вось літаральна днямі прайграў Куліковічаў «Рускі зборнік». Вакальным цыклам мо і нельга яго назваць, бо належнай для цыкла чыста музычнай драматургіі там, бадай, няма. Але сам зварот да нейкай стрыжневай ідэі вельмі цікавы і для таго часу свежы. Напрыклад, «Немецкая тетрадь» знакамітага Валерыя Гаўрыліна створана ці не на 20 гадоў пазней. У Куліковічавым «сшытку» аб'яднаныя творы на вершы Пушкіна, Аляксея Талстога, тэксты з фальклору, — гэта ўсё вельмі цікава. Думаю нават прапанаваць у праграму сёлетняга, трэцяга ўжо, фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы». Наша госця з Расіі вядомая Наталля Герасімава будзе ў ім удзельнічаць — з творам узбекскага кампазітара Янаў-Яноўскага, дык, можа, узялася б выканаць і «Рускі зборнік» Міколы Куліковіча. Гэты твор упішацца ў праграму і, дальбог, нам будзе не сорамна за яго мастацкія вартасці: напісаны ён якраз для высокага голасу, партыя фартэпіяна разгорнутая, цікавая, гармоніі свежыя для вуха. З часам, думаю, можна будзе выбраць штосьці адметнае і з твораў Туранкова, Самохіна, Зінчука, пераднятых з выдання Езавітава.

**— Слоў няма... Але якім чынам усё гэта перайграць, асвоіць-засвоіць?**

— Планы такія. У наступным годзе трэба зрабіць канцэрт з твораў Куліковіча, намаганнямі «Беларускай Капэлы» і, можа, яшчэ далучыць творы Равенскага. Паступова рыхтаваць да публічнага паказу і спадчыну іншых кампазітараў. Толькі барані Божа гэтыя творы называць музыкай беларускага замежжа!

**— Не-не. Я назвала б такі канцэрт, напрыклад, «Музыка на чужыне», або «Вяртанне з эміграцыі», «Вяртанне з чужыны», або проста «Вяртанне»... Памятаеце, у сваім лімаўскім інтэрв'ю спадар Пікарда таксама засцерагаў называць Равенскага ды Куліковіча «кампазітарамі беларускага замежжа»: яны ж нарадзіліся, фарміраваліся, сталелі тут!**

— Правільна, гэта тое самае, што лічыць

# КУДЫ НІ ТРАПЯЦЬ БЕЛАРУСЫ!

***Наўрад ці можна сёння дакладна вызначыць лік беларусаў у свеце — айчынная статыстыка не дае на тое падстаў. На Бацькаўшчыне іх жыве каля 8 млн. /прыкладна 79 % ад усяго насельніцтва/ і мяркуецца, што за межамі Рэспублікі Беларусь — яшчэ 3—3,5 млн. /прыводзіцца лічба нават у 4 млн./, што складае амаль трэцюю частку нацыі. Дык дзе ж у свеце жывуць беларусы?***

Найбольш сканцэнтраваны яны ў суседніх дзяржавах, пры гэтым на памежных з рэспублікай тэрыторыях — на сваіх спрадвечных, гістарычных землях, якія ў выніку барацьбы і палітычных гульняў больш моцных суседзяў былі адарваны ад Беларусі. Па звестках розных даследчыкаў, ад 250 да 400 тыс. беларусаў пражывае ў Польшчы, пераважна на сваіх этнічных землях Беласточчыны і Падляшша. У новых незалежных дзяржавах, якія адрадзіліся ці створаны на тэрыторыі былога Саюза, асела 2 млн. 130 тыс. беларусаў, у тым ліку і ў Расіі — 1 млн. 200 тыс. Тут найбольш кампактна яны пасяліліся ў Маскве і вобласці — 129 тыс., Санкт-Пецярбурзе і прыгарадах — 127 тыс., Калінінградскай вобласці — 74 тыс., Карэліі — 55 тыс., Цюменскай вобласці — 49 тыс. і іншых рэгіёнах. Сярод жыхароў Украіны — 440 тыс. беларусаў, Казахстана — 183 тыс., Літвы — 63 тыс., Эстоніі і Узбекістана — па 29 тыс., Малдовы — 20 тыс.

Пасля трох масавых эміграцыйных хваляў на захад /на рубяжы XIX—XX стст., у міжваенны перыяд і пасля другой сусветнай вайны/ устойлівыя беларускія асяродкі склаліся на амерыканскім і аўстралійскім кантынентах, у шэрагу еўрапейскіх краін. Яны пазней практычна не папаўняліся ў сувязі з адсутнасцю права на эміграцыю з СССР. У ЗША беларусы пасяліліся пераважна ў штатах Нью-Йорк, Нью-Джэрсі, Агаё, Мічыган, Каліфорнія; у Канадзе — у правінцыях Квебек, Антарыа, Саскачаван, Альберта; у Аргенціне — у правінцыі Буэнас-Айрэс. На аўстралійскім кантыненце найбольш значныя беларускія асяродкі склаліся ў штатах Заходняя Аўстралія /Перт/, Паўднёвая Аўстралія /Адэлаіда/, Вікторыя /Мельбурн/. Дзесяткі тысяч беларусаў аселі ў Вялікабрытаніі, Францыі, Бельгіі, ФРГ і іншых краінах.

Чым жа можна патлумачыць такі вялікі адток насельніцтва за межы рэспублікі? Прычын тут, вядома, шмат, але найперш гэта сталася вынікам як адвольнага вызначэння /без уліку этнічных межаў і інтарэсаў народа/ тэрыторыі БССР, так і штучнага стымулявання на дзяржаўным узроўні ўнутранай міграцыі, што прадвызначалася эканамічнымі і ідэалагічнымі патрэбамі партыйна-дзяржаўнага кіраўніцтва СССР, найперш — тэорыяй і практыкай «зближэння і зліцця нацый».

Здаецца, мы яшчэ дакладна не ўсведамляем памеры і вынікі вымушанага і прымусовага перасялення і высялення жыхароў Беларусі ў розныя гады. Варта толькі прыгадаць планы набору рабочай сілы ў аддаленыя і цяжкія для жыцця і працы рэгіёны дзяржавы, уцёкі сялян з родных мясцін у ходзе гвалтоўнай калектывізацыі, дэпартацыі «раскулачаных» і неабгрунтавана рэпрэсаваных у 30-ыя — пачатку 50-х гадоў, гвалтоўныя масавыя высяленні з далучанай у 1939 г. Заходняй Беларусі. Дэпартацыя ж на поўнач і ўсход СССР у шматлікія лагеры «ненадзейных» асоб узяла многіх з тых, хто ў ходзе другой сусветнай вайны аказаўся ў нямецкім палоне, быў вывезены на прымусовую працу ў Германію або на акупаванай тэрыторыі быў прыцягнуты ў розныя адміністрацыйныя і гаспадарчыя органы /часта пад прымусам/. Дзяржава, якая не абараніла гэтых людзей у гады вайны, пасля яе заканчэння зняла з сябе маральную адказнасць за лёс пакінутых грамадзян, дзейнічала па прынцыпе калектыўнай, а не індывідуальнай адказнасці кожнага за свае ўчынкі. Менавіта антынацыянальная і антыдзяржаўная палітыка савецкай улады выштурхнула з Бацькаўшчыны першую хвалю палітычнай эміграцыі пасля рэвалюцыі і выклікала вялікую яе плынь пасля другой сусветнай вайны.

Сучасная эміграцыя стварыла свае рэлігійныя і грамадскія арганізацыі, культурныя цэнтры, выдавецтвы, нацыянальны друк. Цяпер у замежжы дзейнічаюць Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі /з 1947 г./, Беларуска-амерыканскае задзіночанне /з 1949 г./, Згуртаванне беларусаў у Канадзе /з 1948 г./, Беларускае нацыянальнае аб'яднанне ў Канадзе /з 1950 г./, Беларускае аб'яднанне ў Аўстраліі /з 1951 г./, Беларускі Хаўрус у Францыі, Саюз беларусаў Бельгіі, Беларускі кангрэсавы камітэт у ЗША і інш. 51-ю гадавіну свайго існавання адзначыла Беларуска-амерыканская Рада ў Чыкага. Гуртаванню замежных суродзічаў спрыяюць сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі /з 1952 г./ і Аўстраліі /з 1976 г./. Цэнтрамі навукова-культурнага жыцця на эміграцыі сталі Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Йорку /з 1951 г./ і такі ж інстытут у Таронта /з 1967 г./, Беларуская бібліятэка і музей імя Ф. Скарыны ў Лондане /з 1971 г./, Інстытут беларусаведы ў Ляймене /ФРГ/ і Беларускі музей /адкрыўся тут жа ў 1983 г./. Газета «Беларус», якая выходзіць у Нью-Йорку з 1950 г., мае чытачоў-беларусаў у многіх краінах свету, а цяпер стала даступнай і на Бацькаўшчыне /яе размнажае прадпрыемства «Тэхналогія» і распаўсюджваюць кіёскі Таварыства беларускай мовы/.

Інтарэсы беларусаў у Польшчы выражае першая замежная нацыянальная палітычная партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне /з 1990 г./, а таксама Беларускае грамадска-культурнае таварыства /з 1956 г./, Беларускае аб'яднанне студэнтаў /з 1981 г./ і інш.

Ідзе працэс гуртавання беларусаў у новых незалежных дзяржавах на тэрыторыі былога СССР, у іншаэтнічных рэгіёнах якога з 30-ых гадоў і да канца 80-ых адсутнічалі якія-небудзь праявы нацыянальнага жыцця. У Расійскай Федэрацыі цяпер ладзяць грамадска-культурныя мерапрыемствы нацыянальныя таварыствы, суполкі ў Маскве, Санкт-Пецярбурзе, Калінінградзе, Петразаводску, Ніжнім Ноўгарадзе, Новасібірску, Ноўгарадзе, Якуцку, Саснагорску, Калузе, Цверы і інш. На Украіне грамадска-культурныя таварыствы працуюць у Кіеве, Львове, Ялце, Чарнаўцах; у Малдове — у Кішынёве і Бендэрах; у Казахстане — у Алма-Аце і Прыазёрску. Актыўна дзейнічаюць згуртаванні беларусаў у Літве /Вільня, Салечнікі/, Латвіі /Рыга, Дзвінск/, Эстоніі /Талін, Кохтла-Ярве/. Не так даўно створаны суполкі ў Кыргызстане /Бішкек/ і Узбекістане /Фергана/, пачынаецца аб'яднанне суродзічаў і ў іншых краінах. Паявіліся і першыя прафесійныя згуртаванні — Асацыяцыя прадпрымальнікаў Латвіі /Беларускі шлях/, аб'яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі /Эстоніі, Літвы, Латвіі, Санкт-Пецярбурга/ «Маю гонар».

Замежныя беларусы не толькі арганізавалі грамадска-культурнае і рэлігійнае жыццё на нацыянальнай аснове, зберaглі традыцыі, мову, але і памножылі культурныя набыткі. На эміграцыі існуюць Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, Беларуская праваслаўная царква ў Канстанцінопальскай юрысдыкцыі, Беларуская каталіцкая місія. Асяроддзе замежных беларусаў вылучыла паэтаў і празаікаў, мастакоў, кампазітараў і спевакоў, навукоўцаў. На цяперашні час плённа працуюць па асвятленні гісторыі і культуры Беларусі і распаўсюджванні ведаў аб ёй у ЗША Я. Запруднік, В. і З. Кіпелі, М. Белямук і інш. Вядомасць у беларускім замежжы набылі пісьменнікі Н. Арсеннева, М. Сяднёў, А. Салавей, Р. Крушына. Беларускія песні гучаць у рэпертуары вядомых у замежных краінах спевакоў П. Конюха і М. Стрэчаня. Беларускія мастакі В. Жаўняровіч, З. Чайкоўскі, У. Шыманец экспанавалі свае карціны на розных выставах у ЗША і Еўропе. Беларуская тэма гучыць у працах такіх мастакоў, як І. Шыманец-Сурвіла, П. Мірановіч, І. Рагалевіч-Дудко, Г. Русак, М. Наўмовіч, Н. Кудасава. У розных штатах ЗША прайшло больш за 100 выстаў Т. Стагаловіч-Кольбы. У Швецыі і Фінляндыі атрымаў прызнанне графік і стваральнік інтэр'ераў наш суродзіч А. Ахола-Уала. Вядомасць не толькі ў асяроддзі беларусаў у Польшчы набылі пісьменнікі С. Яновіч, А. Барскі /Баршчэўскі/, В. Швед, Я. Чыквін, мастакі Л. Тарасэвіч, М. Давідзюк, навукоўцы Ю. Туронак, Б. Белаказовіч, У. Юзвюк, А. і Я. Мірановічы і інш. Прызнаны ў свеце як буйны спецыяліст у галіне ракетнай тэхнікі акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі Барыс Кіт, які абраны ў многія навуковыя міжнародныя і нацыянальныя таварыствы, узнагароджаны залатым медалём нямецкага таварыства імя Германа Обэрта, з'яўляецца заслужаным прафесарам Мэрылендскага універсітэта /ЗША/. Беларус па паходжанні Ілля Прыгожын — бельгійскі фізік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1977 г. Дзесяткі тысяч беларусаў-навукоўцаў, спецыялістаў рознага профілю — сваёй працай і талентам пакінулі добрую спадчыну ў новых незалежных дзяржавах. Але толькі апошнім часам, асабліва пасля набыцця Рэспублікай Беларусь незалежнасці, мы сталі больш пільна ўглядацца ў сябе як цэласны народ у свеце, пазнаваць сваю культурна-гістарычную, духоўную спадчыну, створаную не толькі на Бацькаўшчыне, але і за яе межамі.

**Галіна Сяргеева**

# ДАТА НЕ КРУГЛАЯ, ДЫ КУПАЛАЎСКАЯ...

Аб жыцці і творчым шляху народнага песняра Беларусі Янкі Купалы цікава і змястоўна расказалі паэты С.Грахоўскі, С.Законнікаў і галоўны спецыяліст Літаратурнага музея Я.Купалы М.Чабатарэвіч на сустрэчы з воінамі Мінскага гарнізона, якая праходзіла ў купалаўскім тэатры і прысвячалася 111-й гадавіне з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры.

М.Аўрамчык прачытаў два свае вершы, напісаныя больш за пяцьдзесят гадоў назад, у цэнтры якіх — народны пясняр. А народная артыстка З.Браварская расказала пра неўміручую «Паўлінку», спектакль па якой і быў паказаны ўдзельнікам сустрэчы купалаўцамі.

Адказны сакратар Рэспубліканскай ваенна-шэфскай камісіі па культурным шэфстве над Узброенымі Сіламі Рэспублікі Беларусь А.Верабей уручыў Саюзу пісьменнікаў Беларусі, тэатру імя Янкі Купалы і Літаратурнаму музею Я.Купалы за актыўную шэфскую работу граматы камісіі.

Воіны змаглі пазнаёміцца з фотавыстаўкай аб літаратурнай дзейнасці песняра.

**Г.ПЯТРОЎСКІ**

# КЛУБ ЖУРНАЛІСТАЎ

У Мінскім Доме ветэранаў адкрыўся Клуб ветэранаў журналістыкі. Прысутных вітаў сакратар Саюза журналістаў Беларусі Л.Екель. У.Юрэвіч, Р.Тарасевіч, У.Бараноўскі, А.Колас, А.Дзітлаў, І.Цітоў, М.Шыбаліс і іншыя падзяліліся ўспамінамі аб пражытым і перажытым.

Цёпла сустрэлі ўдзельнікі ўрачыстасці адну з гераінь нарысаў ваенных журналістаў, былую разведчыцу Ганну Аляксеенку, якая пусціла пад адхон сем варожых эшалонаў.

Песні розных гадоў гучалі ў выкананні заслужанага артыста В.Прышчапёнка, вакальнага ансамбля «Памяць сэрца» і іншых калектываў і спевакоў.

На першым паверсе Дома ветэранаў працавала фотавыстаўка М.Ананьіна.

**П.ГАРДЗІЕНКА**

# СЯЛІБА НА СКРЫЖАВАННІ

*(Пачатак на стар. 5)*

Злучаных Штатаў Амерыкі — 3133, Ізраіля — 44, Новае Зеландыі — 7, Нарвегіі — 4, Парагвая — 15, Францыі — 56. З БССР эмігравала шмат болей, але па розных прычынах запісаных паходзячымі з БССР было гэтулькі[14].

Па разліках старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па нацыянальнай палітыцы і міжнацыянальных адносінах, доктара філасофскіх навук, прафесара Мхася Слямнёва, кіраўніка лабараторыі этнічнай геаграфіі Мінскага педагагічнага інстытута, доктара геаграфічных навук, прафесара Спартака Польскага, навуковага супрацоўніка лабараторыі Сяргея Мацюніна, на падставе польскіх крыніц з тэрыторыі беларускіх ваяводстваў за 1921—1939 гг. выехала ў іншыя краіны Еўропы каля 50 тысяч чалавек, а за акіян — каля 135 тысяч[15].

Калі б хто хацеў трапна назваць як культурна-нацыянальнае, так і геапалітычнае становішча нашага народа, дык наўрад ці знойдзе больш адпаведны тэрмін, чым вось гэты: на скрыжаванні розных дарог, інтарэсаў і ўплываў суджана было беларускаму народу заснаваць сабе сялібу. Усе з усяго свету і падсвету ўздоўж і ўпапярок ездзяць па зямлі нашай Бацькаўшчыны, як па той разгароджанай сірочай ніве. Наколькі, з аднаго боку, гэткае геаграфічнае раздарожжа давала народу культурна-гандлёвыя магчымасці, як той гістарычны шлях «з Вараг у Грэкі», настолькі, з другога, гэтае ж размяшчэнне выстаўляла край на смяротныя небяспекі. У першай палове XX стагоддзя гэтыя небяспекі выраслі да жахлівых размераў.

На Захадзе, куды трапілі беларусы не як пераможаныя, а як носьбіты адвечных імкненняў свайго народа да самабытнасці, незалежнасці і самастойнасці, маральная падтрымка тых, якія апынуліся на эміграцыі, з'яўляецца немалаважным абавязкам друку, аб чым мы так часта забываем. Тут не лішне будзе адзначыць, што, гонячыся за «гегемоніяй» на ўнутраным фронце, мы забываем, для каго пішам і апелюем. Мы проста не заўсёды ведаем свайго беларускага чытача, здабыткі і сімпатыі каторага для нас не з'яўляюцца чымсьці нязначным. Адсюль, аднак, не вынікае, што мы павінны раўняцца на яго.

---

*[1] БелСЭ. Т. 12. Мн., 1975. С. 55.*

*[2] Большая Советская Энциклопедия. Т. 30. М., 1978. С. 475.*

*[3] Грамовіч Язэп. Кітай, Сібір, Масква. Мюнхен. 1962. С. 8, 12—15 і інш.*

*[4] Беларускі Сьвет. 1989. 21 /50/. С. 39.*

*[5] Беларускі Сьвет. 1989. 21 /50/. С. 40.*

*[6] Тамсама.*

*[7] Зимионко А. Оккупация и интервенция в Белоруссии. Мн., 1932. С. 33.*

*[8] Беларускі Сьвет. 1989. 21 /50/. С. 41.*

*[9] Беларускі Сьвет. 1989. 21 /50/. С. 41—42.*

*[10] Тамсама.*

*[11] L'ouragan rouge, 2-e edition, Paris. 1936.*

*[12] Вініцкі Алесь. Матэрыялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939—1951 гг., ч. 3, Лос-Анджэлес, 1968, /машынапіс/. С. 114.*

*[13] Bielorrussia j los Bielorrusos en la Republica Argentina, Editado por Asociacion Bielorrusa en la Argentina, Buenos Aires. 1953. pg. 48.*

*[14] «Веда». Навукова-літаратурны месячнік. Выдае Крывіцкае /Беларускае/ Навуковае Таварыства Францішка Скарыны. 1952. N 6 /11/. С. 191.*

*[15] Народная газета, 1992, 4 студзеня.*

## ЛіМ - часапіс

### МУЗЫКА

# МОСТ ДЛЯ «ПІКАВАЙ ДАМЫ»

Спектакль «Пікавая дама», больш як 10 гадоў таму пастаўлены на сцэне ДАВТа, чакаюць значныя перамены. Не так даўно ў тэатры вырашана абнавіць сцэнічнае вырашэнне пастаноўкі, а гэта значыць, перш за ўсё «змяніць апратку». Мастачкай Л. Ганчаровай ужо зроблены макет новага афармлення, своеасаблівым лейтматывам якога сталася выява моста. Мост мае зрабіцца і яркай сцэнічнай метафарай, і важным функцыянальным кампанентам афармлення, які дапаможа лагічнаму злучэнню карцін оперы, дынамічнасці разгортвання дзеяння. Як адзначае рэжысёр «Пікавай дамы» С. Штэйн, новае мастацкае афармленне паспрыяе пошуку і новага пастановачнага вырашэння, якое надасць шэрагу мізансцэн глыбіню і поліфанічнасць. Гледачам жа застаецца чакаць гэтай своеасаблівай прэм'еры.

С. Б.

### ФЕСТЫВАЛІ

# «МАГУТНЫ БОЖА»

Гэта — назва новага фестывалю, які ўпершыню праводзіцца не толькі на Беларусі, а і ў свеце. «Магутны Божа», І Міжнародны фестываль духоўнай музыкі і песні, ладзіцца з 13 па 17 ліпеня ў Магілёве і мае на мэце сцвердзіць вялікую ідэю: людзі ўсіх народаў, усіх канфесій павінны жыць у міры, павінны паяднацца праз любоў, праз музыку. Горад чакае шматлікіх гасцей з усяе Беларусі, з Украіны, Расіі, Венесуэлы, Італіі, Польшчы, краін Балтыі... Прызы для пераможцаў у конкурсных праграмах рыхтуюцца ў Германіі, Англіі, Францыі. Канцэрты адбудуцца ў касцёле, у палацах культуры, на адкрытых пляцоўках. Праграмы, асвятленнем якіх будзе апекавацца ТБ, правядзе дыктар Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі З. Бандарэнка. Так што частку фестывальных уражанняў можна будзе атрымаць, знаходзячыся далёка ад Магілёва.

Н. К.

# ПОЛЬСКІЯ ПРЭМ'ЕРЫ... МАНЮШКІ

Днямі група беларускіх артыстаў вярнулася з XXXII Фестывалю Манюшкаўскага. Як мы паведамлялі напярэдадні іхняга ад'езду, падзея гэтая адбывалася ў маляўнічым кутку Татраў, у польскім курортным мястэчку Кудова-Здруй. Дэбют нашых салістаў ды ансамбля «Класік-Авангард» на прэстыжным міжнародным фестывалі прайшоў з трыумфам. Рэпертуар знанага беларускага артыста В. Скорабагатава, напрыклад, стаўся сюрпрызам нават для дырэктара фестывалю, старшыні Таварыства сяброў Манюшкі пані М. Фолтын. Аказваецца, дзякуючы В. Скорабагатаву, арыя камісара Банавентуры Выкрутача «Ах!» з Манюшкавай «Сялянкі» ўпершыню прагучала ў Польшчы. Гэтаксама ўпершыню пачула публіка баладу «Свіцязянка» /напісаную для высокага жаночага голасу/ у выкананні барытона. Сенсацыяй быў і музыканцкі подзвіг канцэртмайстра Г. Каржанеўскай, якой неспадзявана і раптоўна давялося замяніць сваю польскую калегу, «пажарным парадкам» падрыхтаваць незнаёмую праграму з «чужымі» салістамі. У выніку Г. Каржанеўская атрымала запрашэнне прыехаць на будучы год у якасці канцэртмайстра фестывалю і — члена журы. Вось такія эпізоды гэтай музычнай імпрэзы, падрабязны расповяд пра якую рыхтуе спецыяльна для «ЛіМа» ўдзельнік фестывалю мастацкі кіраўнік творчага аб'яднання «Беларуская Капэла» В. Скорабагатаў.

С. Б.

### КУЛЬТУРА

# БРЭСЦКІЯ «ПЕЎНІКІ»



У песенных святах у Кіеве, Пскове, Санкт-Пецярбурзе прымалі ўдзел гэтыя славутыя хлопчыкі з узорнага дзіцячага народнага хору «Пеўнікі». Створаны ён пры Брэсцкім гарадскім Доме культуры. У рэпертуары калектыву як складаныя творы кампазітараў-класікаў, так і беларускія народныя песні. «Пеўнікі» гастралявалі і па многіх гарадах суседняй Польшчы.

Звыш 15 гадоў, з дня заснавання калектыву, кіруе хорам Алег Яўгенавіч НЕРОДА /на здымку/, аддаючы хлопчыкам не толькі веды, але і цеплыню душы.

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

### ТЭАТР

# ДАБРАЧЫННЫЯ КАНЦЭРТЫ

Адзіны ў свеце Маскоўскі маладзёжны ілюзійны тэатр даў у сталіцы ў Палацы культуры прафсаюзаў тры дабрачынныя канцэрты-сустрэчы /28 і 29 чэрвеня/, якія называліся «Фокусы! Магія! Цуды!»

Асабліва даспадобы прыйшліся аўдыторыі фокусы з удзелам гледачоў, якія паказвалі мастацкі кіраўнік тэатра — лаўрэат II рэспубліканскага конкурсу артыстаў эстрады /у Беларусі/ Аляксей Цітарэнка. У канцэрце выступаў артыст тэатра мінчанін Сяргей Загорскі /клоун/.

Трэба дадаць, што ўваход на канцэрты быў бясплатны, дзякуючы фундатарам — Белпрамбудбанку, страхавому таварыству «Кентаўр», фірмам «Красіко», «Профко» і іншым.

Маскоўскія артысты ў бліжэйшы час маюць намер прыехаць на Беларусь і даць шэраг дабрачынных канцэртаў-сустрэч у рэгіёнах рэспублікі, над якімі прайшла хмара Чарнобыля.

Г. ПЁТУХ

### ЛІТКУР'ЕР

# ГУЧАЛІ ВЕРШЫ НА УШАЧЧЫНЕ

У тую нядзелю на Віцебшчыне задажджыла, і над абласным святам паэзіі, якое было прымеркавана да дня вызвалення Ушаччыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, навісла пагроза. Але дождж — дажджом, а вершы — вершамі. І свята адбылося. Праўда, не на плошчы, не пры наплыве людзей, якіх, як планавалася, павінны былі разам з паэтычным словам прывабіць яшчэ і багатыя гандлёвыя рады. Свята прайшло больш сціпла. Пасля таго, як пад бадзёрыя гукі маршаў паэты разам з ветэранамі невялікай калонай прайшлі па Ушачах, усклалі кветкі да вечнага агню, з'ездзілі на комплекс «Прарыў», дзе таксама ўсклалі кветкі, свята паэзіі было перанесена ў Дом культуры. А там працавала выстава народных майстроў, можна было купіць смачнае печыва ды марозіва. Можна было там купіць і кнігі з фондаў мясцовай бібліятэкі, на якіх стаялі штампы «дазволена да продажу». Праўда, у перасоўным кіёску не знайшлося месца ніводнай кнізе на беларускай мове. На маё здзіўленне мне растлумачылі, што, маўляў, беларускіх кніг і так цяпер мала, і лішніх у фондах бібліятэкі проста няма. Нарэшце! Дачакаліся, што і наша кніга пературараецца ў каштоўнасць, з якой не спяшаюцца расстацца. Як кажуць, не было б шчасця, ды няшчасце памагло.

А затым паэты чыталі свае вершы. Вольных месцаў у невялікай зале, па праўдзе кажучы, хапала. Але і дзеці, і старэнькія бабулькі, здаецца, шчыра віталі творы Марыі Баравік, Яўгеніі Мальчэўскай, Навума Гальпяровіча, Алега Салтука, Алеся Жыгунова, маладых паэтаў Віцебшчыны. Пазней гледачы гэтак жа цёпла прымалі выступленне ансамбля народнай песні з Докшыц «Раніца». Назаўтра ўдзельнікі свята, як заўсёды, наведалі дом-музей Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах. На тым і скончылася сціплае, прамоклае пад няветлым дажджом абласное свята паэзіі на Віцебшчыне.

Н. К.

### ДРУК

# «БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА», N 6

Чарговы нумар часопіса «Беларуская думка» адкрываецца маналогам ля тэатральнай рампы дырэктара тэатра імя Я. Купалы І. Вашкевіча «Пад сузор'ем Купалы» /матэрыял падрыхтаваў Я. Конеў/. У «Літаратурнай гасцёўні» — навелы Я. Пархуты, вершы М. Вяршыніна, рэцэнзія М. Маляўкі на кнігу У. Ліпскага «Вясёлая азбука».

Алесь Марціновіч разважае пра творчасць паэта Я. Юхнаўца «Як з нашым пакаленнем?..» /новая рубрыка «Постаці замежжа»/. У раздзеле «Духоўны свет» — дыялог У. Глушакова з першым намеснікам міністра народнай адукацыі Л. Сухнат «Колькі каштуе рэформа школе?», артыкул М. Маліноўскага «Дзеці ветру» пра цыганоў на Беларусі. Раздзел «Вузлы Айчыннай гісторыі» прадстаўлены выступленнем дэкана гістарычнага факультэта Гродзенскага універсітэта В. Чарапіцы «Плыні навуковасці» і артыкулам А. Рогалева «Гістарычная Літва» на беларускіх землях?».

# ЗАЙМАЛЬНЫ ДАПАМОЖНІК

Здаецца, падобных кніжак у нас раней не выходзіла. А тут, калі ласка, займальны дапаможнік для ўдасканалення мовы «Руска-беларускія крыжасловы». Аўтар — І. Курбека, выдавецтва, якое парупілася выдаць кнігу, — «Навука і тэхніка».

У кнізе змешчана 37 крыжаслоўаў /калі па-руску казаць — красвордаў/. Але гэта не звычайныя крыжасловы, а ў нейкай ступені і загадкі: пытанне падаецца па-руску, а адказ неабходна ўпісаць на роднай мове.

Як тут не пагадзіцца з аўтарам звароту «Да чытача» У. Юрэвічам: «Такая кніжка патрэбная. Яе чакаюць кнігарні і кіёскі перыёдыкі. Выданне прыдасца кожнаму. Найперш — вучню, студэнту і настаўніку. Дый любы цікаўны чытач, думаецца, з прыемнасцю паспрабуе праверыць свае веды ў галіне беларускай і рускай моў».

А. М.

# ВЫДАЛА «ПОЛЫМЯ»

Выдавецтва «Полымя», нягледзячы на цяжкасці, працягвае выпуск змястоўных выданняў па краязнаўстве, гісторыі. Нядаўна з'явіліся яшчэ тры навінкі. «Беларускі народны каляндар» А. Лозкі — для тых, хто хоча бліжэй спазнаць народныя традыцыі і звычаі. Аўтар у храналагічнай паслядоўнасці расказвае пра самыя розныя нацыянальныя святы, гульні. Даецца багаты інфармацыйны матэрыял, акрамя таго прыводзіцца падрабязнае апісанне іх. Пры гэтым выкарыстоўваюцца шматлікія фальклорныя матэрыялы — песні, прыказкі, прымаўкі.

К. Шышыгіна-Патоцкая даўно даследуе гісторыю Нясвіжа і яго ваколіц. У кнізе «Скарбы Нясвіжа» робіцца падарожжа на некалькі стагоддзяў назад, ажыўляюцца падзеі грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, нямала расказваецца пра магнатаў Радзівілаў. Дакументальныя факты ў нарысах суседнічаюць з паданнямі, легендамі, а яны настолькі ўражвальныя, што часам немагчыма высветліць, дзе праўда, а дзе выдумка.

Папаўненнем у серыі «Помнікі беларускага дойлідства» стала брашура А. Кулагіна «Адраджэнне готыкі», у якой расказваецца, як архітэктура Беларусі ў XIX стагоддзі пачала вяртацца да сярэдневяковага заходнееўрапейскага стылю — готыкі, называюцца найбольш цікавыя помнікі яго.

# КНІЗЕ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ — ПАДМОГУ

Год назад працоўны калектыў і савет выдавецтва «Юнацтва» стварылі дабрачынны фонд абароны і развіцця дзіцячай кнігі. Сродкі ў гэты фонд будуць паступаць ад чытачоў, дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў, творчых і грамадскіх арганізацый і саюзаў, народных дэпутатаў — усіх, каму неабыякавы лёс выхавання падрастаючага пакалення. У праўленне фонду ўвайшлі пісьменнікі, вядучыя спецыялісты выдавецтва.

Днямі вядомы беластоцкі літаратар Мікалай Гайдук перадаў у дабрачынны фонд ганарар за сваю кнігу «Паратунак», якая нядаўна выйшла ў «Юнацтве». Гістарычныя эсэ М. Гайдука, як вядома, узнаўляюць шмат якія падзеі беларускай мінуўшчыны, садзейнічаюць выхаванню дзяцей нацыянальна свядомымі.

Неабыякавы лёс дзіцячай кнігі і для выканкама Магілёўскага абласнога Савета народных дэпутатаў. Нядаўна ён перавёў звыш трохсот тысяч рублёў на выпуск кнігі А. Кандрусевіча «Юныя героі Магілёўшчыны».

Н. К.

### БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# ПРЫВІТАННЕ З САЎТ-РЫВЕРЫ!



Сяго-таго на гэтым фота вы, безумоўна, пазнаяце. Мо здагадваецеся і пра нагоду, з якой было яно зроблена? То нагадаем. Летась, падчас 20-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, у гарадку Саўт-Рыверы гасцявала група маладых дзеячаў беларускай культуры. І застаўся напамінак пра шумную, па-беларуску шчырую бяседу — гэты здымак. На ім — сям'я Бычкоўскіх /кіраўнік вядомага ў свой час беларускага эстраднага аркестра Уладзімір Бычкоўскі стаіць другі справа, ягоны сын, піяніст Джым стаіць другі злева/, кампазітар Яўген Магаліф /стаіць першы справа/, кампазітар Зміцер Яўтуховіч /з акардэонам/, спявак Мікола Скорыкаў /сядзіць другі справа/, ды іншыя. Такое вось прывітанне з Амерыкі...

С. В.

# У ЧЫКАГА СПЯВАЮЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ

Не так даўно да нас у Чыкага пераехала з Мінска сям'я кампазітара Міхаіла Клейнара. Вельмі мілае і гасціннае спадарства! М. Клейнар паклаў на музыку вершы «Слава твая, Беларусь» Г. Бураўкіна, «Каханыя рукі твае» Р. Таміліна, «Калыханка» і «Люблю я сонца залатое» Н. Арсенневай, «Дагэтуль незабытая» Р. Барадуліна і іншыя.

З гэтымі песнямі — уласнымі, а таксама з песняй Г. Казловай на словы С. Панізніка «Беларусь — крыніца песні» кампазітар М. Клейнар выступіў на канцэрце ў Чыкага.

Вітаўт РАМУК

*Чыкага*

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ — ЗДАЛЁК

«Панаванне чужых ідэалагічных шаблонаў праз доўгія гады стрымлівала развіццё беларускай гістарычнай навукі. У пасляваенныя гады вольнымі ад савецкай метадалогіі былі, бадай, толькі эміграцыйныя беларускія гісторыкі. Сярод іх — Аўген Калубовіч». Так гаворыцца ў прадмове «Гісторыя, ілюстраваная фактамі» да кнігі А. Калубовіча «Крокі гісторыі». Кніга складзена з даследаванняў, артыкулаў, успамінаў, што ў розны час публікаваліся і выходзілі асобна ў беларускіх эміграцыйных выданнях.

Каб сабраць іх разам і выдаць, парупіліся фірма «Гамакс» з Беластока, рэдакцыя віленскай газеты «Наша Ніва» і выдавецтва «Мастацкая літаратура», а таксама ўдава А. Калубовіча Іна Каханоўская, якая напісала біяграфічны нарыс «Сын верны Маці-Беларусі» і падрыхтавала спіс публікацый свайго мужа.

Кніга, безумоўна, выкліча цікавасць у кожнага, хто неабыякавы да гісторыі Бацькаўшчыны. А. Калубовіч асвятляе пытанні, якія раней разглядаліся тэндэнцыйна ці замоўчваліся. У прыватнасці, падае гісторыю беларускай эміграцыі /«Нашы папярэднікі»/. Яго хвалююць праблемы нацыянальнага абуджэння ва ўмовах БНР /«Акт 25 сакавіка і адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры»/, лёс тых, хто ствараў Савецкую Беларусь, а пасля стаў ахвярай наступнікаў /«Айцы БССР» і іхны лёс»/. Надзвычай цікавае даследаванне «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства» і, вядома ж, яго ўспаміны, дзе лёс канкрэтных людзей увязваецца з працэсамі беларусізацыі: «Прафесар Мітрафан Доўнар-Запольскі і Акт 25 сакавіка», «Якуб Колас і Янка Купала», «Мікола Шчаглоў /Кулікові/».

А. М.

ЛіМ - часапіс

# ГІСТОРЫЯ НАШАГА ІМЯ

Вітаўт ЧАРОПКА

## ЛІТВА — РУСЬ БЕЛАЯ

### Частка 3

Напрыканцы XV ст. назва «Літва» пашырылася на ўсе беларускія землі. Гэтак, у 1283 г. у «Хроніцы» Пятра Дузбурга паўночна-заходняя Беларусь ужо называецца Літвой: «... у Гародзенскай вобласці ў Літве». Пасламі з Літвы ў 1325 годзе лічыліся ў Ноўгарадзе полацкі князь Воін і менскі князь Васіль. Пад 1335 годам гарадамі літоўскімі названы ў Ніканаўскім летапісе Асечан і Расна /35 км на захад ад Мсціслаўя/. У складзеным напрыканцы XIVст. «Списке русских городов...» «литовьскии» гарады: Слуцк, Гародня, Клецк, Крэва, Гальшаны, Бяразуя /Бяроза/, Друцк, Няміга, Орша, Горваль, Свіслач, Лукомль, Лагойск, Полацак, Віцебск, Наваградак, Абольцы, Лебедзеў, Барысаў, Ліда, Любуцаск, Пералай, Радна, Менеск, Мчэнск, Заслаўе. Былыя радзіміцкія гарады: Чачэрск, Пракошын, Гомій, Рэчыца, Быхаў, дрыгавіцкія: Магілёў, Капыль, Мазыр лічыліся кіеўскімі з-за іх прыналежнасці ў мінулым да Русі. Валынскімі, з-за іх прыналежнасці да Валынскага княства, названы дрыгавіцкія Пінск і Берасце. Аднак да XV ст. назва «Літва» пашыраецца і на Быхава-Рэчыцкае падняпроўе, і на Палессе. Напрыклад, у 1406 г. у Вітаўтавай грамаце жыхары Севершчыны называюцца літоўцамі, а ў «Краткой Волынской летописи» ўкраінскае Палессе — «Деревская земля» называецца Літвой. Іпацьеўскі летапіс пад 1507 г. адзначае: «Глинский некто в Литве много зла починил... и Копыль и Туров доста и Мозыр».

Назва Літва ў дачыненні да старажытнабеларускіх земляў афіцыйна прызнаецца і ў дзяржаўных дакументах. У дамове 1405 г. паміж полацкімі і рыжскімі купцамі Полаччына называецца «Літоўскаю зямлёю». Выступае Полаччына, як Літва, і ў дамове Казіміра Ягайлавіча з Ноўгарадам ад 1440 года: «А рубеж Новугороду з Литвою по старому рубежу земли и воды, и с полочаны, и с витбляны, и с торопьчаны». І ў Маскоўіі старажытную Беларусь называюць Літвой, напрыклад, пад 1493 г. ва Усцюжскім летапісным зводзе знаходзім: «Князь великий Иван Васильевич послал воеводу князя Данила Васильевича Щеня в Литву и двор свои. И взяша Вязму и Дорогобуж и Мченск». Запіс у Іасафоўскім летапісе, 1513 г.: «А сами воеводы, призвав бога на помощь, пошли мимо Смоленска воевати в Литовскую землю и воевали Оршу, Дрюческ и Борисово по Менеск к Бряславлю». І для другіх краін старажытная Беларусь была Літвой, пра што добра сведчыць сярэдневяковая картаграфія. На італьянскай карце, выдадзенай у Рыме ў 1507 г., надпіс «Litnvania» аднесены да беларускіх земляў, а надпіс «Samogitia» якраз знаходзіцца на землях сучаснай Летувы. Тое самае і на карце Клаўса Магнуса /Венеция 1539 г./ — надпіс «Samogetnia» ахоплівае землі ад Балтыйскага мора да Вільні, а далей ужо на землях Беларусі надпіс — «Litvanie». На карце, выдадзенай у Базэлі /1540 г./, «Litvaniae» размешчана паміж Наваградкам і Пінскам — там, дзе некалі знаходзілася «Литва Миндовга». Пазначаны старажытнабеларускія землі як «Litvanie» на карце Вялікага княства Літоўскага Герарда Меркатара /1600 г./, прычым мяжа Літвы на поўдні пралягае па Прыпяці. І на карце, выдадзенай у Нюрэнбергу, старажытнабеларускія землі падпісаны Літвой.

Не буду доўжыць пералік — шматлікія факты паказваюць, што Беларусь з сярэдзіны XIV ст. носіць назву «Літва». Самі беларусы называюць сябе літвінамі. Вось некалькі выпісак з дакументаў Кракаўскага універсітэта: «Павел князь з Гродні, літвін», «Георгий літвін з Гадыўлавіч», «Ванцаслаў з Вавёркі, літвін». Як вядома, літвінам запісаўся і Францыск Скарына. Нямала прыкладаў і ў маскоўскіх дакументах: «иноземец литвин торговый человек полочанин Кондрашко Яковлев...», «... литвин Корнило Офанасьев... Кричевского повету...», «... литвин торговый человек сурожении Мишко Васильев», «Ивашка Еремеев сказался: родом литвин Гродцкого повету», «Осташко Жданов сказался: литвин Гродцкого повету», «Игнашко Григорьев, родом он литвин Оршанского повету», «литвин Ондрюшко Сидоров... Быховец». Нават праваслаўнага князя Рурыкавіча Канстанціна Астрожскага ў Маскоўіі прымалі за «литовского князя».

*(Працяг. Пачатак у N 26)*

Найменне «літвін», а не летувіс або «літовец» прызнавалася ўрадам ВКЛ як афіцыйная назва беларусаў: «А мне, великому князю Казимиру, королевичу, блюсти новогородца, как и своего литвина». І калі большасць даследчыкаў лічыць, што ў XIII—XIV стст. завяршыўся працэс фарміравання беларускай народнасці, дык першым, а таму і спрадвечным этнонімам беларусаў быў «літвіны». Пад гэтым найменнем беларускі народ жыў яшчэ і ў XX ст.

Разам з этнонімам «літвіны» ў старажытнай Беларусі ўжываліся і этніконы тыпу «палачаны», «смаляне», «палешукі» і др., якія ўказвалі на месца пражывання носьбітаў гэтых этніконаў, ужываўся і канфесіёнім «русские», «русины», які вызначаў прыналежнасць літвіна да «русской веры» — праваслаўя. Напрыклад, у Ягайлавай грамаце ў 1387 г. зазначана: «... всем местичам виленским... веры римское и руским, што суть руское веры...» І хаця, скажам, палачане і віцябляне спавядалі праваслаўе і па веры лічыліся «русскими», але да этнічных рускіх іх не адносілі. У дамове Казіміра з Ноўгарадам /1440 г./ асобна называюцца і палачанін, і віцяблянін, і смалянін, і русін. Ні Полацкае, ні Наваградскае княствы не называюцца Руссю ў літвінскіх летапісах.

Як літвіны станавіліся «русінамі», добра распавядае летапіс Красінскага. Пасля заваёвы Полацка міфічны літвінскі князь Гінвіл хрысціўся ў праваслаўе, пасля чаго, заключае летапісец, стаў «русином». «Русским» у этнічным значэнні было насельніцтва былой Русі /Кіеўскае, Чарнігаўскае, Галіцка-Валынскае княствы/, і калі ў 1658 годзе ўрад Рэчы Паспалітай пагадзіўся з украінскім гетманатам на стварэнне ўкраінскай дзяржавы, дык украінцы хацелі яе назваць княствам Рускім. А пасля таго, як Украіна адышла да Польшчы, з афіцыйнай назвы Вялікага княства Літоўскага знікае назва «Русское». І ў Маскоўіі лічылі, што ўкраінцы — гэта этнічныя рускія. Так, у маскоўскай грамаце жыхары памежнага з Украінай Лоева ўжо рускія: «И литовские де, государь, люди в Лоеве русских людей побили». Гэтымі «литовскими людьми» для маскавітаў былі беларусы: «Литовские люди и с Полотцка да з Друи»; «Литовские люди изо Мстиславля, из Могилева, из Пропойска, из Кричева, из Радомля, из Чичерска, из Гоим».

Што ж датычыцца летувісаў /жамойтаў і аўкштайтаў/, якія нібыта называлі беларусаў гудамі, дык тут з боку летувіскіх гісторыкаў назіраем падтасоўку фактаў. Хто такія гуды? Карскі лічыў іх готамі /гутонамі/, якія некалі аселі на землях паўднёва-заходняй Беларусі. Грынблат адносіў гудаў да ўсходняй галіны яцвягаў — давойнаў. Жамойты называлі гудамі готаў. Мы маем справу з экзаэтнонімам, які азначаў групу насельніцтва, якая была, з аднаго боку, аславянена, а, з другога боку, летувізавана. Вось таму летувісы называюць частку суседніх з імі беларусаў гудамі, але і беларусы называюць летувісаў гудамі. Для пастаўскіх беларусаў суседняя тэрыторыя Летувы /раён Свянцян/ — Гудуцёўшчына. Летувісы былой Усходняй Прусіі называлі жыхароў Жамойці і Аўкштайціі гудамі. Так што найменне гуды адносіцца і да самых летувісаў. Мы, беларусы, не можам пагадзіцца з прапановай летувісаў афіцыйна называць нас гудамі. /Зразумела, што за гэтым стаіць не гістарычная традыцыя, а палітычныя разлікі — каб давесці, што летувісы не называлі беларусаў літвінамі, а значыць не лічылі іх этнічнымі літвінамі, і самім прэтэндаваць на гэтае найменне з правам абвясціць сябе спадкаемцамі Вялікага княства Літоўскага/. Але вельмі паказальна, калі старажытную Літву ад Аўкштайціі аддзялілі яцвягі і гуды, дык суседзі з поўдня — палешукі — і да сённяшняга дня называюць жыхароў на поўнач ад сябе літвінамі.

Ды як здарылася, што Літва стала называцца Беларуссю, а літвіны — беларусамі. Першую згадку пра Белую Русь знаходзім у «Дублінскім рукапісе». Невядомы манах, які прыязджаў у часы Міндоўга на Літву, пісаў, што ягоны сябар місіянерстваваў на Белай Русі /in Alba Russia/. Пад 1305 год Іпацьеўскі летапіс паведамляе пра продаж літвінамі палонных палякаў на «Литве и Руси Белой». Але аўтары гэтых паведамленняў не лакалізавалі Белую Русь, і ў нас няма ніякіх падстаў лічыць, што гаворка ішла пра сучасныя беларускія землі. Нельга даць веры і запісу паляка Янкі з Чарнкава /1333—1385/, які пісаў, што Кейстут адправіў зняволенага Ягайлу ў Полацак — «крэпасць Белай Русі». Літвінскія летапісы, наадварот, указваюць, што Кейстут адпусціў Ягайлу ў Крэва. Значыць, Янка з Чарнкава карыстаўся недакладнымі звесткамі і сам вельмі цьмяна ведаў пра падзеі ў Вялікім княстве. Успаміны Янкі з Чарнкава дайшлі да нас у спісе XVI ст., так што, можна дапусціць, што перапісчык карыстаўся тэрміналогіяй свайго часу, калі назва Белая Русь пашырылася і на Полаччыну. Дакладна ўказаў знаходжанне Белай Русі /Weizzen Revzzen/ аўстрыйскі паэт П.Зухенвірт, які ў сярэдзіне XIV ст. пабываў на Літве. Горадам Белай Русі называе ён Ізборск. На Пскоўшчыну, а таксама і Ноўгарадчыну, як на Белую Русь, указвае ў 1413 г. магістр Тэўтонскага ордэна Генрых Паўлен, які ў лісце да чэшскага караля пісаў, што Вітаўт заключыў саюз з Псковам і Ноўгарадам, а таму Ордэну давядзецца ваяваць і з Белай Руссю /Wiesse Russen/.

Болей чым праз сто гадоў /1538 г./ Пскоўшчына, Ноўгарадчына разам з Масковіяй называецца Белай Руссю ў «Звычаях усіх народаў» Яна Багемскага. Аднак ёсць звесткі, што першапачаткова назву «Белая Русь» насіла Растова-Суздальская зямля. Расейскі гісторык XVIII ст. В.Тацішчаў пісаў, што назва «Белая Русь» выкарыстоўваецца пад 1135 годам у Раскольніцкім і Растоўскім летапісах у дачыненні да Растова-Суздальскай зямлі. Яшчэ раней пра Растова-Суздальскую зямлю, як пра Белую Русь, пісаў Якаў Рэйтэфельс: «Галоўным горадам гэтай вобласці /Белай Русі. — **В.Ч.**/ быў спачатку Уладзімір, а пасля Масква, і гэтае найменне застаецца за ёю і цяпер». Натуральна, што з аб'яднаннем рускіх земляў пад эгідай Масквы маскоўскія князі выкарыстоўваюць назву «Белая Русь» для вызначэння сваёй дзяржавы, а таксама земляў, што падпалі ў васальную залежнасць, як, напрыклад, Пскоўшчына і Ноўгарадчына, або Адоеўскае княства /Стрыйкоўскі называе адоеўскіх князёў беларускімі/. У пачатку XV ст. прускія рыцары ўжываюць найменне «Weise Rewsen» у дачыненні да Масковіі.

Манах Сымон Суздальскі ў сваіх нарысах пра Фларэнційскі сабор /1439 г./ называе Масковію «Белай Руссю». Пазней вялікі князь Іван III у грамаце да папы Паўла II /1469 г./ таксама называе Масковію «Белай Руссю», а ягоныя паслы выступаюць, як «послы государя Белой Руси». І сам Іван III афіцыйна тытулуецца ў грамаце «Ioannes dax Albae Russiae». «Князем Вялікай Белай Русі» названы Іван III ва ўспамінах італьянца Кантарыні, які ў пачатку 1477 года наведаў Маскву. І пры Васілю III /1505—1533/ Масковія носіць найменне «Белая Русь», прынамсі, так яна названа і ў лісце Васіля да папы Клемента VII. У 1514 годзе на Летарынскім саборы польскі канцлер Ян Ласкі маскавітаў называе «белымі рутэнамі». Захоўвалася найменне «Белая Русь» за Масковіяй і ў часы Івана Жахлівага. Так, у 1557 годзе венецыянскі пасол у Маскве ў сваёй справаздачы пісаў пра Масковію як пра «Верхнюю Белую Русь», а ў 1560 годзе другі венецыянскі пасол Франка Т'еполе адзначыў, што «Белая Русь» цяпер называецца Масковіяй. Называў Масковію «Белай Руссю» і вядомы сярэдневяковы географ Іовій. І гэта нельга растлумачыць няведаннем еўрапейцамі геаграфіі Усходняй Еўропы, бо калі і блізкія суседзі — палякі лічылі, што «Русь пад князем Маскоўскім Белай Руссю названа», дык у XV — XVI стст. было шырока вядома, што другая назва Масковіі — «Белая Русь». На тагачасных картах пад Белай Руссю пазначаецца Масковія /рымскай 1507 г., венецыянскай 1534 г./. А на карце кардынала Мікалая Кузана прама тлумачыцца: «Расія Белая або Масковія» /«Russia alba sive Moskovia»/.

Памяць, што Белая Русь — гэта Масковія, жыла ў літвінаў і ўкраінцаў яшчэ ў XIX ст. Гэтак ва ўкраінскіх песнях рускі цар называўся «Білый царь», а ў літвінаў «Белый Рускій царь», прынамсі, Рэйтэнфельс адзначыў, што маскоўскі гасудар як уладар Белай Русі набыў прозвішча «Белага», а У.Даль указваў, што рускія называлі свайго гасудара «белым».

Прыведзеныя факты не даюць нам падстаў лічыць найменне «Белая Русь» нашым спрадвечным, бо яно адносілася ў сярэднія вякі да Масковіі. І толькі пасля заваёвы Іванам Жахлівым Полаччыны і далучэння яе на дваццаць пяць гадоў /1558—1583 гг./ да Масковіі назва «Белая Русь» пашыраецца і на гэтую зямлю. Кромэр у выдадзенай у 1568 годзе кнізе «Пра паходжанне і гісторыю палякаў» адносіў да Белай Русі паўночна-ўсходнія землі Літвы, захопленыя Масковіяй. «Пашырыў межы» Белай Русі Гваніні. «Белая /Русь. — **В.Ч.**/ каля Кіева, Мазыра, Мсціслава, Віцебска, Воршы, Полацака, Смаленска і зямлі Северскай, якая здаўна належыць Вялікаму княству Літоўскаму». Заўважым, што на пералічаныя землі якраз і прэтэндавалі маскоўскія /беларускія/ князі і менавіта яны былі зацікаўлены ў пашырэнні гэтай назвы на ўсходнюю Літву і Русь /Украіну/.

Аднак назва «Белая Русь» пасля выгнання маскавітаў не знікла з усходнелітвінскіх земляў. Пра яе памяталі. Так, у 1622 годзе папскі нунцый Тарэса ў Польшчы піша, што «Белая Русь цягнецца ад Рыгі, сталіцы Ліфляндыі, да Маскоўскай мяжы, уключаючы Полацак, Воршу, Віцебск, Магілёў; Чорная Русь знаходзіцца паміж Літвой і Вільняй, да Кіева з гарадамі Пінскам, Наваградкам і Аўручам». Тарэса залічыў да Белай Русі частку Ліфляндыі, а да Чорнай Русі — частку Украіны. Болей дакладна лакалізавана Белая Русь у заяве праваслаўнай шляхты на Варшаўскім сойме /1623 г./ — гэта землі з гарадамі Полацкам, Віцебскам, Мсціслаўлем, Воршай, Магілёвам, Дзісной, да Літвы аднесены Вільня, Менск, Наваградак, Горадзен, Слонім, Берасце, Браслаў, Кобрын, Камянец; сучасныя ж летувіскія землі Літвой не названы. З другіх рэгіёнаў ВКЛ названы Палессе з гарадамі Пінскам, Оўручам, Мазыром; Падляшша з гарадамі Бельскам, Бранскам; Панізоўе /якое ў Гваніні выступае, як Белая Русь/ з гарадамі Крычаў, Чачэрск, Прапойск, Рагачоў, Гомель, Остр, Рэчыца, Любеч. Замацаванню назвы «Белая Русь» на Усходняй Літве паспрыяла заснаванне ў 1632 г. праваслаўнай Мсціслаўскай епархіі, епіскап якой Язэп Бабрыковіч тытулаваў сябе «епископ белорусский». У праваслаўных іерархаў краем Беларускім лічыліся землі да «епископіи Мстиславское, Оршанское и Могилевское належичае». Хаця ні ў літвінскіх летапісах, ні ў дзяржаўных актах Вялікага княства, ні ў мемуарах назва «Белая Русь» у дачыненні да Усходняй Літвы не ўжываецца. Значыць, яна не мела шырокага ўжытку і ёю, як вынікае з прыведзенных фактаў, карысталіся тады, калі гаворка заходзіла аб рэлігійных справах. Паранейшаму пад Белай Руссю разумелі Масковію. Гэта, прынамсі, засведчыў у сваім «Дыярыушы» Апанас Філіповіч. Адначасова захоўвае назву «Белая Русь» і Украіна. Багдан Хмяльніцкі тытулаваў сябе « гетман Белой Руси», а ягоны пісар Іван Выгоўскі вызначаў Белую Русь «от Смоленска к Киеву, и к Чернигову, и к Белой Церкве, и к Старому Констентинову». Менавита ад імя Белай Русі звяртаўся Хмяльніцкі да рускага цара Аляксея, каб «Киев и всю Белую Русь...» далучыць да Расеі.

Падзеі вайны Рэчы Паспалітай з Масковіяй /1658—1663 гг./ паспрыялі замацаванню назвы «Белая Русь» за Усходняй Літвой. Маскоўскі цар быў зацікаўлены, каб тыя літвінскія землі, на якія ён прэтэндаваў як на сваю «вотчину», называліся «Белаю Руссю». Цар намагаўся ідэалагічна апрацаваць урады еўрапейскіх краін. Так, паслу германскага імператара Майербургу растлумачылі ў Маскве: «Пад Малою ж Расіею разумеюць вобласці: Браслаўская, Падольская, Галіцкая, Самоцкая, Перамышльская, Львоўская, Белзская, Холмская, Валынская і Кіеўская... А пад Белаю, якая знаходзіцца паміж Прыпяццю, Дняпром і Дзвіною, з гарадамі Наваградкам, Менскам, Мсціславам, Смаленскам, Віцебскам і Полацкам ды іх ваколіцамі. Усё гэта калісьці належала па праву рускім, але ў выніку вайсковых удач яны саступілі шчасцю і харобрасці палякаў і літоўцаў». Як бачым, маскоўскі ўрад за Белую Русь выдаваў усю славянамоўную частку Літвы — дзеля таго, каб «па праву» далучыць яе да Масковіі. І як толькі маскоўскія войскі заваявалі Літву, Аляксей Міхайлавіч стаў тытулаваць сябе і гасударом «Белой России», тым самым нібыта паказваў, што гэтая назва спрадвечная для захопленых земляў. Заўважым яшчэ адну акалічнасць. Для маскавітаў Літва скончылася Вільняй, а далей пачыналася не акупаваная імі Жамойція, таму цар не прыбавіў у тытул «князя Жамойтского». Дарэчы, і для ўкраінцаў землі да Вільні былі Літвой, а далей была Жамойція. Напрыклад, у летапісе Самавідца прама ўказваецца: «... ку Вилню войною ишол /цар. — **В.Ч.**/ и усею Литву завоевал». Нельга не звярнуць увагі на тое, што цар пастараўся нейтралізаваць прэтэнзіі на Усходнюю Літву ўкраінскай казацкай вярхушкі на чале з «гетманам Белай Русі» Хмяльніцкім. Украіну цар не прызнае «Белай Руссю», нават сваім найменнем яе не называе, а хрысціць «Малой Россией».

## ЛІТВІНЫ — БЕЛАРУСЫ

### Частка 4

З бытаваннем на ўсходнелітвінскіх і ўкраінскіх землях назвы «Белая Русь» з'яўляецца і найменне «белорусец», напрыклад: «родом из литвин, белорусец», «родом они литовские пашенные люди, розных городов белорусцы», «мещане белорусцы» і г.д. Абэцэдарскі ў сваёй працы «У святле неаб-

***У планах Згуртавання беларусаў свету выдавецкай чыннасці надаецца важнае значэнне. Бо ці ж невядома, што значыць роднае слова для нацыянальнага Адраджэння, для з'яднання народа, падняцця яго духу, пашырэння ведаў пра сваю гісторыю, духоўную і матэрыяльную культуру. Менавіта на літаратуру патрыятычнага гучання і зарыентаваны Выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына». Пачаткам яго дзейнасці можна лічыць выданне кнігі Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам». Неўзабаве, хоць мы, на жаль, на пару тыдняў спазніліся і не здолелі зрабіць гэтага да З'езда беларусаў свету, выйдзе кніга вядомага эміграцыйнага аўтара Аўгена Калубовіча «На крыжовай дарозе», якую складуць найбольш цікавыя і значныя творы, ды «Успаміны» колішняга народнага абранніка ў польскі сейм ад Навагрудчыны Васіля Рагулі. Рыхтуецца да выдання салідны том паэта-эмігранта Рыгора Крушыны і «Старажытная Беларусь» Міколы Ермаловіча. Апошняя кніга адразу ж пасля выдання ў 1990 годзе стала рэдкасцю. Але гэтае выданне — не паўтарэнне папярэдняга, бо сюды, апрача Полацкага і Навагрудскага перыядаў, уключаецца і новы — Віленскі, а таксама гістарычныя карты, імянны, гістарычны і геаграфічны паказальнікі.***

***Прапаную ўвазе чытачоў невялікае слова пра Аўгена Калубовіча, які, не сумняваюся, заслугоўвае таго, каб пра яго самога і ягоную творчасць ведалі як мага шырэй ва ўсім нашым далёкім і блізкім замежжы, так і тут, на Бацькаўшчыне, з думкай пра якую ён жыў і пісаў.***

# НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ ГІСТОРЫІ

## СЛОВА ПРА АЎГЕНА КАЛУБОВІЧА

Імя Аўгена Калубовіча на Беларусі пакуль што малавядомае. І гэта зразумела — на працягу свайго існавання, за выняткам 20-х гадоў, камуністычная БССР, праводзячы імперскую палітыку Масквы, была павернута спіною да беларускага замежжа, у выніку чаго ўся наша свядомая эміграцыя аб'яўлялася «класава варожай». Калі пра яе й прасочваліся звесткі ў друк, дык толькі дзеля таго, каб у чарговы раз абліць брудам «класавай нянавісці» так званых белбурнацаў — беларускіх буржуазных нацыяналістаў. Аўген Калубовіч кваліфікаваўся яшчэ й як актыўны ідэалагічны працўнік. Ён, аўтар некалькіх кніг, на сваім горкім вопыце, на вопыце свайго народа /гаркаты тут таксама праз край!/ паказаў, як пад цяжкім сталінскім ботам была раструшчана чалавечая й нацыянальная годнасць, парасткі беларускай дзяржаўнасці.

А. Калубовіч нарадзіўся ў мястэчку Ціхінічы на Рагачоўшчыне 5 сакавіка 1912 года. Тут закончыў пачатковую школу. Пасля вучыўся ў Рэчыцы, у сямігодцы, у Бабчынскім педтэхнікуме Хойніцкага раёна. У маі 1930 года быў арыштаваны за ўдзел у тайнай арганізацыі альтруістых. Тры гады пакарання адбыў у канцэнтрацыйным лагеры на Далёкім Усходзе. Працаваў на радзіме настаўнікам, вучыўся ў Мінскім педінстытуце. З 1939 года быў на пасадзе кансультанта-метадыста ў Народным Камісарыяце асветы БССР. У гады вайны ўзначальваў Беларускае культурнае згуртаванне. Быў сябрам Беларускай Рады Даверу, сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады. Эміграваў на Захад, жыў у ЗША.

За гэтымі скупымі радкамі жыццяпісу — няпросты, пакручасты лёс чалавека, за якім праглядваецца і лёс народа, лёс Беларусі.

Калубовіч пачаў выступаць у друку яшчэ ў даваенны час, але ў сапраўднага даследчыка, пісьменніка-публіцыста сфарміраваўся на эміграцыі. У сваёй творчасці арыентаваўся як на ўласна перажытае, так і на дакладныя звесткі й факты, што паказвалі здратаваны лёс народа на крыжовых дарогах гісторыі.

Зразумела, літаратуры такога зместу было вельмі цяжка, практычна немагчыма праз надзейную жалезную заслону забаронаў прасачыцца сюды ў Беларусь. Становішча крыху памянялася ў гады васьмідзесятыя, калі ў Польшчу не толькі пачала трапляць з Захаду забароненая літаратура, але й перавыдавацца тут у падпольных друкарнях. Такім чынам былі выдадзены дзве працы Аўгена Калубовіча — «Айцы» БССР і іхні лёс» і «Акт 25-га Сакавіка й адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры». Пэўная частка накладу трапіла і ў Беларусь, але гэта былі ўсяго лічаныя асобнікі. І вось, нарэшце, частка з напісанага Калубовічам асобнай кнігай і законным шляхам вяртаецца на Бацькаўшчыну.

У кнігу ўвайшлі ўспаміны «На крыжовай дарозе» й два ўжо згаданыя творы аўтара. Яны аб'яднаныя адзінствам аўтарскага погляду на перажытае ім самім і народам, напоўненыя трывогай за лёс Беларусі й яе дзяржаўнасці, лёс дэмакратыі, звычайных правоў асобы. Гаворка пра гады трыццатыя, але хіба названыя праблемы не застаюцца й па сёння актуальнымі, менавіта цяпер, калі Беларусь і яе народ зноў апынуліся перад гістарычным выбарам, на драматычным раздарожжы паміж былым і наступным?! Скажаце, выбар здзейснены! Але хіба менш рашучы крок быў зроблены «Актам 25-га Сакавіка», калі Беларуская Дзяржава аднавіла сябе ў этнічных межах і ўзяла курс на незалежнае дэмакратычнае існаванне, арыентуючыся на агульнаеўрапейскі й сусветны вопыт. Але варыянту Фінляндыі не наканавана было сцвердзіцца на нашай зямлі: натуральны ход падзей быў гвалтоўна перапынены.

Тое, што ў кнізе Калубовіча агульны лёс народа падсвечаны ўласным вопытам аўтара, надае аповяду большай эмацыянальнасці й праўдзівасці. Значнасць перажытага ўдала тут спалучаецца з літаратурным талентам пісьменніка-публіцыста, які дасканала валодае родным словам, сакрэтамі стылёвай зграбнасці, уменнем эканомна і разам з гэтым уражліва падаць цяжкі матэрыял з турэмнай і лагернай рэчаіснасці. Эпізоды, карціны, што стройна выстройваюцца ў цэласнае апісанне, хвалююць, бяруць за жывое, абуджаюць суперажыванне за нявінна засуджаных на здзек, на катаванні толькі за тое, што яны людзі. Перад намі праходзяць дзесяткі, сотні чалавечых лёсаў, прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей, пазбаўленых усяго, сагнаных у адзін лагер.

Лагерная доля не абмінула ні такіх, як Аўген Калубовіч, непрыкметных на той час працаўнікоў нацыянальнага Адраджэння, ні тых, хто стаяў ля дзяржаўнай кіраўніцы. «Айцы» БССР і іхні лёс» — гэта амаль статыстычная выкладка фактаў станаўлення нацыянал-камунізму ў Беларусі, які прыйшоў на змену нацыянал-дэмакратызму. Дэкларатыўна адмяжоўваючыся ад сваіх папярэднікаў, нацыянал-камуністыя, аднак, па сутнасці імкнуліся працягваць ранейшую палітыку, як маглі адстойвалі незалежнасць роднага краю, арыентуючыся ў сваёй дзейнасці не на Маскву ці Варшаву, а на свой народ, на яго нацыянальнае Адраджэнне і дзяржаўнае самавызначэнне.

Факты, падзеі, даты, лёсы, дзейнасць канкрэтных асоб, іх характары — усё гэта, наша, беларускае, не ізалявана ад агульнасаюзных падзей: тут і закулісныя гульні такіх дзеячаў «сусветнага пралетарыяту», як Ленін і Сталін, што непасрэдна прычыніліся да сапраўды эпапейных акцый па перакройванні тэрыторыі Беларусі, якая станавілася разменнай манетай у «вялікай» палітыцы. Чым трывалей усталёўвалася ў краіне дыктатура, тым пабольшвалася трагічных момантаў: харакіры, вар'яцтва, расстрэл і самастрэл, згубства і самагубства лепшых людзей нацыі, мора чалавечай крыві, пакут, безліч пакарэжаных лёсаў. Так пісала сваю гісторыю ашалелая ад крыві імперыя, без разбору нішчачы ўсё і ўсіх, у чым бачыла, уяўляла хоць якую пагрозу для свайго існавання.

«Акт 25-га Сакавіка й адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры» напісаны Аўгенам Калубовічам у той час, калі тутэйшыя гісторыкі адмахваліся ад БНР як ад чагосьці нязначнага, нявартага ўвагі. Аднак дзейнасць БНР хаця й прызнаецца многімі сімпатычнай, але пераважна дэкларатыўнай, а не рэальнай. Варта перачытаць працу Калубовіча, дзе, як звычайна, аўтар апелюе да нас не словамі, а фактамі, якія наглядна паказваюць, як імкліва закладваўся трывалы падмурак пад нацыянальнае Адраджэнне, як вярталася народу яго мова, культура, традыцыі, гісторыя.

Сёння, калі паадчыняліся патаемныя сховы, сталі вядомыя многія факты, даты — напрыклад, даты арышту, расстрэлаў... Але штосьці ўдакладняць ці дапаўняць мы палічылі непатрэбным, бо гэтая кніга — факт не толькі літаратурны, але і гістарычны. Чытач сустрэне пэўныя паўторы, і гэта таксама зразумела — пад адной вокладкай тры асобныя творы аўтара. Друкуюцца яны з захаваннем асаблівасцяў дарэформеннага правапісу, стылю, лексікі.

Імянны паказальнік да ўспамінаў «На крыжовай дарозе» і «Айцы» БССР і іхні лёс» друкуюцца ў падрыхтоўцы аўтара. Да твора «Акт 25-га Сакавіка й адраджэнне нацыянальнай беларускай культуры», які друкуецца з двухмоўнага беларускага часопіса «Час» /1986, NN 53—54, 56/, падрыхтаваны імянны паказальнік.

Вяртаецца на Бацькаўшчыну імя, вяртаюцца творы...

**Яўген ЛЕЦКА**

# БЕЛАРУСКАЯ ПОШТА Ў АНГЛІІ

Беларуская эміграцыя ў Вялікабрытаніі невялікая па колькасці. Але з самага пачатку свайго жыцця ў гэтай краіне пасля падзей другой сусветнай вайны беларусы вызначаліся нацыянальнай свядомасцю і актыўнасцю ў грамадскім жыцці. Менавіта тут у 1946 г. паўстала адна з старэйшых нацыянальных беларускіх арганізацый — Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі /ЗБВ/. Адначасова з заснаваннем ЗБВ пачалося выданне часопіса «На шляху», інфармацыйных бюлетэняў. У наступныя гады пачалі дзейнічаць і іншыя арганізацыі — Згуртаванне беларускіх камбатантаў /ЗБК/, Беларускае хрысціянскае акадэміцкае аб'яднанне «Жыццё», Беларускі незалежніцкі народна-хрысціянскі рух, Саюз журналістаў. У 1949 г. быў створаны Каардынацыйны цэнтр беларускіх арганізацый у Вялікабрытаніі, кірункам дзейнасці якога была каардынацыя нацыянальна-культурнай і грамадскай працы, наладжванне трывалых сувязей паміж беларусамі Ангельшчыны і суродзічамі розных краін. У гарадах Брадфардзе, Манчэстэры, Нотынгеме, Бірмінгеме паўставалі аддзелы ЗБР і ЗБК.

Пасля легалізацыі ЗБВ беларусы атрымалі ліцэнзію на стварэнне ўласных прадпрыемстваў. Было адчынена бюро па перасылцы паштовых пасылак, стаматалагічная лабараторыя і фотастудыя. Сярод замежнікаў беларусы Ангельшчыны першымі купілі ў 1948 г. у Лондане дом як грамадскую маёмасць. Пазней на сабраныя грошы былі прыдбаны беларускія дамы ў Брадфардзе і Манчэстэры, якія сталі цэнтрамі беларускай працы і жыцця.

Беларусы прымаюць актыўны ўдзел у дзейнасці шэрагу міжнародных арганізацый і здолелі здабыць пашану сярод палітычных і грамадскіх дзеячаў. Асабліва шмат увагі прысвячаецца імі пашырэнню ведаў у свеце пра Беларусь, яе народ, традыцыі, беларускую ідэю незалежнасці. Для гэтага нашы суайчыннікі выяўляюць нямала здольнасцей, актыўнасці і энтузіязму, выкарыстоўваючы ўсе магчымасці. Цікавай з'явай у жыцці ўсёй эміграцыі было стварэнне ў 1971 г. «Пошты ЗБВ». Тады на працягу сямі тыдняў у Англіі баставалі паштовыя служачыя. У абставінах поўнай бяздзейнасці дзяржаўнай пошты Згуртаванне беларусаў папрасіла мясцовыя ўлады аб дазволе арганізаваць уласную. 17 лютага 1971 г. за подпісам акруговага поштмайстра сэра Д. А. Філіпа быў атрыманы станоўчы пісьмовы адказ, у якім гаварылася: «...Вам дазваляецца арганізаваць прыватную паштовую службу ад імя Згуртавання беларусаў, што знаходзіцца па адрасе 52 Пэнн Роуд, N 7, да часу, калі ўнутраная перасылка лістоў першага класа, а таксама замежная паветраная пошта будуць адноўлены». Галоўная Управа ЗБВ адразу ж спецыяльным паведамленнем абвясціла грамадства пра заснаванне пошты ЗБВ, падала адрасы часовых паштовых кантор і кошт паслуг.

Беларуская пошта мела ў Лондане тры аддзелы, якія двойчы на тыдзень прымалі пісьмы і пасылкі для дастаўкі іх як лонданскім адрасатам, так і жыхарам Оксфарда, Бірмінгема, Манчэстэра, Брадфарда, дый нават і за мяжу. Для аплаты паштовых збораў ужываліся, побач з англійскімі, і беларускія паштовыя маркі. Пакуль не былі надрукаваны ўласныя маркі, «Пошта ЗБВ», карысталася маркамі БНР з паметкай «ZBVB Post», належна аплачаных у англійскай валюце. Гэта былі маркі з партрэтамі П. Крэчаўскага, В. Захаркі і выяваю Дома Рады БНР у Мінску. Яны ў свой час былі надрукаваны ў Нямеччыне. Маркі БНР былі ў афіцыйным ужытку «Пошты ЗБВ» да 10 сакавіка 1971 г.

Згуртаванне Беларусаў Вялікабрытаніі за кароткі тэрмін існавання беларускай пошты здолелі выпусціць і ўласныя паштовыя маркі коштам 1, 5, 10, 15 і 20 пенсаў з выглядам важнейшых гістарычных помнікаў беларускага дойлідства ў Нясвіжы, Супраслі, Полацку, Магілёве. Праца па стварэнні «Пошты ЗБВ» і яе дзейнасць яскрава паказалі англійскаму грамадству руплівасць беларускіх эмігрантаў, якія змаглі, у адрозненне ад іншых нацыянальнасцяў, выкарыстаць забастоўку паштавікоў для прапаганды свайго, беларускага імя. А філатэлісты атрымалі магчымамасць папоўніць свае калекцыі своеасаблівымі і рэдкімі беларускімі паштовымі маркамі.

Крыху пазней, у траўні 1978 г., у Лондане была зарэгістравана Беларуская замежная пошта /B. Z. P. Dispatch Company/. Як самастойнае незалежнае прадпрыемства яна пачала сваю дзейнасць 18 жніўня 1978 г., ставячы сваёй мэтай хуткую перасылку газет, пасылак, іншай карэспандэнцыі паміж беларускімі арганізацыямі і асобамі, а пры дамоўленасці — і прыватных лістоў і паведамленняў. Паштовыя канторы размяшчаліся ў Лондане, Дубліне /Ірландыя/ і Парыжы.

Праца беларускай пошты ў Вялікабрытаніі мае значны нацыянальны аспект. Русіфікацыя прывяла амаль да поўнай страты нацыянальнага характару ўсіх бакоў жыцця на Беларусі. І цяпер, у час адраджэння Бацькаўшчыны, многія здабыткі дзейнасці беларусаў замежжа дапамогуць аднаўленню нашых духоўных вартасцяў, захаванню культурных і нацыянальных каштоўнасцей беларускага народа.

**Анфіса ЛЯДНЁВА**

ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 8.07.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12